АПЕРАЦЫЯ «БАГРАЦІЁН»

WHO STOLE THE KEESHKA?

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 www.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 6 (11)
2019

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ISSN 2617-2305

## ГОРАД, ЯКОГА НЯМА

БЕРАСЦЕ BRISK БЕРЕСТЬ

BREST 1000



ЯК БЕЛАРУСЫ ПЕРАВЕЗЛІ Ў МАСКВУ ЗАЛАТЫ ЗАПАС ІСПАНІІ

## «КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ ГІНЕ»

ЯК ПАГЛЫБЛЕНАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ З ПОЛЬШЧАЙ ПРЫВЯЛА ДА ЛЮБЛІНСКАЙ УНІІ

16+

## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 78б
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)

«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

**Пінск**
«Мой модны кут» (вул. Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

## Падпісны індэкс 00469

**Наша Гісторыя**
6/2019

history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.



На першай старонцы вокладкі — 1914 год. Фядосія Дарашук і Прузына Коцік з Вулькі. Здымак зроблены ў фотасалоне Брэста. Захоўваецца ў сына Фядосіі — Сцяпана Сідарука (**старонка 75**).

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** nn@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 10.06.2019.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0480/19.
Наклад 10 500 асобнікаў (1-ы завод 5600).

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

## Ад рэдакцыі

Роўна 450 гадоў таму, 1 ліпеня 1569 года, адбылася падзея, якая стала важным рубяжом у гісторыі Беларусі. У гэты дзень згодна з пастановай сойма ў Любліне перасталі існаваць як асобныя дзяржавы Вялікае Княства Літоўскае і Каралеўства Польскае, а ўтварылася паўнавартасная саюзная дзяржава — Рэч Паспалітая «абодвух народаў». Унутры яе кожны суб'ект захоўваў пэўную самастойнасць, але ў цэлым федэрацыя не была раўнапраўнай — на працягу больш чым двух стагоддзяў існавання Рэчы Паспалітай у ёй заўсёды дамінавала Польшча. Не толькі палітычна, але і культурна. Што значна паўплывала на далейшы гістарычны лёс нашага народа.

Гэтае дамінаванне пачалося не з Люблінскай уніі, яна толькі ўвянчала агульную тэндэнцыю. XVI стагоддзе было ў нашай гісторыі парадаксальным. З аднаго боку, гэта час вялікіх культурных дасягненняў, якімі справядліва ганарацца сучасныя беларусы: выданне першых кніг на старабеларускай мове Францішкам Скарынам і ягонымі паслядоўнікамі, складанне на той жа мове трох Статутаў ВКЛ. Але тады ж пазначыўся і відавочны заняпад гэтай мовы, страта ёй былога грамадскага прэстыжу. Характэрна, што пераважная большасць поўных горычы лістоў, якімі абменьваліся паміж сабой прыхільнікі незалежнасці ВКЛ перад заключэннем уніі, былі ўжо польскамоўнымі.

Прыблізна тады ж вядомы асветнік Васіль Цяпінскі ў прадмове да свайго перакладу Евангелля наракаў: «Бо хто ж з набожных не задрыжыць, на такое знішчэнне Божае гледзячы, хто б не мусіў плакаць, бачачы (з боку) гэткіх вялікіх князёў, такіх значных паноў... занядбанне сваёй слаўнай роднай мовы і папросту пагарджэнне ёю... Тыя, якія між імі (людзьмі) завуцца духоўнымі асобамі і настаўнікамі... не толькі найменш ёю валодаюць, найгорш яе разумеюць і не навучаюцца на ёй, але ж нават і школы для яе вывучэння нідзе не маюць...». Пазней сітуацыя толькі пагоршала.

Вядома, моўная і культурная паланізацыя закранала тады перадусім толькі эліту грамадства, народныя масы збольшага захоўвалі традыцыйны лад жыцця. Але гэта праз стагоддзі значна абцяжарыла станаўленне ўжо мадэрнай беларускай нацыі, выкапаўшы паміж элітамі і народам прорву не толькі ў сацыяльным, але і ў моўна-культурным вымярэнні.

Гэта зусім не значыць, што часы Рэчы Паспалітай для Беларусі ва ўсім былі цёмныя. Неацэнна тое, што ў складзе гэтай дзяржавы нашы землі былі ўключаныя ў агульнаеўрапейскі культурны працэс, належалі да Еўропы не толькі геаграфічна, але і цывілізацыйна. Са спалучэння пазітыўнага і негатыўнага, уласна кажучы, і складаецца гістарычны працэс.

Але галоўны ўрок Люблінскай уніі таксама не трэба забывацца: занядбанне сваёй мовы і культуры падкладае міну запаволенага дзеяння і пад сваю дзяржаўнасць, а раўнапраўная інтэграцыя немагчымая, калі патэнцыял партнёраў занадта адрозніваецца.



4

ВКЛ

## «Наша літоўская бездань»: закуліссе Люблінскай уніі

450 гадоў таму ВКЛ вымушана пагадзілася на «паглыбленую інтэграцыю» з Польшчай у пазіцыі слабейшага. Піша кандыдат гістарычных навук Уладзімір Падалінскі




14




34





29



18


38


44


18












Ваў! Я адшукаю сякеру Перуна!

WIKIMEDIA COMMONS, MARCIN BIAŁEK,

450 гадоў таму ВКЛ вымушана пагадзілася на «паглыбленую інтэграцыю» з Польшчай у пазіцыі слабейшага

**Каралеўскі замак у Любліне.** Сучасны выгляд.

# «Наша літоўская бездань»

## закуліссе Люблінскай уніі

**У пятніцу 1 ліпеня 1569 года ў каралеўскім замку ў Любліне паны-рада ды земскія паслы Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай сваёй прысягай зацвердзілі дамову аб дзяржаўнай уніі. Вялікае Княства, абяскроўленае Інфлянцкай вайной з Масковіяй, паводле ўмоваў уніі мусіла знікнуць з палітычнай карты Еўропы як асобная дзяржава. А перад гэтым кароль Жыгімонт Аўгуст адабраў ад ВКЛ тэрыторыі Падляшша і Украіны ды далучыў іх да Польшчы. Як на ўсё гэта рэагавала эліта Вялікага Княства, піша кандыдат гістарычных навук Уладзімір Падалінскі.**

Архівы захавалі шмат прыватнай карэспандэнцыі магнатаў і шляхты ВКЛ таго часу. Аўтары лістоў шчыра выказваліся пра лёсавызначальныя падзеі, што разгортваліся ў іх на вачах і ў якіх яны самі хоцькі-няхоцькі мусілі браць удзел. Дык чым была «паглыбленая інтэграцыя» ўзору XVI стагоддзя для нашых продкаў: трагедыяй ці здзяйсненнем мары? Дамо ім слова.

## Клубок супярэчнасцяў

Усе 1560-я гады паміж ВКЛ і Каронай ішлі цяжкія перамовы аб умовах новай уніі. Эліта Вялікага Княства хацела толькі ваенна-палітычнага саюзу з Польшчай, каб атрымаць дапамогу ў барацьбе з Маскоўскай дзяржавай. Каронная ж шляхта выступала за інкарпарацыю ВКЛ у склад Кароны. Гэта супадала з інтарэсамі караля і вялікага князя. Жыгімонт Аўгуст, апошні з Ягелонаў, не меў нашчадкаў мужчынскага полу і хацеў захаваць саюз ВКЛ і Польшчы нават пасля згасання дынастыі.

Унійны сойм ішоў больш за паўгода, да 12 жніўня 1569 года. Ён пачаўся ў Любліне 10 студзеня. Аднак супярэчнасці паміж кароннай і велікакняжацкай дэлегацыямі прывялі да таго, што ў ноч на 1 сакавіка прадстаўнікі ВКЛ з'ехалі, нават не папярэдзіўшы пра свае намеры караля. Вынікі гэтага дэмаршу былі для ВКЛ катастрафічнымі: Жыгімонт Аўгуст сваім рашэннем далучыў да Польшчы Валынскае, Падляшскае і Брацлаўскае ваяводствы, якія раней уваходзілі ў склад ВКЛ.

Паслы Вялікага Княства вымушаныя былі вярнуцца ў Люблін, каб працягнуць перамовы.

## І спадзяванні, і песімізм

Інкарпарацыя Падляшша і часткі ўкраінскіх зямель стала нечаканасцю. Палітычная эліта ВКЛ не мела плана дзеянняў для такой сітуацыі. Хтосьці прапаноўваў склікаць паспалітае рушанне для абароны ад палякаў, іншыя схіляліся да перамоў з манархам і пошукаў кампрамісу. Былі і спадзяванні, што Жыгімонт Аўгуст перагледзіць сваё рашэнне. У красавіку дворны маршалак, падканцлер ВКЛ Астафей Валовіч пісаў да брацлаўскага ваяводы і выканаўцы абавязкаў дворнага гетмана ВКЛ Рамана Сангушкі: «Мам надзею ў Бозе, жэ ся [Вялікае Княства Літоўскае] паратуе» (што ўратуецца).

Аднак настроі велікакняжацкай магнатэрыі рабіліся ўсё больш песімістычнымі. Віленскі ваявода, канцлер Мікалай Радзівіл Руды 1 чэрвеня ў лісце да Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі адкрыта казаў, што «Княства Літоўскае гіне або ўжо загінула», а саму палітычную сітуацыю, у якой аказалася дзяржава, называў «нашай літоўскай безданню».

Пры канцы мая ў Люблін сталі з'язджацца прадстаўнікі Вялікага Княства Літоўскага. Іх настроі таксама былі далёкімі ад аптымізму. Фактычны кіраўнік велікакняжацкай дэлегацыі на Люблінскім сойме ўлетку 1569 года, жамойцкі староста і земскі маршалак Ян Хадкевіч, звяртаючыся да Мікалая Радзівіла Рудога, даволі яскрава выклаў свае адчуванні ў той момант: «Да чаго бедная і няшчасная Рэч Паспалітая (тут і далей пад Рэччу Паспалітай у перапісцы маецца на ўвазе ВКЛ. — У. П.) наша прыйшла і з часам яшчэ больш прыходзіць, таго мне Вашай Міласці, майму міласціваму пану, пісаць не патрэбна, бо пан усе гэтыя рэчы сам добра ведае. І такі незвычайны боль ахоплівае ▶




**Акт Люблінскай уніі ад 1 ліпеня 1569 года.**

сэрца жахам, гледзячы на тое, што з намі адбываецца».

Дарэчы, сам Мікалай Радзівіл Руды ў Люблін больш не вярнуўся. Афіцыйна ён тлумачыў манарху сваю адсутнасць на сойме хваробай. Аднак прыватныя лісты сведчаць, што віленскі ваявода байкатаваў пасяджэнні сойма. «Я такога прымусу або няшчасця магу і дома дачакацца!» — пісаў ён 30 мая.

### «Ці варта на што добрае спадзявацца па той нашай нязгодзе...»

Тагачасны стан палітычнай эліты ВКЛ не прарочыў станоўчых вынікаў. Эліта была падзеленая на групоўкі і не мела адзінага плана дзеянняў. Гэта аслабляла яе пазіцыі ў перамовах. Накіроўваючыся ў Люблін, у канцы мая Ян Хадкевіч пісаў Мікалаю Радзівілу Рудому: «Як разумны чалавек, сам бачыш, якія планы ёсць у дачыненні да нас і ці варта на што добрае спадзявацца па той нашай нязгодзе». А ўжо ў самім Любліне жамойцкі стараста і земскі маршалак неаднойчы паўтараў: «Прыязджай, Ваша Міласць, для ратавання той беднай Рэчы Паспалітай, бо ніводнай надзеі на тых, з якімі з'ехаліся, не маем...» Зрэшты, Радзівіл адносна гэтага і сам не меў ніякіх ілюзій: «Якая сёння паміж намі згода, тое і сляпы можа бачыць».

Увесну 1569-га шляхта, якая мела маёнткі ў Падляшшы і на Валыні, павінна была прысягнуць на вернасць каралю і Кароне. За адмову ёй пагражала пазбаўленне пасад і канфіскацыя ўладанняў. І гэта былі не пустыя словы: Жыгімонт Аўгуст пазбавіў пасад падляшскага ваяводу Васіля Тышкевіча і падляшскага кашталяна Рыгора Трызну, якія заўпарціліся.

Прысяга паказала, які раскол панаваў сярод вялікакняжацкага шляхецтва. Як адзначаў Ян Хадкевіч, «адныя хоць не рады, але мусяць, другія ж насустрач таму бягуць». Прычым жаданне далучыцца да Кароны адзначалася нават на тых землях, якія мелі застацца ў складзе ВКЛ. У пачатку траўня Астафей Валовіч паведамляў, што сярод шляхты Берасцейскага павета ёсць значная колькасць асобаў, гатовых далучыцца да Польшчы. На павятовым сойміку 10 траўня берасцейскія паслы атрымалі ад

**Мікалай Радзівіл Руды байкатаваў сойм: «Я такога прымусу або няшчасця магу і дома дачакацца!»**

мясцовай шляхты адназначны наказ: «Загадала брація не вяртацца дадому без якой-небудзь уніі. З тым дадаткам, што не хоча адрывацца ад братоў сваіх, паноў валынскіх».

Такая пазіцыя толькі ўзмацняла разгубленасць палітычнай эліты ВКЛ. Земскі падскарбі, пісар Мікалай Нарушэвіч з жалем пісаў з Любліна: «Калі так і з іншых паветаў вырашылі адрывацца ад той няшчаснай сваёй Айчыны, то не ведаю, з чым ужо застанемся!»

З другога боку, пытанне прысягі на вернасць Кароне выявіла ды ўзмацніла глыбокія патрыятычныя пачуцці ў іншай часткі вялікакняжацкай магнатэрыі. Радзівіл Руды заклікаў стрыечнага пляменніка Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіротку як мага даўжэй ухіляцца ад прысягі са сваіх валынскіх маёнткаў і падкрэсліваў: «Як Радзівіл і прыроджаны літвін, а не падляшанін або валынец, супраць сваёй Рэчы Паспалітай, у якой Ваша Міласць нарадзіўся,





**Гравюра з выявай Любліна** з атласа Георга Браўна і Франца Гогенберга «Гарады зямнога свету» (Кёльн, 1617).

# Кароткая гісторыя польска-літоўскай інтэграцыі

Люблінская унія, заключаная паміж Каралеўствам Польскім і Вялікім Княствам Літоўскім 1 ліпеня 1569 года, фактычна ліквідавала ВКЛ — зрэшты, як і Каралеўства Польскае, — як асобны суб'ект тагачасных міжнародных адносін. Замест гэтага была створана саюзная дзяржава пад назвай Рэч Паспалітая — фармальна раўнапраўная федэрацыя «абодвух народаў», але з яўным дамінаваннем польскага боку. Якое было не толькі палітычным, але і культурным — паланізацыя эліты Вялікага Княства, ужо вельмі заўважная і да уніі, пасля 1569 года толькі набрала размаху. У выніку напрыканцы існавання Рэчы Паспалітай многія магнаты і шляхта ВКЛ, хоць і захоўвалі адчуванне адметнасці, ужо і самі ахвотна звалі сябе палякамі, а сваю дзяржаву — Польшчай. Хай сабе і ўкладаючы ў гэтыя акрэсленні не зусім этнічны сэнс.

Да Люблінскай уніі літвіны і палякі прыйшлі не за адзін год і нават не за адно дзесяцігоддзе. Пачынаючы з канца XIV стагоддзя паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Каралеўствам Польскім было заключана некалькі міждзяржаўных пагадненняў, якія мелі ў сваёй назве слова «унія»: Крэўская унія 1385 года, Віленска-Радамская — 1401-га, Гарадзельская — 1413-га, Гарадзенская —1432-га, Кракаўска-Віленская — 1499-га, Мельніцкая — 1501-га.

Першыя чатыры згаданыя уніі былі пагадненнямі не так аб дзяржаўным, як аб дынастычным саюзе, хоць польская арыстакратыя заўсёды трымала ў галаве спадзяванне на поўную інкарпарацыю ВКЛ у склад Каралеўства Польскага. У акце Крэўскай уніі 14 жніўня 1385 года вялікі князь літоўскі Ягайла, якога палякі запрасілі на свой трон, апусцелы пасля смерці караля Людовіка Венгерскага, нават абавязваўся «землі свае Літвы і Русі навечна далучыць да кароны Каралеўства Польскага».

Але пасля ўсё пайшло не так гладка, як таго хацелася польскаму боку. Атабарыўшыся ў Кракаве, Ягайла неўзабаве фактычна страціў кантроль над землямі ВКЛ, які пераняў ягоны стрыечны брат Вітаўт — уладар з вялікімі палітычнымі амбіцыямі. І каб яму заўсёды спрыяла ваенная ўдача, то, магчыма, на гэтым гісторыя польска-літоўскай інтэграцыі і завяршылася б. Але ў 1399 годзе Вітаўт пацярпеў буйную паразу ад татараў на Ворскле, а таксама сутыкнуўся з унутрыпалітычнымі праблемамі.

У такіх умовах ён быў вымушаны ў 1401 годзе пайсці на заключэнне новай, Віленска-Радамскай уніі, якая хоць і захоўвала ў руках Вітаўта вялікакняжацкую ўладу, але прызнавала над ім вяршэнства Ягайлы. Новая, Гарадзельская унія, заключаная 2 кастрычніка 1413 года, пэўныя рэчы ўдакладняла і нават карэктавала на карысць ВКЛ, але агульнага становішча прынцыпова не мяняла.

Пакуль быў жывы Вітаўт, то гэта ўсё не мела такога ўжо вялікага значэння, бо вярхоўная ўлада Ягайлы была пры ім больш фармальнай, чым рэальнай. Галоўная ж праблема была ў тым, што Вітаўт не меў нашчадкаў, а ўнійныя акты прадугледжвалі, што ў такім выпадку пасля ягонай смерці поўная ўлада над ВКЛ мусіла перайсці да Ягайлы ці ягоных нашчадкаў. У канцы жыцця Вітаўт спрабаваў вырашыць гэтую праблему, каранаваўшыся на караля Літвы, але зрабіць гэтага не паспеў. Пасля ягонай смерці ў 1430 годзе ў ВКЛ на два гады выбухнула грамадзянская вайна, а пасля яе заканчэння 15 кастрычніка 1432 года была заключана чарговая, Гарадзенская унія, якая збольшага паўтарала ўмовы Віленска-Радамскай уніі 1401 года. У выніку пасля забойства ў 1440 годзе вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча, роднага брата Вітаўта, да ўлады ў ВКЛ прыйшоў сын Ягайлы Казімір. З 1447 года ён пасля гібелі брата Уладзіслава стаў таксама і польскім каралём. З гэтага часу аж да 1572 года і ВКЛ, і Польшчай кіравала дынастыя Ягелонаў, прытым звычайна, з нешматлікімі выключэннямі, абедзвюма дзяржавамі кіраваў адзін і той жа манарх.

Некалькі дзесяцігоддзяў такая сітуацыя ўсіх збольшага задавальняла, тым больш што да канца XV стагоддзя і замежнапалітычная, і ўнутрыпалітычная сітуацыя ў рэгіёне была адносна спакойнай. Але ў той жа час на ўсходзе ўзмацнялася Маскоўскае княства, якое ў 1480 годзе канчаткова скінула з сябе залежнасць ад Залатой Арды і пачало змаганне за рускія землі ВКЛ.

Небяспека на ўсходзе прымусіла эліты Вялікага Княства зноў шукаць падтрымкі з боку Польшчы. Тая ж, скарыстаўшы складаную сітуацыю, у якой апынуўся «брацкі народ», зноў стала сур'ёзна думаць пра інкарпарацыю ВКЛ у свой склад. Гэтай мэце мусілі служыць заключаныя адпаведна 6 мая 1499-га і 23 кастрычніка 1501-га Кракаўска-Віленская і Мельніцкая уніі. Паводле ўмоваў апошняй, у будучыні замест прынамсі фармальна асобных спадчынных манархаў мусіў абірацца супольны кароль для дзвюх дзяржаў, а таксама прадугледжвалася ўвядзенне адзінай сістэмы грашовага абарачэння і правядзенне адзінай замежнай і ўнутранай палітыкі. Мала без чаго тое самае, што пасля было ўведзена Люблінскай уніяй.

Тады элітам Вялікага Княства ўдалося адбіцца ад гэтых прапаноў — сабраны ў 1505 годзе сойм ВКЛ, які мусіў зацвердзіць акт уніі, адмовіўся гэта зрабіць. Але гэта, як аказалася, толькі на некалькі дзесяцігоддзяў адцягнула канец Вялікага Княства Літоўскага як асобнай дзяржавы, але не ўратавала яго. У 1560-я гады ВКЛ, змушанае ўступіць у распачатую маскоўскім царом Інфлянцкую вайну, апынулася ў яшчэ больш складанай, практычна безнадзейнай сітуацыі. І тут ужо палякі літвінаў дацiснулі...




**Мікалай Радзівіл Руды**, у 1569 годзе віленскі ваявода і канцлер ВКЛ.

▶ прысягаць не павінен». Віленскі ваявода нагадваў маладому сваяку пра ролю Радзівілаў у гісторыі Вялікага Княства: «З гэтай прысягай адступіш ад Айчыны, у якой продкі твае, мой мілы пляменнік, жывучы, яе на плячах сваіх насілі, сцераглі, абаранялі, аб ёй раіліся і так яе цэлай нам, сваім нашчадкам, пакінулі». Падобны дзяржаўны патрыятызм можна было заўважыць сярод магнатэрыі рознага этнічнага паходжання. І для «ліцвінаў» Радзівілаў, і для «русінаў» Хадкевічаў Вялікае Княства Літоўскае было «сваёй Рэччу Паспалітай», гэта значыць «сваёй рэспублікай».

## Надзеі ўжо няма

Пасля вяртання ў Люблін велікакняжацкіх радных паноў і земскіх паслоў Жыгімонт Аўгуст нанёс удар, які «дабіў» дэлегацыю ВКЛ. Каралеўскім прывілеем ад 5 чэрвеня да Кароны Польскай была далучана яшчэ і Кіеўшчына. Лісты, якія дасылалі з Любліна радныя паны віленскаму ваяводу, сведчылі, што надзей на паспяховае для ВКЛ правядзенне далейшых перамоў адносна ўмоваў уніі ў іх ужо няма. Ян Хадкевіч пісаў: «Усе справы нашыя па-ранейшаму ідуць да горшага. І не ведаю, каб [мы] чаму маглі ўжо перашкодзіць».

Пасля некалькіх дзён цяжкіх перамоў з палякамі, 11 чэрвеня, Мікалай Нарушэвіч ахарактарызаваў палітычную сітуацыю ў Любліне як «апошнюю мяжу першай Рэчы Паспалітай нашай», а само Вялікае Княства называў «бедней дзяржавай».

## Хто вінаваты?

Віну за адарванне Падляшша і Валыні магнаты ВКЛ ускладалі на палякаў. Жыгімонта Аўгуста на той момант непасрэдна ні ў чым не абвінавачвалі. Яшчэ ў канцы траўня крайчы ВКЛ Крыштаф Радзівіл Пярун прасіў Радзівіла Сіротку паведаміць яму, «да якога канца наш народ літоўскі з-за добразычлівасці да нас паноў братоў нашых [палякаў] там у Любліне прыйдзе». Мікалай Радзівіл Руды не верыў, што палякі жадаюць раўнапраўнай уніі паміж дзяржавамі: «...Аднак што сабе паляк утварыў да свайго дабра, а на маё зло, тое ты, літвін, прысягні, прызнай, пацвердзі яго вяршэнства над табой і сваё падданства яму». Ян Хадкевіч абураўся, што палякі, адабраўшы ў Вялікага Княства «ўсіх людзей», не хочуць дапамагаць супраць агрэсіі Маскоўскай дзяржавы: «А тое [робяць], так разумею, для хутчэйшага нашага вынішчэння».

Пакрысе прыходзіла і разуменне, што падляшская ды ўкраінская шляхта была зусім не супраць пакінуць Вялікае Княства і ўвайсці ў склад Кароны. Мікалай Нарушэвіч 11 чэрвеня 1569 года пісаў Мікалаю Радзівілу Рудому: «Ужо аб падляшанах зусім не сумняюся, што самі прагнулі таго адарвання. Аднак і аб панах-валынцах таксама бачу, што ніякага вялікага гвалту на сабе не мелі, аднак самі паспяшаліся да таго».

Чым тлумачылася такая пазіцыя падляшскай і ўкраінскай шляхты? Прычыны былі розныя. Найперш, у Польшчы шляхта мела больш магчымасцяў, чым у ВКЛ. Для ўкраінскай і падляшскай шляхты палітычныя выгады пераважвалі вялікалітоўскі патрыятызм. На Падляшшы ж здаўна былі распаўсюджаны польскае права і польская мова, у выніку чаго да 1560-х большасць мясцовага шляхецтва апалячылася. Да таго ж у гэтым этнічна змешаным рэгіёне было шмат і этнічных палякаў, у тым ліку і сярод шляхты. Менавіта таму ідэя далучыцца да Польшчы атрымала тут шырокую падтрымку.

У сваю чаргу, шляхта і магутныя княжацкія роды Валыні спачатку занялі пазіцыю чакання. Не ўбачыўшы, аднак, нейкіх рашучых крокаў з боку палітычнай эліты ВКЛ, яны вырашылі пагадзіцца на далучэнне да Кароны і ўжо ў яе складзе забяспечыць свае інтарэсы пры захаванні сацыяльна-палітычных правоў ды вольнасцяў. Існавалі спадзяванні, што мацнейшая ў ваенным і эканамічным плане Польшча здолее больш эфектыўна абараніць украінскія землі, асабліва Кіеўшчыну, ад разбуральных набегаў крымскіх татар. Таксама верагодна, што мясцовая эліта разлічвала на павелічэнне свайго палітычнага значэння менавіта ў «дэмакратычнай» Кароне, а не ў Вялікім Княстве, уся ўлада ў якім належала фактычна двум магнацкім родам — Радзівілам і Хадкевічам. У любым разе

выглядае, што для валынскай шляхты гэта быў хутчэй палітычны выбар у надзвычайнай сітуацыі, чым устойлівае ідэйнае жаданне змяніць дзяржаўную прыналежнасць.

**Хадкевіч абураўся, што палякі, адабраўшы ў ВКЛ «усіх людзей», не хочуць дапамагаць супраць Масквы: «Так разумею, для хутчэйшага нашага вынішчэння»**

Відаць, асабліва крыўдна было дэлегацыі ВКЛ ад усведамлення факта, што далучэнне да Польшчы Кіеўшчыны адбылося шмат у чым па ініцыятыве валынскай шляхты. «...Некаторыя валынскія паслы раілі, каб Кароль Яго Міласць, калі ўжо Валынь далучыў да Польшчы, каб і Кіеў таксама [далучыў], паколькі не да Русі, але да Валыні належыць», — паведамляў у Вільню Ян Хадкевіч. Жамойцкі стараста не стрымліваўся на соймавых пасяджэннях, характарызуючы шляхту ВКЛ, якая падтрымала інкарпарацыю ў склад Польшчы: «Тыя, хто ўжо сам да Кароны далучыўся, учынілі гэта як нейкія рабы, не ўжываючы сваіх вольнасцяў і свабод».

Гняло патрыётаў ВКЛ тое, што кароль і польскія паны вядуць да заключэння уніі без згоды Вялікага Княства, не звяртаючы ўвагі на яго прывілеі і вольнасці. Радзівіл Руды ў лісце да Рамана Сангушкі заклікаў палітычную эліту да актыўных дзеянняў, каб манарх іх «яка хлопаў, а не шляхты палякам не дараваў». А Ян Хадкевіч казаў, звяртаючыся да караля на адным з соймавых пасяджэнняў: «Аб людзях вольных і прыстойных ніхто нічога завочна вырашаць не можа». Аднак пратэсты гэтыя нікога не хвалявалі.

### Бітва прайграная, але барацьба працягваецца

Тое, наколькі блізка да сэрца прымалі магнаты-патрыёты інкарпарацыю ВКЛ, ілюструе наступны выпадак. У чэрвені троцкі кашталян Юрый Хадкевіч на сумесным абедзе з Янам Хадкевічам і сандэцкім кашталянам Ярашам Асалінскім заявіў, што з-за любові да сваёй Айчыны ён не хоча дачакацца уніі, якая «нам прыносіць такую згубу». У той жа дзень Юрый Хадкевіч памёр ад інсульту.




**Ян Хадкевіч**, у 1569 годзе жамойцкі стараста і земскі маршалак ВКЛ. Гравюра XIX стагоддзя (магчыма, са старажытнага партрэта).

Нават пасля падпісання акта уніі частка магнатэрыі супраціўлялася ёй — прынамсі, на словах. Так, браты кіеўскі біскуп Мікалай Пац і віцебскі кашталян Павел Пац, якія ў ліпені 1569-га знаходзіліся ў Зэльве і перасылалі Радзівілу Рудому інфармацыю пра падзеі у Любліне, з відавочнай пагардай адгукаліся пра тое, «што другія там, у Любліне, зрабілі матцы нашай Рэчы Паспалітай». Надзвычай адмоўна паставіўся да падпісання ўнійнага акта і сам віленскі ваявода. З ліста Мікалая Нарушэвіча мы ведаем, што Мікалай Радзівіл Руды ацэньваў унію як «пахаванне і забойства на вечныя часы вольнай і ўдзельнай Рэчы Паспалітай, некалі Вялікага Княства Літоўскага». З вялікім жалем ён ужо ў кастрычніку 1569 года пісаў пра «Рэч Паспалітую літоўскую, калі яна яшчэ калі-небудзь будзе тым іменем называцца».

Заставалася хіба толькі надзея на нябесныя сілы. 27 ліпеня, пры канцы Люблінскага сойма, Валовіч пісаў да Радзівіла Рудога: «Калі лепш быць не магло, то ... Пану Богу мусім даручыць, які ўмее зноў ствараць і выпраўляць пашкоджанае».

Тым больш, хоць разгубленая і расколатая палітычная эліта ВКЛ не здолела супрацьстаяць рашучым захадам манарха і польскай шляхты, Люблінскі сойм 1569 года не стварыў «адзінае непадзельнае і неадрознае цела», як было абвешчана ў падпісаным акце уніі. А гэта давала Вялікаму Княству Літоўскаму шанц захаваць у складзе новаўтворанай Рэчы Паспалітай элементы ўласнай дзяржаўнасці. ◆

**Альбрэхт Фрэдэрык Гагенцолерн** — герцаг Прусіі, высока ўзняў руку, прысягаючы. Ён быў сваяком Жыгімонта Аўгуста, і лютэране Рэчы Паспалітай хацелі яго мець каралём. Што мастак адлюстраваў у гэтым жэсце? Уладныя амбіцыі ці разумовую хваробу, якая апануе Альбрэхта пазней?

**Васіль Канстанцін Астрожскі з унукам Янушам.** Рускі ваявода, магутны правадыр праваслаўнай партыі, ён ці то тлумачыць сэнс падзеі, ці то стрымлівае малога, рука якога ўзнялася ў жэсце прысягі. Унія паскорыла паланізацыю. Ідэалы старога Астрожскага ягоным унукам будуць ужо далёкія. Януш пакіне праваслаўе і падтрымае Берасцейскую царкоўную унію.

**Станіслаў Гозіюш** — польскі кардынал і адзін з лідараў Контррэфармацыі, уздымае рукі, ці то бласлаўляючы унію, ці то супакойваючы прысутных.

**Філіп Паднеўскі** — біскуп кракаўскі, чытае тэкст уніі.

**Аўтапартрэт Матэйкі** — у вобразе санацкага кашталяна Яна Гербута. У яго руках — каралеўскі скіпетр, нібыта Жыгімонт Аўгуст даў яго мастаку на захаванне, пакуль будзе пераконваць Літву і Карону да аб'яднання.

**«Леў»** — герб Галіцкай Русі.



## «Люблінская унія». Ян Матэйка

Польскі мастак стварыў гэту карціну ў 1869 годзе да 300-годдзя аб'яднання Польшчы і ВКЛ ў Рэч Паспалітую. Ёсць у ёй, праз гістарычныя алюзіі, і роздум аб прычынах нядаўняй паразы паўстання 1863-га.
Толькі два персанажы, выяўленыя мастаком, дакладна прысутнічалі падчас падпісання уніі ў Любліне. Але і астатнія тым ці іншым чынам былі датычныя да яе, а многія трапілі на карціну, каб ілюстраваць уяўленні кола польскіх патрыётаў XIX стагоддзя, да якога належаў Матэйка, пра значэнне падзей 300-гадовай даўніны.

**Валяр'ян Пратасевіч** — віленскі біскуп, рэдактар Статутаў ВКЛ, ссоўваецца з крэсла. Ён быў прыхільнікам аб'яднання на прынцыпах федэрацыі, з захаваннем вялікай самастойнасці ВКЛ.

**Жыгімонт Аўгуст II** — нібыта падчас спрэчак у Любліне ён заклінаў распятым Хрыстом, каб літвіны пагадзіліся на унію. Каралю мастак надаў аблічча свайго сучасніка, магната-славянафіла Ежы Генрыка Любамірскага, прыхільніка польска-ўкраінскага прымірэння.

**Якуб Уханскі** — прымас Польшчы, гнезненскі арцыбіскуп, адзін з самых уплывовых палітыкаў эпохі. Двойчы выконваў функцыі караля Рэчы Паспалітай у моманты бескаралеўя: пасля смерці Жыгімонта Аўгуста і ўцёкаў Генрыха Валуа.

**Міхал Вішнявецкі** — магнат з Русі, палкаводзец, будучы гетман Войска Запарожскага. Пасля уніі пачалося ўзвышэнне Вішнявецкіх, унук Міхала Ярэма стаў некаранаваным каралём украінскіх земляў, а праўнук — каралём Рэчы Паспалітай.



**Марцін Збароўскі** — гарачы прыхільнік аб'яднання Польшчы і ВКЛ, кракаўскі кашталян. Трымае ў руцэ акт уніі, другой прысягае на Евангеллі, разгорнутым на сюжэце аб паўстанні Хрыста з мёртвых. Так мастак у сярэдзіне XIX стагоддзя зашыфраваў спадзеў польскіх патрыётаў на ўваскрасенне Рэчы Паспалітай. Насамрэч, у момант падпісання уніі Збароўскі, які ўдзельнічаў яшчэ ў бітве пад Оршай 1514 года, ужо не жыў.

Акты ранейшых уній і прывілеяў Польшчы і ВКЛ, якія страцілі сілу, нядбала кінутыя пад ногі.

**Раман Сангушка** — валынскі магнат, брацлаўскі стараста. Трымае ў руках харугву з выявай арханёла Міхаіла, абаронца Русі. Падпісаў унію з меркаванняў вайсковай карысці для ВКЛ. Ягоныя маёнткі, згодна з уніяй, адыходзілі да тэрыторыі Польшчы.

**Астафей Валовіч** — падканцлер ВКЛ. Разам з Радзівілам і Хадкевічам склаў праект уніі, які гарантаваў ВКЛ адносную незалежнасць, але яго адхілілі. Валовіч таксама быў выдатным інтэлектуалам і дзяржаўным дзеячам.

**«Крыж»** — герб Валыні.

**Ганна Ягелонка** — сястра Жыгімонта Аўгуста, будучая жонка Стэфана Баторыя і першая каралева Рэчы Паспалітай. Мастак выявіў яе ў каранацыйным строі.

**Беата Касцялецкая** — пазашлюбная дачка Жыгімонта Старога, сястра Жыгімонта Аўгуста і Ганны.

**Андрэй Фрыч-Маджэўскі** — гуманіст, творы якога выдаваў Сымон Будны, прыхільнік роўнасці перад законам усіх станаў. Стаіць спінай да караля і трымае за руку селяніна. Карціна сімвалічная: вобраз вызваленага прыгоннага ў строях XIX стагоддзя адлюстроўвае, хутчэй, погляды мастака, а не гістарычную рэальнасць.

**Ян Костка** — гданьскі кашталян, прагматычна прысягае: павелічэнне дзяржавы актывізуе гандаль.

**Ян Хадкевіч** — жамойцкі стараста, які адстойваў незалежнасць ВКЛ, у роспачы моліцца.

**Мікалай Радзівіл Руды** — праціўнік уніі, віленскі ваявода. Трымае ў руках агалены меч, скіраваны ў бок караля. Матэйка з лёгкай непрыязнасцю паказаў яго ў дарагім магнацкім уборы, што кантрастуе з простым касцюмам Жыгімонта Аўгуста. Насамрэч, у Любліне Радзівіл не прысутнічаў, але быў лідарам руху за незалежнасць ВКЛ.

# «Шкада бацьку прыёмнай дачкі Глебкаў, жахліва шкада»

Прачытала артыкул Ганны Севярынец пра Глебку (№5 за 2019 год).

1. Як жа мяне раззлаваў гэты Глебка, жонкі паэтаў мне падабаюцца больш, чым самі паэты. Якія ўспаміны ні пачытай.

2. У школах трэба тэрмінова перастаць прапагандаваць таксічныя і неўратычныя формы кахання, якія ў нас проста насаджаюцца літаратурай і ні да чаго добрага не вядуць. Слюні параспускаюць — і пайшлі здраджваць сваім «ангелам чыстай красаты».

3. Чаму Глебка так пакутаваў ад невядомасці і тугі па жонцы, што сам не пайшоў добраахвотнікам у акупаваны Мінск, а адправіў маладзенькую палюбоўніцу?

4. Шкада бацьку прыёмнай дачкі Глебкаў, жахліва шкада.

**Наталля Давыдоўская, Мінск**

**Ад аўтаркі.** Цікава было б паглядзець на знакамітага паэта Пятра Глебку, які з'явіўся б у акупаваны Менск да жонкі. Прыклееная барада, чорныя акуляры? Жыццё заўсёды больш складанае, чым шпіёнскія раманы. Ніякай палюбоўніцы Глебка ў Менск не накіроўваў: Алена Межыгурская сама вызвалася добраахвотніцай, Глебка нават не ведаў пра гэтае рашэнне (лісты Алены да Пятра надрукаваныя ў кнізе «Вакол Пятра Глебкі»). Гэта быў няпросты час, людзі прымалі няпростыя рашэнні. «Мы толькі ашчэпкі нашай неўраўнаважанай эпохі», — кажа Глебка жонцы ў адным з лістоў. У гэтых словах — адказ на пытанні нашай паважанай чытачкі.




**Замежным гасцям таксама цікавая «Наша гісторыя».** Аляксей Венядзіктаў, галоўны рэдактар радыё «Эхо Москвы» і часопіса «Дилетант», чытае наш часопіс на вуліцы Брэста. Фота змешчана ў ягоным instagram.




**Падтрымаю гэты трэнд,**
**Бо чытаю айчынны брэнд.**
**Баўлю час па-за аўдыторыяй**
**З часопісам «Наша гісторыя».**

Так напісаў наш чытач Андрэй Саўчанка, сфатаграфаваўшы вокладкі часопіса ў свой інстаграм.

## Развагі пра тутэйшых

Ардынская Масковія стала Расіяй, калі прысабечыла назоў Русі, а жмудзіны пры маскоўскай патрымцы прысабечылі назоў нашай Літвы. На жаль (ці на шчасце), гісторыя не мае зваротнага шляху. Не важна, што было, яно ўжо прайшло. Важна, што будзе, тое, што нас чакае наперадзе. Заўжды актуальна знайсці, убачыць адказ на выклік гісторыі. Настальгія, шкадаванне пра ўзгадванне былой уласнай моцы (сапраўднай ці ўяўнай) выглядае на бег наперад з развернутай назад галавой.

**Віктар Савіцкі, Мінск**

## Галасы берасцейскага дзядзінца

Добры дзень! Прачытаў Ваш зварот адносна 1000-годдзя Берасця і вырашыў даслаць сваю паэму «Галасы берасцейскага дзядзінца» — магчыма, прыдасца. Звярніце ўвагу на двухтомнік берасцейца Анатоля Гладышчука «Замак берасцейскі» (трэці том толькі што выйшаў), прынамсі на ягоныя развагі пра першую згадку аб Берасці (1017 год).

**Мікола Пракаповіч, Берасце**

**Ад Рэдакцыі.** Спадар Мікола, дзякуй за выдатную паэму, з цікавасцю з ёй азнаёміліся! На жаль, гэта зусім не наш фармат, бо мы ўсё ж такі не літаратурны,

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.

а гістарычны часопіс. Але, магчыма, Вы маеце нейкія цікавыя матэрыялы з гісторыі Вашай сям'і, краязнаўчыя знаходкі, старыя рэчы з цікавай гісторыяй, сямейныя рэцэпты, расповеды? У такіх матэрыялах мы вельмі зацікаўленыя.




## Напішы ліст у Пластыляндыю!

Калі вашым дзецям (а можа, і вам самім) падабаецца комікс аб прыгодах слімакоў у краіне Пластыляндыя, то можаце даслаць сапраўдны папяровы ліст Танаку, яго сяброўцы Зорачцы ці любому іншаму герою. Напішыце пару радкоў пра сябе. Што падабаецца ў коміксах, а што не? Якія яшчэ гісторыі хацелі б пабачыць? Можна намаляваць жыхароў Пластыляндыі ці нават прыдумаць уласных герояў, якіх у сакрэтнай пластылінавай краіне яшчэ няма. Пісьмовы адказ ад Танакі гарантаваны!

Пішыце на адрас:
**Алесю Кудрыцкаму (для Танакі)**
**а/с 9, г. Мінск**
**220034**

Калі дзеткі самы вылепілі ўласных пластылінавых герояў, то фотаздымкі можна даслаць на электронную пошту **tanakaletters@gmail.com** ці праз старонкі ў сацыяльных сетках:
**https://www.facebook.com/kapitantanaka/**
**https://vk.com/plastylandia**




Пакуль шмат хто (чакана) наракае на кепскае надвор'е, я ўлезла ў тэлефон і бачу — не выхваляліся тым, што набыла перадапошняй нядзеляй! І зараз я з задавальненнем ахінулася паланцінам (хто б мяне ў ім сфатаграфаваў...), п'ю каву з цукеркамі «Вішні ў каньяку», гартаю «Нашу гісторыю» (адукацыя — наша ўсё!) і не сумую ані кроплі! Бо, трэба сказаць, надвор'е звычайнае для траўня. Хто не верыць — зазірніце ў архіў.

**Кацярына Пархомчык**




16 гадоў таму ў Беларусі з'явілася новае выданне, цалкам прысвечанае айчыннаму краязнаўству, — «Краязнаўчая газета». Яе выпускае грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры». Асноўныя падпісчыкі — бібліятэкі і музеі розных узроўняў, краязнаўцы краіны.

На старонках «Краязнаўчай газеты» стала прапісаліся рубрыкі «Малая краязнаўчая энцыклапедыя», «Мой род — мая Радзіма» (публікацыі аб радаводзе сям'і), «Школьнае краязнаўства» (дзе друкуюцца даследаванні вучняў пра мясціны і людзей, знаёмых ад нараджэння), «Царкоўнае краязнаўства» (шматканфесійная мінуўшчына краіны і дзень сённяшні), «Рэгіён» (адметнасці розных куточкаў краіны), «Выданні краязнаўцаў краіны» (знаёмства з кнігамі, брашурамі, часопісамі, выдадзенымі руплівцамі дзеля захавання цікавостак свайго краю), «Землякі» (пра выхадцаў з Беларусі ў розных краінах свету), «Суседзі» (пра культуру і традыцыі розных народаў нашай краіны), «Аграсядзіба па-беларуску» (сельскі турызм і адпачынак у нацыянальным стылі)... Практыкуюцца і тэматычныя старонкі, прысвечаныя адметнасцям канкрэтнага года, — былі рубрыкі, прысвечаныя юбілеям Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча, старонкі «Світанак Маладой Дзяржавы: погляд з 2018-га» і «Світанак Маладой Дзяржавы: погляд з 2019-га», прымеркаваныя да юбілеяў БНР і БССР адпаведна. Другі год 4-я старонка аддадзеная рубрыцы «Малой радзіме — вялікую ласку».

У цыклах публікацыяў з'яўляюцца, абмяркоўваюцца і выкрышталізоўваюцца ідэі аб ушанаванні памяці аб выдатных асобах нашай гісторыі, газета сумесна з БФК выступае ў падтрымку розных мерапрыемстваў ды імпрэзаў, што папулярызуюць традыцыйную культуру, традыцыйныя каштоўнасці, падтрымлівае разнастайныя фестывалі (прыкладам, фальклорныя святы «Берагіня», «Звіняць цымбалы і гармонік», «Мяцеліца» ды інш.).

Сёння як ніколі наспеў час аб'ядноўваць высілкі тых, хто дбае аб пашырэнні ведаў грамадства пра яго гістарычную мінуўшчыну, інфармаванасці пра асаблівасці і ўнікальнасць культуры і побыту беларускага народа. Менавіта ўсяму гэтаму і прысвячаюцца старонкі «Краязнаўчай газеты». А найгалоўны клопат выдання — гуртаванне даследчыкаў сваіх рэгіёнаў, каб стварыць грунт для паўстання агульнанацыянальнага краязнаўчага таварыства.

Значыць, і кожны з вас можа далучыцца да радзімазнаўцаў, стаць захавальнікам і папулярызатарам адметнасцяў свайго рэгіёна, шанавальнікам багатай спадчыны і мудрасці продкаў.

Пра мінулае! Сёння. Дзеля будучыні!

На «Кразнаўчую газету» можна падпісацца ў любым аддзяленні паштовай сувязі краіны, з любога месяца.

**Падпісныя індэксы «Краязнаўчай газеты»:**
індывідуальны — 63320,
ведамасны — 633202.

# «Беларуская бітва» ў лічбах і фактах

**Аперацыя «Баграціён» была праведзена 75 гадоў таму, з 23 чэрвеня па 29 жніўня 1944 года. Яна распачалася пасля адкрыцця другога фронту ў Нармандыі, які адцягнуў нямецкія рэзервы. Піша Яўген Балбераў.**

«Беларуская бітва», як яе яшчэ часам называюць, канчаткова зламала хрыбет нацысцкай арміі. У выніку аперацыі была вызваленая Беларусь, а таксама часткі Літвы і Польшчы. Пасля разгрому ў Беларусі немцам ужо не было на што спадзявацца. Яны ўжо проста абараняліся, цягнучы час у спадзяванні ў нейкі момант вытаргаваць сепаратны мір.

Пасля паражэнняў пад Сталінградам і Курскам да пачатку 1944 года вермахт перайшоў да стратэгічнай абароны. Хоць Узброеныя сілы Германіі да пачатку 1944 года яшчэ налічвалі больш за 10 млн чалавек, з іх на савецка-германскім фронце дзейнічала каля 5 млн — 198 дывізій (з 314 дывізій і брыгад), 56,6 тысячы гармат і мінамётаў, 5400 танкаў і штурмавых гармат, больш за 3 000 баявых самалётаў. Хоць да ліпеня 1944-га яшчэ працягваўся рост нямецкай ваеннай вытворчасці, становішча Германіі ўсё горшала. Большасці немцаў і іх саюзнікаў стала зразумела: перамогі не будзе.




**Савецкія войскі** ідуць праз Полацк на захад.

## 179 000 савецкіх вайскоўцаў аддалі сваё жыццё ў часе аперацыі

Сталі вычэрпвацца людскія і матэрыяльныя рэсурсы рэйха.

Да пачатку 1944 года ў савецкай дзейнай арміі было больш за 6,3 млн чалавек, звыш 86,6 тысячы гармат і мінамётаў (без зенітных гармат і 50-міліметровых мінамётаў), каля 5 300 танкаў і самаходных гармат, 10 200 самалётаў.

Але да гэтага часу відавочнай перавагі савецкіх Узброеных сіл над германскімі яшчэ не было. Яна з'явілася тады, калі саюзнікі высадзілі дэсант у Нармандыі ў чэрвені 1944 года.

Да пачатку Беларускай аперацыі лінія фронту ў Беларусі працягласцю звыш 1 100 км праходзіла па мяжы: возера Нешчарда – на ўсход ад Віцебска – на ўсход ад Магілёва – Жлобін – Прыпяць. Гэта быў такі вялізны выступ, што навісаў на ўсход. З гэтага выступу германскае камандаванне працягвала пагражаць Маскве, а з аэрадромаў, размешчаных тут, наносіліся бомбавыя ўдары.

У гэтым выступе абараняліся войскі групы армій «Цэнтр». Камандаваў ёю генерал-фельдмаршал Эрнст Буш.

Гітлер і ягоныя генералы чакалі савецкага наступлення ў Галіцыі, у фланг групе

«Цэнтр». Буш нават дазволіў сабе сысці ў адпачынак за тры дні да пачатку савецкага наступлення: савецкія военачальнікі надалі шмат увагі маскіроўцы сваіх планаў. Але нават калі б немцы і чакалі наступлення, яны ўжо нічога не маглі зрабіць: адзіны рэзерв Усходняга фронту, танкавы корпус СС, у чэрвені давялося спешна перакінуць з Польшчы ў Францыю.

Савецкія ж военачальнікі задумалі ўдарыць па немцах тым жа метадам, якім немцы дзейнічалі ў 1941-м. Моцнымі ўдарамі рассячы абарону праціўніка, разграміць флангі, акружыць і знішчыць іх у раёне Віцебска і Бабруйска, а затым і вакол Мінска.

План беларускай стратэгічнай наступальнай аперацыі ў цэлым і планы аперацый франтоў былі зацверджаныя ў савецкай стаўцы пры канцы мая. Дырэктывы франтам былі дадзеныя 30 мая за подпісамі Сталіна і маршала Жукава. Першапачаткова ў адпаведнасці з задумай Генштаба 1-ы Беларускі фронт павінен быў наносіць адзін удар на Бабруйскім кірунку. Падчас даклада Сталіну камандуючы 1-м Беларускім фронтам Канстанцін Ракасоўскі прапанаваў наносіць не адзін, а два прыкладна аднолькава магутныя ўдары з мэтай акружэння і знішчэння

## 10 500 выбухаў на чыгунках

прагрымела ў ноч на 20 чэрвеня — справа партызан




ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ «БЕЛАРУСЬ У ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЕ 1941–1945»

Бабруйскай групоўкі праціўніка. Але тэарэтычна заўсёды было прынята лічыць, што адзін з удараў павінен быць галоўным, і Сталін надаваў першаснае значэнне выбару напрамку галоўнага ўдару. Таму ён двойчы прапанаваў Ракасоўскаму выйсці і яшчэ раз падумаць над сваім рашэннем. Але будучы маршал настаяў на сваім. У складзе 1-га Беларускага фронту было 10 агульнавайсковых армій — 50% усіх сіл і сродкаў, якія ўдзельнічалі ў Беларускай аперацыі.

Дамагліся ўдакладнення плана і камандуючыя 3-м Беларускім і 1-м Прыбалтыйскім франтамі. Камандуючы першага з іх, Іван Чарняхоўскі, таксама прапанаваў замест аднаго ўдару наносіць два ўдары на Багушэўскім і Аршанскім напрамках абароны праціўніка. Іван Баграмян з 1-га Прыбалтыйскага фронту пераканаў стаўку, што пасля прарыву ягоным войскам больш выгадна развіваць наступ не на паўднёвы захад, а ў заходнім кірунку.

Дапамогу войскам у ходзе аперацыі аказалі беларускія партызаны. Толькі ў ноч на 20 чэрвеня яны адначасова ўзарвалі тысячы рэек. З 26 па 28 чэрвеня партызаны пусцілі пад адхон 147 эшалонаў.

З мэтай схаваць кірунак наступлення ўдарных груповак разведка боем праводзілася на шырокім фронце — 450 км. У першы ж дзень гэтыя батальёны ўклініліся ў абарону праціўніка на глыбіню 2–4 км.

Праціўнік, прыняўшы атаку перадавых батальёнаў за наступленне галоўных сіл, увёў у дзеянне свае асноўныя сілы, якія з пачаткам агульнага наступлення з раніцы 23 чэрвеня трапілі пад уздзеянне магутнага савецкага артылерыйскага агню і авіяцыі.

Спачатку прарыў абароны ішоў вельмі цяжка: моцна акапаліся немцы на сваёй лініі абароны. Толькі 26 чэрвеня здарыўся пералом — і савецкія войскі хлынулі ў тыл немцаў.

28 чэрвеня быў вызвалены Магілёў, 1 ліпеня — Барысаў. Акружаная ў Бабруйску ▸

групоўка праціўніка спрабавала зрабіць прарыў з акружэння, але масіраванымі ўдарамі з паветра гэтая акцыя была сарваная.

3 ліпеня быў вызвалены Мінск, на ўсход ад яго ў акружэнні засталася 100-тысячная групоўка асноўных сіл 4-й і 9-й нямецкіх армій. Яны яшчэ некалькі дзён спрабавалі ваяваць, але фронт імкліва каціўся на захад, дапамогі ім не даводзілася чакаць. Прыкладна 35 тысяч немцаў здалося ў палон. Удвая больш загінула: апошніх ацалелых лавілі ў лясах і адстрэльвалі беларускія партызаны.

З выхадам савецкіх войскаў на рубеж Полацк – Нарач – Маладзечна – Нясвіж у стратэгічным фронце гітлераўскіх войскаў утварыўся пралом працягласцю да 400 км.

16 ліпеня вызвалілі Гродна, 28 ліпеня — Брэст.

Германскае камандаванне пачало тэрмінова перакідаць рэзервы з глыбіні (у тым ліку з тэрыторыі Францыі, Італіі, Венгрыі), са Львоўскага і іншых стратэгічных напрамкаў. Толькі з 23 чэрвеня па 16 ліпеня ў Беларусь было перакінута 46 дывізій і 4 брыгады.




**Нямецкія падлеткі капаюць акопы ва Усходняй Прусіі.** Пасля «Беларускай бітвы» вайна выйшла на граніцы рэйха.

Наступаючы ў паласе да 1 100 км па фронце, войскі прасунуліся на 550–600 км. Яны рухаліся хутчэй, чым немцы падчас бліцкрыгу 1941 года.

Неўзабаве савецкія войскі выйшлі на подступы да Варшавы, а 17 жніўня — на мяжу Усходняй Прусіі. З налёту яны захапілі некалькі плацдармаў на левым беразе Віслы. Нават выбудова лініі абароны стала цяпер для Гітлера праблематычнай.

Гітлер зняў Буша, прызначыў новым камандуючым групай армій «Цэнтр» фельдмаршала Вальтэра Модэля. Той праявіў гнуткасць. Ён не стаў займаць абарону ва ўсёй паласе, а засяродзіў сілы ў адзін магутны ўдарны кулак, нанёсшы некалькі контрудараў. Толькі тады савецкае наступленне спынілася: войскам патрэбны былі адпачынак і рэзервы.

Менавіта ў той час многія савецкія злучэнні і часці атрымалі ганаровыя найменні Мінскіх, Бабруйскіх, Віцебскіх, назвы іншых гарадоў. Носяць яны іх збольшага і да сёння.

Савецкія страты, панесеныя падчас гэтай аперацыі, былі цяжкія: 179 тысяч загінулі і прапалі без вестак, яшчэ 587 тысяч былі параненыя. А пра нямецкія гісторыкі спрачаюцца дагэтуль.

17 ліпеня па вуліцах Масквы правялі 57 тысяч нямецкіх ваеннапалонных, якія здаліся савецкім войскам у Беларусі. Яны ішлі па горадзе, які хацелі захапіць, а за імі ехалі палівальныя машыны і змывалі з бруку пыл з іх ног. ◆

## 3 ліпеня
нацысты пакінулі Мінск

## 28 ліпеня
нацысты пакінулі Брэст

SHUTTERSTOCK, BY MAKDILL



Залаты запас Іспаніі складаўся пераважна з залатых манет іншых дзяржаў. Пасярэдзіне — сцяг інтэрбрыгад. Ён тых жа колераў, што і сцяг іспанскай Другой рэспублікі, але з іншым значком.

SHUTTERSTOCK, BY EDUARDO ESTELLÉS

# Як беларусы перавезлі ў Маскву залаты запас Іспаніі

*Арлоўскі, Корж, Фельдбін ды іншыя «добраахвотнікі» на грамадзянскай вайне 1936–1939 гадоў*

**Франкісты перамаглі ў грамадзянскай вайне, і таму толькі гіпатэтычна можна сабе ўяўляць долю Іспаніі і ўсёй Еўропы, калі б там усталяваўся камуністычны рэжым. На той вайне масава забівалі ўсе — у тым ліку і шматлікія ўдзельнікі-беларусы. Некаторыя факты сталі вядомыя толькі праз гады пасля іх смерці, піша кандыдат сацыялагічных навук Аляксей Ластоўскі.**

18 ліпеня 1936 года радыёстанцыя Сеуты перадала ўмоўную фразу-сігнал: «Над усёй Іспаніяй бязвоблачнае неба». У той жа дзень вайскоўцы па ўсёй краіне абвесцілі пра тое, што бяруць уладу ў свае рукі. Але вернай ураду засталася паліцыя, і, да таго ж, улады раздалі зброю рабочым. Пачалася грамадзянская вайна.

З аднаго боку рэспубліканцы (камуністы, «чырвоныя»), з другога — нацыяналы (фашысты, «белыя»). Першых фінансава і матэрыяльна падтрымліваў СССР, другіх — Італія і Нямеччына.

Пра іспанскую грамадзянскую вайну ў савецкі час вучылі ў школьным курсе гісторыі. Цяпер не вучаць, а дарма. У той вайне бралі ўдзел і многія беларусы. Іх подзвігі, хай і сціпла, у савецкай літаратуры апісваліся. Пра іншы ж бок гэтай вайны ў СССР згадваць не любілі — што савецкія чэкісты разгарнулі на тэрыторыі Іспаніі крывавы тэрор. А касцяк таго чэкісцкага дэсанту складалі ўраджэнцы Беларусі.

## Як усё пачыналася

Супярэчнасці назапашваліся доўга. Калісьці найвялікшая ў свеце імперыя не здолела скарыстацца неймавернай колькасцю золата, якое цякло з калоній. Індустрыялізацыя адбылася толькі на ўскрайках дзяржавы, у Басконіі і Каталоніі, якія адразу ж пачалі прэтэндаваць на незалежнасць. Краіну раздзіралі пастаянныя ваенныя канфлікты паміж манархістамі, ліբераламі і вайскоўцамі. Напрыканцы XIX стагоддзя ў Іспанію пранікаюць і анархісцкія ідэі.

Парадак у краіне спрабаваў навесці ў 1923–1930 гадах генерал Мігель Прыма ды Рывера. Але ягоная дыктатура выніку не дала. Пасля яе правалу левыя рэспубліканцы змусілі караля адрачыся ад трону. Такім чынам, у 1931 годзе была абвешчана Другая Іспанская рэспубліка (першая праіснавала няпоўныя два гады ў 1873–1874-м).

Але і рэспубліканцам кантраляваць сітуацыю было не так проста: вайсковыя мяцяжы, пастаянныя стачкі і рост сепаратызму па-ранейшаму раздзіралі краіну. Рэспубліканцы-цэнтрысты сябе дыскрэдытавалі, а левыя і правыя радыкалы рваліся да ўлады. Некалькі левых палітычных сіл (сацыялісты, камуністы, левыя рэспубліканцы, каталонскія і галісійскія нацыяналісты, анархісты і трацкісцкая POUM — Рабочая партыя марксісцкага адзінства) стварылі супольны палітычны блок пад назвай «Народны фронт», які перамог на выбарах 1936 года.

Паралельна набірала моц і фашысцкая групоўка «Іспанская Фаланга», якую ўзначальваў арыстакрат, бліскучы адвакат і палымяны прамоўца Хасэ Антоніа Прыма ды Рывера, сын колішняга дыктатара. «Вера і рыцарскае служэнне — вось дзве вечныя і сапраўдныя формы нашага быцця», — пісаў заснавальнік партыі.

«Іспанская Фаланга» складалася з ультрапатрыётаў, лозунг руху: «Адзіная, вялікая і вольная Іспанія». Прыма ды Рывера называў яе «паэтычным рухам». Гэта не замінала фалангістам забіваць сваіх праціўнікаў. ▶

Іспанская выбарчая сістэма ў той час была вельмі спецыфічная. Яна аддавала перавагу кааліцыям партый перад уласна партыямі. Дзякуючы ёй Народнаму фронту ўдалося ўзяць парламент пад поўны кантроль, здабыўшы толькі мінімальную перавагу ў колькасці галасоў выбаршчыкаў. За Народны фронт прагаласавала 47,03% выбаршчыкаў, што прынесла яму 285 дэпутацкіх мандатаў, у той час як Нацыянальны блок з 46,48% атрымаў толькі 131. Яшчэ 57 мандатаў адышлі партыям Цэнтра, якія атрымалі на выбарах усяго 3,51%.

Пад уплывам поспеху партый Мусаліні і Гітлера фашысцкія рухі ў міжваенны час раслі па ўсёй Еўропе як грыбы. Нават у Заходняй Беларусі была Беларуская нацыянал-сацыялістычная партыя на чале з Фабіянам Акінчыцам. Лёс гэтых партый склаўся па-рознаму. У некаторых краінах яны пры падтрымцы немцаў прыйшлі да ўлады (Славакія, Харватыя) і зганьбавалі сябе актыўнай супрацай з Гітлерам. Часам, наадварот, такія партыі ўступалі ў канфлікт з нацыстамі, паколькі іх ультранацыяналізм не супадаў з планамі Гітлера датычна іх краіны (польскія і ўкраінскія праварадыкальныя арганізацыі). А лідар румынскай «Жалезнай гвардыі» Карнэлію Кадрану быў арыштаваны і забіты па загадзе караля, а сама арганізацыя забаронена, хоць Румынія і стала саюзніцай нацысцкай Германіі.

**Франсіска Франка** (1892–1975) кіраваў Іспаніяй каля 40 гадоў, больш чым любы кароль за гісторыю гэтай дзяржавы. Патомны вайсковец, таленавіты камандзір, салдаты яго паважалі. Але з яго іменем звязаныя і жорсткія рэпрэсіі супраць праціўнікаў.
Асцярожнасць дазволіла Франка захаваць уладу і пасля паражэння Германіі і Італіі ў Другой сусветнай вайне. У вайну ён афіцыйна не ўступіў, лавіраваў між Гітлерам і Чэрчылем, Гібралтара не атакаваў. А пасля вайны Франка ўжо ўспрымалі як меншае — у параўнанні з камуністамі — зло. Франка быў адданым католікам і ўзорным сем'янінам. Жонка ягоная паходзіла са знатнага дваранскага роду, і маладому вайскоўцу давялося прыкласці шмат намаганняў, каб яе заваяваць. У сям'і нарадзілася адна дачка. Цяпер сямейны клан Франка — адзін з самых багатых у краіне, узначальвае яго ўнук каўдзільё.



WIKIMEDIA COMMONS

Дыктатар Франсіска Франка і ягоная жонка Марыя дэль Кармэн Пола-і-Марцінэс-Вальдэс. **1968 год, 32 гады пасля прыходу Франка да ўлады.**

### Франкісцкі мяцеж

Як левыя радыкалы, так і фалангісты тэрарызавалі і забівалі. Усяго за пяць месяцаў кіравання ўрада Народнага фронту адбылося 269 палітычных забойстваў. Урад быў не здольны спыніць гэтую хвалю і не хацеў весці расследаванне гэтых злачынстваў. Лічыцца, што менавіта ўсплёск палітычнага тэрору стаў для вайскоўцаў апошняй кропляй, якая змусіла іх умяшацца і «навесці парадак».

Мяцеж пачаўся 17 ліпеня 1936 года ў Марока, дзе стаяў іспанскі каланіяльны корпус, а пасля распаўсюдзіўся і на ўласна Іспанію. Базай «нацыяналаў» (*nacionales* — так сябе называлі мяцежнікі) стала паўднёва-заходняя Іспанія, а апорай камуністаў былі Мадрыд і Барселона. Паколькі ніводзін з бакоў не атрымаў зразу рашучай перавагі, пачалася зацяжная вайна. Лідарам мяцежнікаў хутка стаў генерал Франсіска Франка.

На дапамогу мяцежнікам прыйшлі нацысцкая Германія і фашысцкая Італія. Германія накіравала на дапамогу франкістам найноўшыя самалёты і лётчыкаў, з якіх быў сфармаваны легіён «Кондар». Сімвалам пакут Іспаніі стаў знішчаны «Кондарам» у 1937 годзе невялічкі баскскі гарадок Герніка. Тады чалавецтва ўпершыню ўбачыла наступствы татальнай паветранай вайны.

### Інтэрбрыгады

Сацыялістычны ўрад у адчаі звярнуўся па дапамогу да розных краін. Але на заклік адгукнулася толькі Францыя, і тое чыста сімвалічна.

Затое ў Іспанію, каб змагацца з фашызмам, пачалі адпраўляцца добраахвотнікі, якім былі блізкія сацыялістычныя ці камуністычныя ідэалы. Адным з найбольш баяздольных інтэрнацыянальных атрадаў

лічыўся польскі батальён імя Ярaслава Дамброўскага.

Польшча баялася, што яе грамадзяне на іспанскай вайне абстраляюцца і вернуцца ў краіну з баявым досведам: той, хто адпраўляўся туды ваяваць, аўтаматычна страчваў грамадзянства. Але многіх мясцовых камуністаў гэта не спыніла, у тым ліку і беларусаў ды ўкраінцаў. На чале ўкраінскай роты імя Тараса Шаўчэнкі НКВД паставіў ураджэнца Гомеля Мікалая Дворнікава. Раней яго з СССР адправілі на падпольную працу ў Польшчу і паставілі на чале заходнебеларускага камсамола. Дворнікаў марыў стварыць і асобную беларускую роту — імя Кастуся Каліноўскага, але гэтаму не суджана было здзейсніцца. У 1938 годзе Дворнікаў загіне ў баі з франкістамі ў гарах Эстрэмадуры, а Максім Танк напіша пра свайго былога сябра паэму.

Пісалі, што нібыта ў складзе польскай вайсковай місіі (на баку войска Франка) ваяваў славуты генерал Станіслаў Булак-Балаховіч, але ніякіх дакументальных пацвярджэнняў гэтаму пакуль няма. Магчыма, гэта была толькі адна з многіх легендаў, якімі поўнае жыццё гэтага чалавека.

## Савецкі дэсант: спецыялісты і чэкісты

Адзінай краінай, якая аказвала сістэматычную падтрымку іспанскай сацыялістычнай Рэспубліцы, быў СССР. Савецкі корпус «добраахвотнікаў» быў вельмі кваліфікаваны: лётчыкі, танкісты, афіцэры. Без савецкай авіяцыі Рэспубліка не магла б ваяваць.

Сталін разлічваў стварыць камуністычную дзяржаву на заходнім ускрайку Еўропы. Акрамя таго, Іспанія стала плацдармам для праверкі новага ўзбраення. А пастаўкі зброі не былі бясплатнымі — іспанскі ўрад пераправіў у Маскву ўвесь залаты запас краіны, на той момант найвялікшы ў свеце. Калі золата выгрузілі ў Маскве, узрадаваны Сталін прамовіў: «Іспанцам гэтага золата не бачыць як сваіх вушэй». Так і адбылося.

Сярод савецкіх ваенспецаў многія былі з Беларусі. ▶



**Рэспубліканец пільнуе самалёты** на фронце пад Гвадалахарай.

SHUTTERSTOCK, BY EVERETT HISTORICAL

### Узаемны тэрор

Яшчэ да пачатку грамадзянскай вайны рэспубліканцамі па надуманым абвінавачанні быў арыштаваны лідар фалангістаў Хасэ Антоніа Прыма ды Рывера, пазней ён будзе расстраляны. Ёсць версія, што Франка адмовіўся ад прапановы абмяняць яго: яму не дужа быў патрэбны ў сваім лагеры такі харызматычны супернік. А вось у якасці ахвяры Прыма ды Рывера прыдаўся, узнік нацыяналістычны культ гэтай асобы. «Іспанскую Фалангу» ж Франка ўзяў пад кантроль і пераўтварыў у рэспектабельную бюракратычную партыю. Сімвалам франкісцкага тэрору стала гібель бліскучага паэта Федэрыка Гарсія Лоркі. Сацыяліст і гомасэксуаліст, ён спрабаваў схавацца ад пераследу ў логаве фалангістаў, Прыма ды Рывера любіў яго вершы — але і гэта не выратавала паэта ад расправы. Месца расстрэлу Лоркі дагэтуль невядомае. Іншы бок таксама бачыў у масавым тэроры шлях да перамогі. «Мы хочам рэвалюцыі! — заклікала сацыялістка і феміністка Маргарыта Нелькен. — Але расійская рэвалюцыя не можа служыць для нас прыкладам, бо ў нас выбухне полымем пажар рэвалюцыі, які пашырыцца на ўвесь свет. Краіну мусіць заліць хваля крыві, якая чырванню афарбуе мора!» Асабліва жорстка распраўляліся сацыялісты з царквой, якая была абвешчана ворагам Рэспублікі, — было забіта **4 184 святары, 2 365 манахаў і 283 манашкі**.

▶ Лётчык Сяргей Грыцавец зрабіў у Іспаніі 88 баявых вылетаў і збіў 6 самалётаў праціўніка, за што атрымаў зорку Героя Савецкага Саюза (пазней ён дадасць да гэтай зоркі і другую — за баі з японцамі на рацэ Халхін-Гол).

Беларусы былі і ў рэзідэнтуры НКВД. Сюды адправіліся многія чэкісты, якія ў 1920-х займаліся дыверсійнай дзейнасцю на тэрыторыі Заходняй Беларусі: Кірыла Арлоўскі, Аляксандр Рабцэвіч, Васіль Корж, Станіслаў Ваўпшасаў.

Кірыла Арлоўскі паспеў у час сваёй іспанскай камандзіроўкі стаць літаратурным героем — ён жыў разам з пісьменнікам Эрнестам Хэмінгуэем у адным гатэлі і распавядаў таму пра партызанскі рэйд на тэрыторыю франкістаў для падрыву моста. Пазней дакладна такую ж аперацыю будзе рабіць Роберт Джордан, галоўны герой рамана «Па кім звоніць звон». Але нічога асабліва рамантычнага ў гэтай гісторыі сустрэчы беларускага партызана і амерыканскага пісьменніка ў бары гатэля не было — гэта была серыя сустрэч з дыверсантамі, не толькі Арлоўскім, арганізаваная НКВД. Хэмінгуэю, які сімпатызаваў рускім і камуністам, трэба было даць матэрыял для апісання подзвігаў інтэрбрыгад.

Значна большую ролю ў Іспаніі адыграў Станіслаў Ваўпшасаў (Ваўпшас), які стварыў школу для партызан-рэспубліканцаў, арганізаваў ахову кіраўнікоў кампартыі, а на познім этапе адказваў і за контрвыведку, допытваў і катаваў падазраваных. Гэта ён браў удзел і ў сумнавядомай расправе над трацкісцкай Рабочай партыяй марксісцкага адзінства (POUM), у шэрагах якой змагаўся яшчэ адзін сусветна вядомы пісьменнік — Джордж Оруэл. Ваўпшасаў будзе адказваць і за вываз архіва Рэспублікі ў Маскву, ужо пасля канчатковай паразы Народнага фронту.

Рэзідэнтура НКВД у Іспаніі працавала на тое, каб у рэспубліканскім лагеры рэй вялі камуністы. Метады для гэтага маглі быць рознымі. Газета «Праўда» бадзёра рапартавала, што чыстка трацкісцкіх і анархасіндыкалісцкіх элементаў у Іспаніі будзе праводзіцца так жа энергічна, як у СССР, дзе тады напоўніцу разгарнуўся махавік масавых рэпрэсій.

## Расправа над трацкістамі

Самымі сур'ёзнымі апанентамі камуністаў сталі трацкісты з POUM. Кіраўніком рэзідэнтуры НКВД у Іспаніі Аляксандрам Арловым была распрацавана складаная аперацыя, якая ўключала ў сябе фальсіфікацыю дакументаў пра нібыта супрацу гэтай арганізацыі з франкістамі.





SHUTTERSTOCK, BY EVERETT HISTORICAL

**Вуліца Гернікі пасля бамбардзіроўкі легіёнам «Кондар».** Красавік 1937 года.



Лідара POUM Андрэаса Ніна, які быў рэгіянальным міністрам Каталоніі, выкралі і катавалі: з яго жыўцом здзіралі скуру. Але той не зламаўся, таму чэкісты яго застрэлілі і схавалі труп, распаўсюдзіўшы чуткі, што міністр збег да фашыстаў.

Адным з непасрэдных выканаўцаў гэтага забойства быў Іосіф Грыгулевіч — віленскі караім, былы член КПЗБ. Пазней ён зробіць бліскучую кар'еру. Спачатку шпіёнскую: на яго рахунку была арганізацыя замаху на Троцкага з удзелам геніяльнага мексіканскага мастака Давіда Сікейраса, а пасля ён пад чужым прозвішчам стаў паслом Коста-Рыкі ў Ватыкане і Югаславіі і распрацаваў план заражэння Іосіпа Броз Ціта смертаноснымі бацыламі ▸

**Пабла Пікаса. «Герніка».**

Адзіны колер — шэры, як руіны і папялішчы. Кавалкі цел. Людзей, жывёл. Раты, пашчы застылі ў немым крыку.

Гэтую гіганцкую — 7,8 на 3,5 метра — карціну Пікаса напісаў у 1937 годзе па просьбе чырвонага ўрада Іспаніі. Яны папрасілі самага папулярнага мастака сваёй эпохі напісаць нешта для іспанскага павільёна на Сусветнай выставе, а ён стварыў ім «Герніку». Гэта быў і акт салідарнасці з рэспубліканцамі, і пратэст супраць фашызму, і жах вайны.

Баскскі гарадок Герніка нямецкія лётчыкі разбамбілі ў красавіку 1937 года. Еўропа пабачыла, якою будзе наступная вайна: татальныя бамбёжкі.

Для Пікаса гэтая карціна была вельмі важная: пакуль у Іспаніі была дыктатура, мастак захоўваў карціну ў Амерыцы, а ў 1981 годзе ён папрасіў перавезці яе ў дэмакратычную Іспанію.

Пабла Пікаса — адзін з самых важных мастакоў XX стагоддзя, які літаральна перавярнуў уяўленні пра жывапіс. Кубізм — гэта Пікаса. «Герніка» — адна з самых пазнавальных карцін усіх часоў. Гэтую вусціш немагчыма забыць.

Большую частку жыцця Пікаса пражыў у Францыі, але ніколі не забываўся пра свае іспанскія карані. Сімпатызаваў камуністам, у 1944 годзе ўступіў у французскую кампартыю — у «партыю расстраляных», як яе называлі пасля акупацыі.

«Герніка» — гэта не проста трагедыя маленькага гарадка. Гэта прароцтва татальнай вайны, якая спустошыць Еўропу.



**Мікалай Дворнікаў** узначальваў украінска-беларускую роту імя Тараса Шаўчэнкі.

падчас уручэння даверчых лістоў. А пасля і акадэмічную: на пенсіі ён стане маскоўскім прафесарам-лацінаамерыканістам (крыху падрабязней пра гэты этап ягонай біяграфіі гл. на **старонцы 87**).

Члены POUM не здаваліся. У асаджанай франкістамі Барселоне разгарэліся баі, грамадзянская вайна сярод грамадзянскай вайны. Адолець чэкісцкую машыну рамантыкі-рэвалюцыянеры не маглі. Джордж Оруэл з горыччу апісваў, як у яго на вачах распраўляліся з ягонымі сябрамі, а сам ён ледзь здолеў жывым пакінуць Іспанію. «У горадзе ўсталявалася атмасфера задухі, паветра было прасякнута падазрэннямі, страхам, няўпэўненасцю, адусюль выглядала ледзь замаскіраваная нянавісць», — так апісвае свае апошнія дні ў Барселоне пісьменнік. Адзінае рускае імя, якое прысутнічае на старонках «Памяці Каталоніі», — Аляксандр Арлоў.

### Фельдбін і Эйцінгон

Оруэл, натуральна, не ведаў, што пад псеўданімам Аляксандра Арлова хаваўся Лейба Фельдбін, ён жа Леў Нікольскі — таксама выхадзец з Беларусі, а канкрэтна з Бабруйска. Менавіта ён адказваў за перапраўку ў Маскву 510 тон іспанскага золата, і гэтая аперацыя была бліскуча выканана.

Магчыма, лёс гэтага скарбу быў бы невядомы, калі б яго не раскрыў сам Арлоў. У 1938 годзе ён атрымаў загад вярнуцца ў Маскву. Хітры ліс Фельдбін супаставіў інфармацыю, задумаўся, чаму некаторыя «адкліканыя» на радзіму калегі перастаюць выходзіць на сувязь. І ён зразумеў, што ў Маскве адбываецца вялікая чыстка. Тады Арлоў выкраў з сейфа НКВД 90 тысяч даляраў (на сённяшнія грошы гэта прыкладна паўтара мільёна), разам з сям'ёй сеў на параход і адправіўся ў Амерыку.

З дарогі хітры шпіён піша лісты Яжову і Сталіну, дзе абяцае не выдаваць рэзідэнтуру савецкай выведкі за мяжой у абмен на сваё жыццё. А выдаваць было каго, бо менавіта Арлоў завербаваў у Іспаніі Кіма Філбі, найлепшага савецкага шпіёна часоў халоднай вайны (чытайце пра яго ў «Нашай гісторыі» №2/2018). У эміграцыі ён апублікаваў «Тайную гісторыю сталінскіх злачынстваў» (дзе сціпла апусціў арганізаваную ім расправу над POUM) і спакойна дажыў сваё жыццё прафесарам у амерыканскім універсітэце.

## Мікалай Дворнікаў марыў стварыць беларускую роту імя Кастуся Каліноўскага

Замяніў Арлова на пасадзе кіраўніка рэзідэнтуры НКВД Навум Эйцінгон, былы ягоны намеснік. Родам са Шклова, Эйцінгон пачынаў службовую кар'еру ў гомельскай ЧК у змаганні з атрадамі Станіслава Булак-Балаховіча і Барыса Савінкава. У адрозненне ад тых жа Арлоўскага ці Каржа, ён заўсёды пераважна працаваў за мяжой — ад Кітая да ЗША, паўсюль арганізуючы шпіёнскія сеткі, выкрадаючы і забіваючы ворагаў савецкай улады. «Карны




WIKIMEDIA COMMONS

Узрадаваны Сталін прамовіў: **«Іспанцам гэтага золата не бачыць як сваіх вушэй».**

### Што варта прачытаць пра вайну ў Іспаніі

*«Памяці Каталоніі»* Джорджа Оруэла. У адрозненне ад Хэмінгуэя, Оруэл браў удзел у ваенных дзеяннях на баку рэспубліканцаў. Ён пакінуў гранічна шчыры, але разам з тым і горкі расповед пра апошнія дні існавання Рэспублікі ў Барселоне.

*«Грамадзянская вайна ў Іспаніі 1936–1939»* Энтані Бівара. Гэтую кнігу ў 2018 годзе пераклалі на рускую мову.

Цыкл раманаў *«Фалька»* Артура Пераса-Рэвертэ. Спроба мастацкага пераасэнсавання грамадзянскай вайны ў жанры шпіёнскага рамана ад аднаго з найбольш папулярных сучасных іспанскіх пісьменнікаў. Галоўны герой нагадвае Джэймса Бонда. Такі ж бязлітасны і элегантны, ён выконвае самыя патаемныя і брудныя даручэнні франкістаў. У першым рамане з цыкла Фалька атрымлівае загад вызваліць з турмы лідара фалангістаў Прыма ды Рыверу, у другім — спрабуе перахапіць рэспубліканскі карабель з золатам у Танжэры. Трэці раман выйшаў у 2018 годзе і пакуль яшчэ не перакладзены з іспанскай. Напісана захапляльна і вельмі цынічна.

Манаграфія Ірыны Варанковай *«Беларусь і вайна ў Іспаніі (1936–1939)»*, выдадзеная ў 2009 годзе ў Мінску.

меч Сталіна» — так названая яго біяграфія, што выйшла ў Маскве ў 2003 годзе. У Іспаніі Эйцінгон завербаваў Рамона Меркадэра, які стаў прыладай для забойства Льва Троцкага ў 1940 годзе.


SHUTTERSTOCK, BY BAKA SOBAKA

**Бюст Сяргея Грыцаўца** працы вядомага беларускага скульптара Заіра Азгура паставілі ў 1955 годзе ў цяперашнім парку імя Янкі Купалы, але пазней яго перанеслі на вуліцу Леніна, дзе ён цяпер і стаіць.

Падчас Другой сусветнай вайны ён ствараў у беларускіх лясах фальшывую групу германскіх дыверсантаў, а пасля вайны кіраваў знішчэннем «лясных братоў» у Беларусі і Літве.

У адрозненне ад многіх герояў гэтага расповеду, пры ўсёй сваёй бліскучай кар'еры Эйцінгону не ўдалося ўратавацца ад сваіх. Спачатку ён быў арыштаваны падчас антысеміцкай кампаніі пачатку 1950-х, а пасля смерці Сталіна Лаўрэнцій Берыя яго выпусціў і зрабіў сваім найбліжэйшым паплечнікам. Але якраз гэты кар'ерны рост прывёў яго ў турму на 12 доўгіх гадоў, пасля адбыцця якой Эйцінгон ціха дажыў сваё жыццё ў якасці рэдактара выдавецтва «Международная жизнь».


БДАКФФД

### Франкісты перамагаюць

Пакуль чэкісты распраўляліся над сваімі праціўнікамі, раздзіраная ўнутранымі супярэчнасцямі Рэспубліка адступала і адступала. Хто змог — уцёк за мяжу. А ўнутры Іспаніі разгарэўся тэрор: каля 50 000 тысяч прыхільнікаў рэспубліканцаў былі забітыя ўжо пасля заканчэння вайны.

Хоць Франка перамог дзякуючы Гітлеру, у Другую сусветную вайну ён не ўвязаўся. Абмежаваўся адпраўкай на Усходні фронт «Блакітнай ▶


WIKIMEDIA COMMONS

**Эрнест Хэмінгуэй падчас працы над раманам «Па кім звоніць звон», штат Айдаха, снежань 1939 года.** Прататыпам Роберта Джордана, героя рамана Хэмінгуэя «Па кім звоніць звон», быў **Кірыла Арлоўскі (злева)** — беларус-дыверсант з НКВД.

ФОТА JUAN GUZMÁN

**17-гадовая Марына Жынэста пазіруе з вінтоўкай на даху гатэля «Калон» у Барселоне.** Яна была ў інтэрбрыгадзе, але як перакладчыца і памочніца карэспандэнта газеты «Праўда» Міхаіла Кальцова. Дзеля гэтага фота яна першы і адзіны раз у жыцці возьме ў рукі вінтоўку — вырабу іспанскай фабрыкі з Аўеда, мадэлі M1916 Mauser. Марына будзе ўдзельнічаць у POUM і руху анархістаў і горка расчаруецца ў сталінізме пасля «Майскіх падзей» 1937 года. Параненую, яе вывезуць у Францыю. У 1960 годзе яна выйдзе замуж за бельгійскага дыпламата і памрэ ў Парыжы ў 95 гадоў. Яе фота стане культавым у 2000-х, а сама Марына ўпершыню яго пабачыць у 2006-м.


WIKIMEDIA COMMONS

**Лейба Фельдзін, ён жа Леў Нікольскі.**
Ураджэнец Бабруйска, кіраўнік рэзідэнтуры НКВД у Іспаніі, арганізатар вывазу ў Маскву залатога запасу краіны. У кнізе Оруэла «Памяці Каталоніі» фігуруе як Аляксандр Арлоў. Уратаваўся ад сталінскіх рэпрэсій, перабегшы ў ЗША, дзе працаваў прафесарам у адным з універсітэтаў.

▸ дывізіі» добраахвотнікаў, пра знаходжанне якой у Гродне і дагэтуль можна пачуць згадкі старых месцічаў. Іспанія пяройдзе ад дыктатуры да дэмакратыі толькі пасля смерці Франка ў 1975 годзе. Франка выбраў пераемнікам караля Хуана Карласа, а той рашуча разбурыў сістэму, якую быў атрымаў у спадчыну.

Для Беларусі ж грамадзянская вайна ў геаграфічна далёкай краіне была, па сутнасці, звяном паміж савецка-польскім канфліктам і Другой сусветнай. Адныя і тыя ж людзі партызанілі тут і там. Калі нацысты акупавалі Беларусь, то сярод арганізатараў першых партызанскіх атрадаў былі чэкісты з практыкаю Іспаніі.

Пра камуністычны тэрор у Іспаніі, які быў непасрэдна арганізаваны нашымі землякамі, дагэтуль нідзе афіцыйна не ўспамінаюць. Толькі раман Джорджа Оруэла «1984» застаўся помнікам той пары. Ён не напісаў бы яго, калі б не сутыкнуўся з НКВД у Барселоне. ◆


WIKIMEDIA COMMONS

**Джордж Оруэл**, 1940 год.

# «Я хату покинул, пошел воевать»

Я хату покинул,
Пошел воевать,
Чтоб землю в Гренаде
Крестьянам отдать.
Прощайте, родные!
Прощайте, семья!
«Гренада, Гренада,
Гренада моя!»

Знакамітая рамантычная песня на словы Міхаіла Святлова была напісаная за 10 гадоў да вайны ў Іспаніі і на той час ужо была суперпапулярнай. А сам Святлоў, ветэран расійскай грамадзянскай, адправіўся ў Іспанію карэспандэнтам «Праўды».

Дзякуючы «Грэнадзе», Сталін пакінуў Святлова жывым, хоць яго энкавэдэшнае дасье поўніцца даносамі сексотаў пра яго неасцярожныя выказванні.

«Святлоў устаў, працягваючы мне руку, — успамінаў вязень ГУЛАГа, вялікі пісьменнік Варлам Шаламаў. — “Пачакайце. Я вам нешта скажу. Я, магчыма, кепскі паэт, але я ніколі ні на каго не данёс, ні на каго нічога не напісаў”. Я падумаў, што для тых гадоў гэта немалая заслуга — цяжэй, бадай, чым напісаць “Грэнаду”», — пісаў Шаламаў.

Святлоў нарадзіўся ў украінскім Кацярынаславе (цяпер гэты горад называецца Дняпро) у 1903 годзе. Яго сапраўднае прозвішча было Шэйнкман, Святлоў — гэта псеўданім. У 17 гадоў ён пайшоў у Чырвоную армію. А ў 1920-я горача падтрымаў левую апазіцыю, НКВД зафіксаваў, што ў Харкаве ў яго доме друкавалі нелегальную апазіцыйную газету, а ён на сваіх паэтычных вечарах збіраў грошы для тадышніх палітвязняў-трацкістаў. Час быў няўмольны: у Іспаніі ў яго на вачах будуць мардаваць трацкістаў з інтэрбрыгад, а ён будзе пасылаць у Маскву ідэалагічна вытрыманыя рэпартажы.


WIKIMEDIA COMMONS

**Разрывы бомбаў у Гатычным квартале і на плошчы Каталунья ў Барселоне.** Фота з італьянскага бамбавіка.


IBERIANATURE.COM

**Рэвалюцыянеры выкінулі мошчы** святых з кафедральнага сабора Барселоны.

SHUTTERSTOCK, BY MATEJ KASTELIC

## Даліна палеглых

### Што ўбачыць у Іспаніі, калі вас цікавіць спадчына грамадзянскай вайны?

**Алькасар у Таледа.** У гэтым замку месцілася вайсковая акадэмія, і на пачатку мяцяжу ворагі Рэспублікі тут адчайна трымалі абарону. Разлютаваныя рэспубліканцы захапілі сына палкоўніка Маскарда, кіраўніка мяцежнікаў, і прымусілі яго тэлефанаваць бацьку пад пагрозаю расстрэлу. Палкоўнік прамовіў: «Што я табе магу сказаць, сынку? Памаліся Богу і памірай годна». Ягонага сына расстралялі. Алькасар пратрымаўся да прыходу франкістаў. Цяпер там месціцца вайсковы музей, але пакой, дзе знаходзіўся штаб абароны, захавалі ў аўтэнтычным выглядзе. Яго не аднаўлялі ад ваенных знішчэнняў.



WIKIMEDIA COMMONS

**Цэнтр мастацтваў каралевы Сафіі ў Мадрыдзе (скарочана Reina Sofia).** Менавіта тут можна ўбачыць знакамітую карціну Пабла Пікаса «Герніка», створаную ім для рэспубліканскага павільёна на Сусветнай выставе ў Парыжы ў 1937 годзе.

**Даліна палеглых.** Гэты гіганцкі мемарыял непадалёк ад манастыра Эскарыял быў узведзены адразу пасля завяршэння грамадзянскай вайны рукамі вязняў-рэспубліканцаў. Цэнтр яго — велізарная базіліка, высечаная ў скале. Каля базілікі пахаваныя 40 000 былых ворагаў, як франкістаў, так і рэспубліканцаў. Але гэтае месца пераважна служыць як сімвал нацыяналістаў, бо ў храме спачатку быў пахаваны лідар фалангістаў Хасэ Антоніа Прыма ды Рывера, а пасля сваёй смерці — і каўдзільё Франка. Зараз у Іспаніі прыняты закон пра перанос пахавання Франка з базілікі, але ён да гэтага часу не выкананы.

# Сямейныя гісторыі прэзідэнтаў БНР

**За сто з лішкам гадоў гісторыі Рады БНР на яе чале змяніліся сямёра мужчын. Цяпер Радай упершыню за ўсю яе гісторыю кіруе жанчына. Піша Антон Рудак.**

### Серады: пад покрывам невядомасці

Першым кіраўніком дзяржавы быў ветэрынар. Іван (Янка) Серада нарадзіўся на Наваградчыне, скончыў Варшаўскі ветэрынарны інстытут, удзельнічаў у Расійска-японскай і Першай сусветнай войнах. Ён займаў пасаду старшыні Рады БНР зусім коратка, да мая 1918 года.

З усталяваннем савецкай улады застаўся ў Менску, працаваў у бібліятэцы Інстытута беларускай культуры, выкладаў у Белпедтэхнікуме, а пазней — у сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. У 1930 годзе Серада быў арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і на пяць гадоў сасланы ў Яраслаўль.

Кажуць, Іван Мікітавіч прадбачыў, што будзе рэпрэсаваны, і турбаваўся за сваю жонку Ксенію Сцяпанаўну. Таму прасіў калегу па сельгасакадэміі Ювеналія Вейса, каб той ажаніўся з ёй, калі самога Сераду арыштуюць. Вейс сябраву волю выканаў. Звесткі аб гэтым апублікаваў архітэктар Андрэй Шулаеў са словаў сваячкі, чый бацька быў калегам Серады і Вейса. Памерла Ксенія Сцяпанаўна Серада ў 1963 годзе ў 73 гады і пахаваная ў Менску на Усходніх могілках. На надмагіллі выбітыя яшчэ два імёны — магчыма, гэта дзеці першага кіраўніка нашай дзяржавы? Дакладна не ведаем.

Загадкавы лёс і самога Серады. У снежні 1941 года ён быў паўторна асуджаны — цяпер на 10 гадоў лагера. 19 лістапада 1943 года яго датэрмінова вызвалілі з лагера ў Краснаярскім краі — і тут сляды па ім губляюцца. Як знік першы старшыня Рады БНР, калі ён памёр і ці сваёй смерцю?..

### Лёсікі: дзядзька аднаго класіка ажаніўся з дачкой другога

Івана Сераду на пасадзе змяніў Язэп Лёсік, дзядзька Якуба Коласа — хоць на год быў за пляменніка маладзейшы.

**Калі памёр Мікола Абрамчык, яго жонка Ніна не захацела перадаваць наступнікам архівы Рады БНР. Так яны і прапалі**

Вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі і Ноўгарад-Северскім гарадскім вучылішчы, настаўнічаў. За ўдзел у падзеях рэвалюцыі 1905 года быў арыштаваны, за ўцёкі прысуджаны да бестэрміновага пасялення ў Сібіры. Вярнуўся ў Беларусь толькі ў лютым 1917 года і адразу ж заняўся палітыкай, а таксама ажаніўся — з Вандай, дачкою пісьменніка Антона Лявіцкага, вядомага пад псеўданімам Ядвігін Ш. Язэпу было 34, Вандзе 22. Яна працавала бібліятэкаркай, выхавацелькай у прытулку, выкладала ў Першай менскай беларускай школе.

Як і Серада, Лёсік застаўся ў савецкім Менску, выкладаў, займаўся мовазнаўствам. Як і Серада, быў арыштаваны ў 1930 годзе і сасланы на пяць гадоў у Саратаўскую вобласць. Але жонка не засталася ў Менску, а паехала следам разам з трыма дзецьмі: Юркам, Люцыяй і Алесяй. Ніхто з іх на радзіму не вярнуўся, усе пасля жылі і працавалі ў Расіі. А Язэп Лёсік быў паўторна арыштаваны ў 1938-м, у 1940-м асуджаны на пяць гадоў і, паводле афіцыйнай версіі, памёр у турме ад сухотаў. Ванда пасля арышту мужа працавала пасудамыйкай і паштаркай. Памерла ў Стаўрапольскім краі ў 1968-м, паспеўшы яшчэ аднойчы наведаць Менск.

### Крачэўскія і Захаркі: ляжаць у Празе

Пятро Крачэўскі, чарговы старшыня Рады БНР, скончыў духоўную семінарыю, настаўнічаў, падчас Першай сусветнай быў у войску. Абраны на пасаду старшыні Рады ў снежні 1919 года, асноўную палітычную дзейнасць ён праводзіў ужо ў эміграцыі, баронячы інтарэсы БНР на міжнароднай арэне. Ларыса Геніюш ва ўспамінах згадвае, што пасля смерці Пятра Антонавіча ў 1928 годзе яго ўдава Марыя жыла ў Празе па суседстве з Захаркамі. ▶

▶ Васіль Захарка, які ўзначаліў БНР пасля Крачэўскага, таксама быў настаўнікам. На эміграцыі ў Празе працягваў працу па міжнароднай прэзентацыі БНР, хоць Рада тады ўжо ніякай дзейнасці не праводзіла. Памёр у 1943 годзе, перадаўшы паўнамоцтвы старшыні Рады БНР Міколу Абрамчыку.

Жонка Захаркі, Пелагія Іванаўна, памерла ў 1937 годзе, пахаваная разам з мужам на Альшанскіх могілках у Празе, там жа, дзе і Пётра Крачэўскі. Ні Крачэўскія, ні Захаркі дзяцей не мелі.



Мікола, Ніна і Альгерд Абрамчыкі **пасяліліся ў рабочым прыгарадзе Парыжа.**

NOVYCHAS.BY

### Абрамчыкі: схавалі архіў БНР, ды так і не аддалі

Мікола Абрамчык быў першым старшынёй Рады БНР пасля аднаўлення яе дзейнасці ў 1947-м і заставаўся на пасадзе 23 гады, да смерці. Ён скончыў Радашковіцкую беларускую гімназію, вучыўся ў Празе. У 1930 годзе пераехаў у Францыю, быў там адным з лідараў беларускай эміграцыі.

Паплечнікі сведчылі, што пасля акупацыі нацыстамі Францыі Абрамчык пакінуў Парыж, каб не трапіць у поле зроку гестапа, і планаваў прабірацца ў Беларусь. Але ў выніку ён апынуўся ў Берліне і ў 1941–1943 гадах працаваў у Беларускім камітэце самапомачы.

Тут пазнаёміўся з жонкай Нінай. У гады вайны Ніна, настаўніца з Пружаншчыны, працавала ў Беларускім камітэце самапомачы і берлінскай газеце «Раніца», якая выдавалася для беларусаў, якія жылі ў Германіі альбо апынуліся там як остарбайтары ці ваеннапалонныя. Ніна Абрамчык выдала пад грыфам Беларускага камітэта самапомачы пяць кніжак беларускай лацінкай: тры зборнікі песень, а таксама кнігу «Гісторыя Беларусі ў картах» і брашуру «25 сакавіка». Напрыканцы 1943-га Абрамчыкі выехалі з Берліна ў Парыж, дзе Міколу за нелегальную паездку ў Беларусь арыштавала гестапа.



KRYTYKA.BY

Даследчыца Наталля Гардзіенка і **Альгерд Абрамчык.**

У пасляваенныя гады Абрамчык разгарнуў змаганне за лідарства ў беларускай эміграцыі і ў 1947 зрабіўся прэзідэнтам адноўленай Рады БНР. Не адставала ад яго і Ніна — 1949 годам датуюцца згадкі аб Аб'яднанні беларускіх жанчын, старшынёй якога яна лічылася. Але пра дзейнасць гэтай арганізацыі нічога невядома, таксама няма слядоў адзінага выдадзенага нумара газеты для жанчын «Беларуска». У Францыі Абрамчыкі пасяліліся ў рабочым прыгарадзе Парыжа, у Вільпэнце. Супрацоўніца радыё «Свабода» Галіна Руднік узгадвала: «Хатка іхняя хутчэй нагадвала барак. Жылі яны вельмі бедна. Выручаў гарод і сад, а што тычыцца мяса, то спажывалі сваёй гадоўлі трусоў».

Адзіны сын Альгерд быў познім дзіцём, нарадзіўся, калі бацьку было 52, а маці 39. Пасля бацькавай

смерці яго прынялі ў лонданскі беларускі інтэрнат для хлопцаў імя Кірылы Тураўскага пад апеку і ўтрыманне айцоў-марыянаў. Але ўжо ў наступным годзе хлопец быў вымушаны яго кінуць — усё праз канфлікты, якія ўзніклі ў ягонай маткі з апекунамі інтэрната.

Калі памёр Мікола Абрамчык, Ніна не захацела перадаваць наступнікам архівы Рады БНР. Праз гэта жанчына сапсавала адносіны з усімі мужавымі паплечнікамі, а Альгерд быў вымушаны перарваць навуку ў марыянаў і перайсці ў французскі ліцэй у Лондане. У выніку ён стаў інжынерам медыцынскага абсталявання. З беларускай дыяспарай кантактуе мала.

А архіў так і прапаў. Хадзілі розныя чуткі. Меркавалася нават, што яго прадалі замежным паслам або савецкім спецслужбам.

Адразу пасля смерці Абрамчыка Ніна спрабавала ўладкавацца на радыё «Свабода», але не ўдалося,

**Іван Серада, прадбачачы рэпрэсіі, турбаваўся за сваю жонку Ксенію Сцяпанаўну і папрасіў свайго калегу па сельгасакадэміі, каб той ажаніўся з ёй, калі самога Сераду арыштуюць**

і яна стала працаваць у парыжскім Музеі чалавека. Даследчыку Уладзіславу Гарбацкаму ўдалося адшукаць франкамоўныя этнаграфічныя публікацыі Ніны Абрамчык, што з'явіліся



PRUZANA.WORDPRESS.COM

**Ніна Ляўковіч (у сярэдзіне справа) побач з Раісай Жукоўскай** сярод актывістаў Беларускага студэнцкага саюза ў Вільні, люты 1939-га.

напрыканцы 1990-х і былі прысвечаныя беларускай жаночай традыцыйнай культуры. Таксама яна пісала мастацкія творы пад псеўданімам Ніна Раса, у тым ліку ў «Нашу Ніву».

Памерла Ніна Абрамчык у 2004 годзе, пахаваная на славутых парыжскіх могілках Пэр-Ляшэз каля мужа (там таксама пахаваныя Гіём Апалінэр, Анарэ дэ Бальзак, Нестар Махно, Джым Морысан і мноства іншых знакамітасцяў).

Актыўным у беларускіх колах быў пляменнік і цёзка прэзідэнта — Мікалай Абрамчык-малодшы, які нарадзіўся ў 1922 годзе і падчас нямецкай акупацыі служыў у паліцыі ў Радашковічах. Мікола Абрамчык-старэйшы прапаноўваў пляменніка ў якасці кандыдата на ролю дэсантніка Рады БНР для перакідкі ў БССР — але ён быў адхілены амерыканцамі яшчэ да дэсанту Янкі Філістовіча. У 1960-х Мікалай Абрамчык-малодшы быў адным з кіраўнікоў Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Нью-Ёрку і сябрам рэдкалегіі газеты «Беларус». Памёр ён у 2005-м, толькі на год пазней за дзядзькаву жонку.

## Жук-Грышкевічы: Вінцэнт і дзве яго жонкі

Вінцэнт Жук-Грышкевіч, які заняў месца Міколы Абрамчыка, меў з папярэднікам шмат супольнага, але вайну правёў на іншым баку. Ён таксама адвучыўся ў беларускіх гімназіях (праўда, не ў Радашковічах, а ў родным Будславе і Вільні), таксама атрымаў вышэйшую ▶



BACYJA.COM

Вінцэнт Жук-Грышкевіч ажаніўся другі раз, калі першая жонка знікла за жалезнай заслонай.
**Раіса Жук-Грышкевіч была стаматолагам і бязмерна адданая справе свайго мужа.**


Тры пакаленні Сажычаў. Язэп і Барбара Сажычы мелі дачку Алену і сына Язэпа. Бацькі хацелі, каб сын вывучыўся на медыка, але хлопец зрабіўся тэолагам і пратэстанцкім пастарам. Як місіянер, ён наведваў краіны былога СССР. Свайго сына Язэп-малодшы таксама назваў Язэпам. **На жаль, ён памёр ад раку ў 22 гады.**

KRYNICA.INFO

адукацыю ў Празе. Настаўнічаў у Віленскай беларускай гімназіі, але ўвосень 1939-га быў арыштаваны і асуджаны саветамі. У 1942 годзе з лагера патрапіў у армію генерала Уладзіслава Андэрса, удзельнічаў у бітве ля Монтэ-Касіна. Пасля вайны жыў у Брытаніі і Канадзе, а ў 1954 годзе зрабіўся першым кіраўніком беларускай секцыі радыё «Вызваленне» (цяперашняя «Свабода»). Старшынёй Рады БНР Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў да смерці ў 1982-м.

Першай жонкай Грышкевіча была Ксенія Лапіцкая, у 1931-м у іх нарадзілася дачка Рагнеда. Разлучылася сям'я ў 1939 годзе не са сваёй волі — калі Ксенія выехала на Дзісеншчыну па дачку, якая была на вакацыях у сваякоў, Вінцэнта арыштавалі, і болей яны не пабачыліся. Ксенію савецкая дзяржбяспека схапіла ў Вілейцы ў 1944-м, і, як перадалі дачцэ, у турме яна памерла ад тыфу. Рагнеда ўзяла прозвішча Аляхновіч, паступіла пасля вайны на беларускую філалогію — але ў 1951-м яе выключылі за «ўтойванне фактаў біяграфіі». Скончыць навучанне яна здолела толькі пасля смерці Сталіна, зрабілася выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры, працавала ў Навукова-даследчым інстытуце педагогікі, пісала ў «Нашу Ніву», памерла ў Менску ў 2013 годзе.

З другой жонкай Вінцэнта Грышкевіча лёс звёў ужо на эміграцыі. Як і Ніна Абрамчык, Раіса Жукоўская таксама паходзіла з Пружаншчыны, таксама вучылася ў Віленскай беларускай гімназіі. Год да пачатку вайны адвучылася ў Віленскім універсітэце на факультэце права, потым настаўнічала на Пружаншчыне, а ў 1942-м была вывезена на працу ў Германію.

Пасля вайны Раіса была адной з актывістак беларускага скаўтынгу ў лагеры для перамешчаных асоб у Ватэнштэце, а пазней вучылася ва ўніверсітэце ў Марбургу. У 1949-м яна выехала ў Канаду і вывучылася на стаматолага. Тут яны і пазнаёміліся з Жук-Грышкевічам.

Раіса ўзначальвала Задзіночанне беларускіх жанчын Канады. У 1993-м прыязджала ў Беларусь, каб паўдзельнічаць у Першым з'ездзе беларусаў свету. У тым жа годзе ў Таронта выдала кнігу «Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча» — амаль 800 старонак успамінаў, дзённікаў і ліставання, з якіх паўстае біяграфія ейнага мужа. Памерла ў 2009 годзе.

## Сажычы

Язэп Сажыч, народжаны ў 1917 годзе ў Гарадзечне на Наваградчыне, скончыў польскую гімназію імя Адама Міцкевіча і афіцэрскую школу. У 1939 годзе трапіў у нямецкі палон, уцёк, вучыўся ў Львове і ўрэшце вярнуўся ў Беларусь. Падчас нацысцкай акупацыі Язэп стаяў на чале беларускага батальёна аховы чыгунак.

Пасля вайны ён у Германіі вывучыўся на доктара і выехаў у ЗША. У 1982–1997 гадах Язэп Сажыч узначальваў Раду БНР, памёр у 2007-м.

Жонка ягоная таксама мела дачыненне да вайсковай справы. Барбара Мазура нарадзілася ў 1919-м у Вількаміры ў Літве (цяпер Укмерге). Перад вайной жыла на Наваградчыне, улетку 1944-га з сям'ёй выехала з Беларусі і кароткі час была ў разведшколе абвера для беларусаў у Дальвіцы ва Усходняй Прусіі (цяпер — Калінінградская вобласць Расіі) разам з сястрой Таццянай і братам Юркам, які падчас нацысцкай акупацыі ў Наваградку быў афіцэрам батальёна Барыса Рагулі. Пасля вайны ў Германіі Барбара вучылася ва ўніверсітэце ў Марбургу, у 1950-м выйшла за Сажыча. Памерла Барбара Сажыч у 1978 годзе ад раку.

Язэп і Барбара Сажычы мелі дачку Алену і сына Язэпа. Бацькі хацелі, каб сын вывучыўся на медыка, але хлопец зрабіўся тэолагам і пратэстанцкім пастарам. Як місіянер, ён наведваў краіны былога СССР. Свайго сына Язэп-малодшы таксама назваў Язэпам. На жаль, ён памёр ад раку ў 22 гады.

## Сурвілы

Івонка Сурвіла (у дзявоцтве Шыманец) нарадзілася ў 1936 годзе ў Стоўбцах. Пасля 1944-га вучылася ў Вышэйшай мастацкай школе ў Парыжы, скончыла філалагічны факультэт Сарбоны.

Яе муж Янка нарадзіўся ў 1925 годзе на Смаргоншчыне. Падчас нацысцкай акупацыі настаўнічаў, але ў 1943 годзе партызаны спалілі яго школу. Тады Янка выехаў у Германію, дзе ягоны дзядзька працаваў у баўэра, і Мікола Абрамчык уладкаваў яго на працу ў Беларускім камітэце самапомачы ў Берліне. Пасля вайны Сурвіла выехаў у Францыю.


ФОТА З АРХІВА ІВОНКІ СУРВІЛЫ

**Янка ды Івонка Сурвілы.**

У 1948 годзе на Першым з'ездзе беларускай эміграцыі ў Парыжы Янка пазнаёміўся з Івонкай Шыманец, а праз дзесяць гадоў яны пабраліся шлюбам. У 1959 годзе Сурвілы пераехалі ў Мадрыд, дзе Янка вучыўся на эканаміста, а таксама вёў на мадрыдскім радыё перадачы для беларусаў. У 1969-м Сурвілы перабраліся ў Канаду. Памёр Янка Сурвіла ў 1997 годзе, а праз некалькі месяцаў ягоная ўдава была абраная старшынёй Рады БНР.

У Сурвілаў дзве дачкі — Ганна-Прадслава і Паўліна. Паўліна нарадзілася ў 1961 годзе ў Мадрыдзе, служыла музыкай у канадскім войску, скончыла ўніверсітэт у Мічыгане, яна доктар музыказнаўства.

Ганна вучылася матэматыцы, атрымала спецыяльнасць бізнэс-менеджара.

* * *

Палітычная і грамадская актыўнасць старшыняў Рады БНР не магла не пакідаць адбітку на іх прыватным жыцці. Як лідары ўрада ў выгнанні, яны не маглі разлічваць на нейкія прывілеі ці гарантыі заможнага жыцця для сябе і сваіх сем'яў. Наадварот — яны ахвяравалі сабой і сямейным дабрабытам дзеля сваёй дзейнасці на чале Рады.

Варта адзначыць, што Рада БНР не запляміла сябе ніякімі кантактамі з нацыстамі, у вайну папросту не праводзіла ніякай дзейнасці. Хоць Мікола Абрамчык ці Язэп Сажыч тым альбо іншым чынам працавалі пэўны час пад нямецкім кантролем, але першы пры гэтым таксама зазнаў пераслед з боку нацысцкіх спецслужбаў, а другі паспеў нават пазмагацца супраць нацыстаў на фронце ў 1939-м. Нават саветы, якія хапаліся за любую падставу для дыскрэдытацыі сваіх палітычных апанентаў, не рабілі спроб абвінаваціць старшыняў Рады БНР у датычнасці да ваенных злачынстваў. ◆


ФОТА З АРХІВА ІВОНКІ СУРВІЛЫ

**У Сурвілаў дзве дачкі — Ганна-Прадслава і Паўліна.**

# Пры якіх умовах Халакост можа паўтарыцца

**Выдатны амерыканскі гісторык, спецыяліст па гісторыі Усходняй Еўропы Цімаці Снайдэр у адной са сваіх апошніх прац «Чорная зямля. Халакост як гісторыя і перасцярога» прапанаваў прынцыпова новы погляд на прычыны Халакосту і матывы людзей, якія яго здзяйснялі. Піша Максім Маханькоў.**

### Светапогляд Гітлера і *Lebensraum*

Чаму Гітлер ненавідзеў яўрэяў? Са спробы зразумець гэта Снайдэр пачынае сваю кнігу.

Гітлер па-цемрашальску атаясамліваў паводзіны відаў жывёл і чалавечых рас. Ён лічыў, што прыродзе ўласцівая вечная барацьба паміж рознымі відамі жывёл. І расавыя войны,




адпаведна, лічыў неабходнымі для выжывання чалавецтва. Вучэнні ж, якія супярэчылі гэтаму, казаў Гітлер, прыдумалі яўрэі. І толькі ізаляцыя альбо ліквідацыя яўрэяў, якія кідалі выклік прыродзе, магла, на думку Гітлера, уратаваць чалавецтва і адрадзіць планету.

Адно з галоўных азначэнняў у гітлераўскай ідэалогіі — *Lebensraum* (жыццёвая прастора). Гэты тэрмін нацысты выкарыстоўвалі, каб апраўдаць каланіяльную вайну ва Усходняй Еўропе. Маўляў, Германія перанаселеная, ёй не хапае сельскагаспадарчых зямель. Тэарэтычна яна магла сябе пракарміць, але мусіла б пры гэтым ахвяраваць некаторымі галінамі прамысловасці, экспартам і валютай. Выправіць сітуацыю, на думку Гітлера, маглі толькі новыя вялізныя тэрыторыі — еўразійскія прасторы, заселеныя славянскімі народамі.

Гітлер успрымаў Савецкі Саюз як дзяржаву, якой кіруюць яўрэі, бо верыў у міф пра «жыдабальшавізм». Тады ў Еўропе была папулярная ідэя, што бальшавіцкая рэвалюцыя — выключна яўрэйскі праект. Крыніцы гэтага міфу Снайдэр бачыць у тым, што падчас грамадзянскай вайны ў Расіі ў шэрагах Белага руху было шмат чарнасоценцаў і антысемітаў. Яны даводзілі, што камуністычная рэвалюцыя — яўрэйскі праект, спрабуючы дыскрэдытаваць бальшавікоў у вачах насельніцтва былой Расійскай імперыі. Эміграваўшы на Захад пасля паразы, яны пашыралі міф пра «жыдабальшавізм» і там. А разам з расійскімі белымі ў Еўропу масава імігравалі і балтыйскія немцы, якія прывезлі гэтыя ўяўленні ў Германію.

Снайдэр падкрэслівае, што Гітлер не быў нямецкім нацыяналістам. Ён толькі карыстаўся гэтай ідэалогіяй, каб падняць немцаў на вайну — зверскую вайну супраць іншых «рас». У выніку яе павінны былі знікнуць усе дзяржавы, а Германія была толькі інструментам для гэтага. Снайдэр называе такую ідэалогію «заалагічным анархізмам».

### Антысемітызм і Халакост

У міжваеннай Еўропе антысемітызм быў пашыранай з'явай. Можа гучаць парадаксальна, але, на думку Снайдэра, у Польшчы, напрыклад, ён быў нават мацнейшы, чым у Германіі. І Берлін, і Варшава хацелі, каб яўрэяў у Еўропе не засталося. Але Польшча, у адрозненне ад Германіі, ніколі не лічыла яўрэяў бядой для ўсяго чалавецтва.

Палякі меркавалі, што прысутнасць яўрэяў у іх краіне была непажаданай з эканамічнага і палітычнага пункту гледжання. Таму Польшча падтрымлівала сіяніцкі рух і дабівалася ад Брытаніі стварэння ў Палесціне яўрэйскай дзяржавы, каб туды маглі пераязджаць яе

грамадзяне-яўрэі. Але Брытанія не хацела псаваць адносіны з арабскім насельніцтвам сваіх калоній. У якасці альтэрнатывы разглядаўся... Мадагаскар: існавалі планы стварэння яўрэйскай дзяржавы на гэтым афрыканскім востраве, але і такі праект без дапамогі вялікіх каланіяльных дзяржаў рэалізаваць было немагчыма.

Немцы ж спачатку планавалі проста выселіць яўрэяў сілай, а потым — увогуле знішчыць. У самых зацятых польскіх антысемітаў такога не было і ў думках. У акупаванай немцамі Польшчы было шмат выпадкаў, калі грамадскія дзеячы, вядомыя перад вайной антысеміцкімі выказваннямі, ратавалі яўрэяў ад смерці, бо лічылі Халакост дзікунствам. У тыя складаныя часы можна было быць антысемітам і сіяністам адначасова — і ў гэтым не было супярэчнасці.

Важная думка, якую хоча давесці Снайдэр у сваёй кнізе, — узровень антысемітызму ў той ці іншай краіне амаль не карэляваўся з працэнтам забітых/ацалелых яўрэяў падчас Халакосту.

Ёсць вялікая спакуса тлумачыць татальнае знішчэнне яўрэйскага насельніцтва ва Усходняй Еўропе антысемітызмам мясцовых жыхароў. Снайдэр бязлітасна крытыкуе такі падыход і лічыць яго несправядлівым і нават расісцкім у дачыненні да ўсходнееўрапейцаў.

У краінах Балтыі Халакост быў найбольш масавым і татальным — там пагінулі амаль усе яўрэі. Але Снайдэр адзначае, што ўзровень антысемітызму там быў нават меншы, чым у Заходняй Еўропе. У 1939–1940-м, калі Германія і СССР знішчылі польскую дзяржаву, балтыйскія дзяржавы прынялі вялікую колькасць яўрэйскіх бежанцаў, якія ўцякалі ад нямецкага і савецкага рэжымаў. Яўрэі ўспрымалі гэтыя дзяржавы як бяспечнае для сябе месца. У той час як заходнееўрапейскія дзяржавы і ЗША нават забаранялі і істотна абмяжоўвалі яўрэйскую міграцыю для бежанцаў з тэрыторыі акупаваных Польшчы, Чэхіі і Аўстрыі.

**Ні беларусы, ні ўкраінцы, ні літоўцы як супольнасці не вінаватыя. Спробы перакласці адказнасць за Халакост на жыхароў Усходняй Еўропы — маніпуляцыя**

Снайдэр мяркуе, што спробы пералажыць адказнасць за Халакост з нацыстаў на жыхароў Усходняй Еўропы (для якіх быў нібыта характэрны прыродны антысемітызм) — звычайная маніпуляцыя і падмена паняццяў, якую прыдумалі нямецкія нацысты для свайго апраўдання пасля вайны. Падтрымлівалі гэты міф і савецкія ўлады. Ён быў выгадны камуністам, каб дыскрэдытаваць нацыянальна-вызваленчыя рухі краін Балтыі, Заходняй Украіны і Польшчы.

Але факт застаецца фактам: у Эстоніі 99% яўрэяў знішчылі, а вось у Даніі, якая не прымала яўрэйскіх бежанцаў з 1935 года і дзе антысемітызм быў больш распаўсюджаны, 99% яўрэяў выжылі. У чым была прычына?

### Халакост і дзяржаўнасць

Снайдэр мяркуе, што самыя страшныя і катастрафічныя наступствы Халакосту былі там, дзе былі знішчаныя нацыянальныя дзяржавы са сваімі інстытутамі і бюракратыяй. Першыя масавыя забойствы яўрэяў пачаліся ў Чэхаславакіі і Аўстрыі — дзяржавах, ліквідаваных Германіяй. І гэта пры тым, што антысемітызм у гэтых краінах не быў асабліва моцным.

Ва Усходняй Еўропе шанцы яўрэя выжыць падчас Халакосту былі найменшыя, бо на рэгіён лёг падвойны цень акупацыі: спачатку савецкай, а потым нямецкай.

У катастрафічных наступствах Халакосту ва Усходняй Еўропе ёсць віна і Савецкага Саюза, лічыць Снайдэр. Спачатку Саветы разам з Германіяй падзялілі Польшчу, а потым аднаасобна ліквідавалі балтыйскія дзяржавы, іх палітычную эліту і бюракратычны клас. Калі ў 1941 годзе на гэтыя землі напалі нацысты, ім заставалася знішчыць не да канца сфарміраваныя на гэтых землях савецкія дзяржаўныя інстытуты. Гэта стварыла ва Усходняй Еўропе ўнікальную сітуацыю, якой больш нідзе на кантыненце не было.

У Цэнтральнай і Заходняй Еўропе, у дзяржавах-сатэлітах Германіі і акупаваных дзяржавах, нягледзячы на шэраг дыскрымінацыйных законаў, яўрэі з пашпартам маглі атрымліваць візы, захоўваць маёмасць і прадаваць яе. Дзяржаўная бюракратыя ставілася да іх як да грамадзян і ў многіх выпадках магла тым ці іншым спосабам абараніць ад высылкі ў канцлагеры. ▶


**Ізраіль Басаў. Успаміны.** 1968 год. Са збораў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

▶ Падробка дакументаў была ў той час папулярным бізнэсам, які ратаваў жыцці людзей. У Львове ў ваенныя часы нават хадзіў жарт: «Што трымае цела і душу разам? Пашпарт».

Пашпарты розных дзяржаў ратавалі яўрэяў (акрамя польскага і савецкага, бо немцы іх не прызнавалі). Калі немцы лавілі яўрэя з брытанскім ці амерыканскім пашпартам, яны не маглі з ім нічога зрабіць. 2/3 яўрэяў Румыніі, палова яўрэяў Венгрыі, 3/4 яўрэяў Балгарыі і Францыі, 4/5 яўрэяў Італіі выжылі. А большасць яўрэяў, якія загінулі ў гэтых краінах, жылі ў «зонах бездзяржаўнасці» — на тэрыторыях, якія пераходзілі ад адной дзяржавы да другой (напрыклад, у Трансільваніі, якая перайшла ад Румыніі да Венгрыі, ці ў Бесарабіі, якую спачатку заняў СССР, а пасля акупавала Румынія). Там яўрэі мелі праблемы з пашпартамі і былі больш безабароннымі.

У марыянеткавых дзяржавах, створаных Германіяй (Славакіі і Харватыі), а таксама дзяржавах з ліквідаванымі дзяржаўнымі інстытутамі (як Грэцыя ці Нідэрланды), шанцы яўрэя выжыць падчас Халакосту былі меншыя, чым у пералічаных вышэй краінах, але ўсё адно большыя, чым на тэрыторыях двойчы акупаваных краін Балтыі, Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі.

Віна СССР не толькі ў знішчэнні дзяржаўнасці ўсходнееўрапейскіх краін, але і ў тым, што сваімі дэпартацыямі мясцовых эліт у ГУЛАГ ён стварыў палітычныя

і матэрыяльныя матывы для Халакосту. Былыя чыноўнікі і сілавікі знішчаных СССР балтыйскіх краін хацелі аднаўлення дзяржаўнасці, і значная частка з іх успрымала Германію як натуральнага хаўрусніка, які дапамог бы аднавіць Літву, Латвію і Эстонію.

## Дзе захаваліся дзяржавы, большасць яўрэяў здолела выжыць. Дзе дзяржаў не стала, там загінулі амаль татальна

Немцы абяцалі падтрымку, але патрабавалі ад сваіх хаўруснікаў знішчэння камуністаў і яўрэяў. Нагадаем, нямецкая прапаганда атаясамлівала адных і другіх. Падобная сітуацыя была і ў Заходняй Украіне, дзе мясцовыя нацыяналісты чакалі, што Германія дапаможа ім са стварэннем незалежнай Украіны. Але нацысты проста выкарысталі эстонцаў, літоўцаў, латышоў, украінцаў — ніхто і не думаў аднаўляць іх дзяржаўнасць.

Не варта забываць і пра тое, што шмат сілавікоў і чыноўнікаў у краінах Балтыі і ў Заходняй Украіне перайшло спачатку на бок СССР (пасля савецкай акупацыі), а потым на бок Германіі (пасля 1941 года). Падвойны калабарацыянізм быў у тыя часы пашыраны. І для такіх людзей забойства яўрэяў было простым спосабам паказаць лаяльнасць новай уладзе і замесці сляды ўласнага супрацоўніцтва з СССР. Яны забівалі яўрэяў як «камуністаў» (што ў большасці выпадкаў не было праўдай), каб нацысты не здагадаліся, што яны самі былі ў мінулым камуністамі. У Цэнтральнай і Заходняй Еўропе, дзе не было падвойнай акупацыі, такіх палітычных матываў для масавага вынішчэння яўрэяў проста не было.

### А што далей?

Снайдэр мяркуе, што ў будучыні гісторыі, падобныя да Халакосту, могуць паўтарыцца. Хоць «зялёная рэвалюцыя» істотна павялічыла ўраджайнасць сельгаскультур, што дазваляе пракарміць на планеце большую колькасць людзей, глабальны экалагічны крызіс зможа выклікаць новую катастрофу, падобную да Халакосту. Прычым у розных формах. Частыя засухі могуць выклікаць дэфіцыт ежы ў краінах Афрыкі і Азіі, глабальнае пацяпленне — затапіць мегаполісы і г. д.

Бачыць Снайдэр небяспеку і ў Кітаі. Хоць гэтая дзяржава і здольная пракарміць сябе, аўтар баіцца, што, разбагацеўшы, жыхары Кітая могуць захацець лепшага рацыёну, і тут можа ўзнікнуць спакуса каланізаваць бедныя афрыканскія краіны. Падобныя планы ў той ці іншай форме існуюць і ў Паўднёвай Карэі. Альбо Кітай зможа захацець каланізаваць расійскі Далёкі Усход з яго прыроднымі багаццямі... Ад глабальнай змены клімату больш за ўсё пацерпяць Паўднёвая Азія і Паўночная Афрыка, то бок арабскія краіны. І тут зноў можа ўзнікнуць спакуса абвінаваціць каго-небудзь ва ўсіх экалагічных праблемах...

Але адной каланіяльнай вайны за сельскагаспадарчыя землі мала для генацыду. Трэба, каб існавала ідэалогія, якая магла б абвінаваціць цэлыя этнічныя, нацыянальныя, рэлігійныя і сацыяльныя групы. І Снайдэр паказвае, што стварыць такую ідэалогію таксама не праблема — на прыкладзе сучаснай Расіі. Яе дзяржаўная прапаганда стварыла міф пра сусветнае гей-лобі, якое нібыта правакуе дэмаграфічныя і экалагічныя праблемы ва ўсім свеце і вядзе да выраджэння чалавецтва — гэта вельмі нагадвае антыяўрэйскую рыторыку Трэцяга рэйха.

Але галоўны чыннік для любога генацыду — руйнаванне ці аслабленне дзяржавы, перасцерагае Снайдэр. Ён у сваёй кнізе кпіць і з левых, і з правых, якія выступаюць за аслабленне ролі дзяржаўных інстытутаў. Адныя гэта робяць з надзеяй, што слабая дзяржава дасць больш свабодаў чалавеку, а другія мяркуюць, што транснацыянальныя карпарацыі зробяць свет глабальным, а дзяржавы — непатрэбнымі.

## Барацьба за рэсурсы можа выклікаць новыя генацыды. Пры адной умове

На думку Снайдэра, гэта небяспечная ілюзія, якая можа выклікаць трагедыю ў будучыні. Бо Халакост (як і любы іншы генацыд) быў магчымы там, дзе дзяржава была слабой або яе зусім не існавала. ◆

# «Дзякуй Сталіну-грузіну», *або Кароткі нарыс пра стаханаўцаў*

ФОТА СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



**Жанчына ў Давыд-Гарадку.** Спрацаваныя рукі для людзей гэтага пакалення — не выключэнне, а норма.

**Як людзі рабіліся героямі працы, піша Святлана Курс.**

У 1936 годзе дзядзька маёй бабкі, 19-гадовай Настулі, увайшоў у яе сенцы, напіў конаўкаю з ацынкаванага вядра і прамовіў:

— Настуля! Колькі ты будзеш ганьбіць нашу сям'ю? Бачыў цябе на дошцы пашаны. Ты там як абязьяна: увесь твар ссох, толькі нос тырчыць. Стаханаўка! Кідай ты жопу рваць, ніхто табе дзякуй не скажа.

— Я не паслухала яго, — сказала мне Настуля праз 70 год пасля тае размовы, — а ён жа, родненькі, праў быў.

Перада мной сядзела старая, якую ад цяжкой «стаханаўскай» працы скруціла і сагнула так, што яна магла глядзець толькі ў зямлю, амаль аслепла, а ногі яе балелі дзесяцігоддзямі. Бабка працавала на кароўніку і цялятніку, зімой і летам у гумовых ботах, цягала на сабе мяхі-«кітайцы», падкрадала дзецям бульбу і адгон і нават парасячую муку насіла ў станіку. Выгадавала дзяцей, рызыкуючы трапіць пад «закон аб каласках». Стаханаўства ў спалучэнні з нястачай выцягнула з яе сокі і пакінула хворую абалонку, аддзячыўшы медалём «Ветеран труда» і маленькай пенсіяй (дый тую далі не адразу).

### Ад Стаханава да Стаканава

4 лютага 1931 года на Першай усесаюзнай канферэнцыі працаўнікоў сацыялістычнай прамысловасці Іосіф Сталін заявіў: «Мы адсталі ад развітых краін на 50–100 год. Нам трэба прабегчы гэту адлегласць за 10 год. Або мы зробім гэта,

або нас самнуць». Савецкая краіна паслухмяна рванулася наганяць. А ў якасці прыкладу ёй патрабаваліся героі.

Дробныя начальнікі намагаліся дагадзіць вялікім любой цаной. І злавіць птушку шчасця ўдалося партаргу самай звычайнай вугальнай шахты ў Луганскай вобласці «Цэнтральная-Ірміна» Канстанціну Пятрову. Ён доўгі час спрабаваў змусіць шахцёраў да рэкорднай здабычы вугалю адбойным малатком. Тыя, аднак, у передавікі не рваліся і выскачак не любілі. «Калі адзін перавыканае норму, яе падымуць усім», — ведалі яны. Але ўрэшце на ўгаворы Пятрова паддаўся 29-гадовы шахцёр родам з Арлоўшчыны Аляксей Стаханаў. «У яго быў кулак з галаву дзіцяці», — згадвалі яго ўласныя дзеці. Таксама расказвалі, што Стаханаў мог у заклад падняць каня.

Другім фактарам, апроч сілы Стаханава, была новая арганізацыя працы: забойшчык не спыняўся, каб мацаваць скляпенне шахты і адкідаць здабыты вугаль — гэта рабілі памочнікі.

Уначы з 30 на 31 жніўня 1935 года Стаханаў спусціўся ў шахту. Не адзін, а з чатырма памочнікамі, а таксама з Канстанцінам Пятровым ды карэспандэнтам мясцовай газеты. Стаханаў сек вугаль, памочнікі мацавалі скляпенне шахты і адкатвалі насечанае. За ноч такім чынам насеклі 102 тоны, у 14 разоў перавыканаўшы норму на аднаго шахцёра. Ужо а шостай раніцы Пятроў сабраў парткам, каб рапартаваць пра рэкорд Стаханава. Чацвёрка, якая дапамагала рэкардсмену, засталася ў цяні.

Праз два дні пра подзвіг на шахце «Ірміна-Цэнтральная» даведаўся наркам цяжкой прамысловасці СССР Сярго Арджанікідзэ. Ініцыятыва знізу! — узрадаваўся ён і далажыў Сталіну. Той быў у захапленні. Партыя пастанавіла лічыць дасягненне Стаханава сусветным рэкордам працы на адбойным малатку. Тых жа, хто будзе браць у штыкі новы пачын, запісваць у ворагі народа.

Стаханава і Пятрова выклікалі ў Маскву на злёт перадавікоў. Там Аляксей з трыбуны паабяцаў пабіць свой рэкорд. На гэтым з'ездзе ў 1935 годзе і нарадзіўся стаханаўскі рух.

Стаханаў стаў асабістым улюбёнцам Сталіна, пастаянным спадарожнікам і сябрам ягонага сына Васіля. Пра вяртанне на Данбас не было і мовы. Яму далі кватэру ў Маскве, у славутым «Доме на набярэжнай», дзе жыла камуністычная эліта. Стаханаў ездзіў па калектывах, расказваў пра свой чын і... паступова співаўся.




**Аляксей Стаханаў** — моцны і просты — твар руху перадавікоў у СССР.

### Тры жонкі Аляксея Стаханава

Норавы на Данбасе былі вольныя: Стаханаў, напрыклад, пяць гадоў жыў **нераспісаны з цыганкай Аўдоццяй**. Яны пазнаёміліся ў шахцёрскай сталоўцы, дзе Дуся працавала. Яна была супраць таго, каб Аляксея высоўвалі ў перадавікі, і ўрэшце сышла з цыганскім табарам, пакінуўшы Стаханаву дваіх нажытых з ім дзяцей. А пасля сышлася з мясцовым міліцыянерам. І хутка памерла ад падпольнага аборту.

Наступную жонку Стаханаў згледзеў, выступаючы ў Харкаве перад вучнямі. Яго не спыніла тое, што **Галі Бандарэнка было ўсяго чатырнаццаць**: ёй прыпісалі два гады, каб 30-гадовы рэкардсмен мог з ёй ажаніцца. Стаханаў дзіка яе раўнаваў: мог ударыць за любы выпадковы мужчынскі позірк. Калі Хрушчоў выправіў Стаханава з Масквы ў Тарэз, жонка з дзвюма дочкамі з ім не паехала: адна дачка скончыла школу, другая паступала ў тэатральны інстытут.

У Тарэзе Стаханаў сустрэў **Антаніну, стрыечную сястру таго самага партарга Пятрова**, што вывеў яго ў людзі. Іх звязвала даўняя гісторыя: у маладосці Стаханаў узяў яе — фактычна згвалціў, але... Антаніна — закахалася і ўсё жыццё яго чакала. І Стаханаў вярнуўся — алкаголікам, і жыў фактычна на вуліцы, запаскудзіўшы да немагчымасці свой дамок. Тоня рынулася ратаваць яго: выцягваць з алкагалізму, адмываць, адчышчаць... Стаханаў нават распісаўся з ёй. Праўда, зрабіў гэта, не развёўшыся з Галінай, — і дзеці ад другога шлюбу аспрэчылі трэці праз суд...

Пра ўсё гэта з данецкай прастатой расказваюць мясцовыя журналісты і супрацоўнікі музея Стаханава.

Пакуль быў жывы Сталін, герой працы пракудзіў па Маскве. Яму сышлі з рук і страта партбілета ▶




У снежні 1935-га фота Стаханава **змясціў на вокладцы амерыканскі часопіс «Time».**

ў п'янай бойцы, і біццё люстэрак у рэстаране «Метраполь», і шлюб з непаўналетняй...

Калі да ўлады прыйшоў Мікіта Хрушчоў, ён выслаў сталінскага ўлюбёнца назад на Данбас, у мястэчка Чысцякова (Тарэз) Луганскай вобласці. Там, усімі забыты і скінуты з Алімпа ў адхлань, Стаханаў піў насмерць. У мястэчку ягонае прозвішча за гэта перарабілі ў «Стаканаў».

У Маскве пра яго зноў успомнілі ў 1970-м, да 35-годдзя рэкорда. Новы генеральны сакратар ЦК КПСС Леанід Брэжнеў даў Стаханаву зорку Героя Сацыялістычнай Працы. Але запрашэнне ў прэзідыумы не магло змяніць скончанага алкаголіка. Яго лячылі ад белай гарачкі, а памёр 71-гадовы ўсесаюзны рэкардсмен у 1977 годзе ў бальніцы ў Данецку — трапіў туды пасля інсульту: паслізнуўся на скурцы ад яблыка і ўдарыўся галавой аб востры кут стала. І нават ягоная магіла на могілках Тарэза доўгі час была занядбаная.

## «Цілі-цілі-цірлі-рлі, нам заплацяць тры рублі...»

Камуністы і самі ад пачатку не верылі, што стаханаўскі рух можа развівацца стыхійна. 10 кастрычніка 1935 года «Праўда» апублікавала перадавіцу «Стаханаўскі рух трэба арганізоўваць». І арганізавалі яго бліскавічна, за пару тыдняў. Савецкая Беларусь не стала выключэннем: да 1 лістапада ў прамысловасці рэспублікі было ўжо дзесяць тысяч стаханаўцаў (11% усіх працаўнікоў), а да канца года — больш за 25 тысяч. У снежні 1935-га пленум ЦК Кампартыі Беларусі пастанавіў уцягнуць у стаханаўскі рух кожнага працоўнага. І панесліся стаханаўскія змены, месячнікі, тыдні, вахты. Усю краіну ахапіў працоўны энтузіязм (на паперы).

Толькі дакументы для ўнутранага карыстання сведчаць, што масавае стаўленне да стаханаўшчыны было ў найлепшым выпадку стрыманае.

Калі на Стаханава пасля ягонага чыну праліўся шчодры дождж розных дабротаў, то ягоныя паслядоўнікі мусілі здзяйсняць працоўныя подзвігі задарма. Што, натуральна, не натхняла ні рабочых, ні сялян. Людзі скардзіліся на несправядлівасць, паказуху, прыпіскі, дэфіцыт, нішчымніцу. У маі 1936-га сакратар ЦК КПБ(б) Мікалай Гікала атрымаў дакладную «Аб фактах процідзеяння стаханаўскаму руху на прадпрыемствах БССР», з якой вынікала, што «антыстаханаўскія настроі» былі паўсюднымі.

Ды і як магло быць інакш? Да другой паловы 1930-х пераважная большасць сялян была калектывізаваная, і іх жыццё ў калгасах было пастаянным змаганнем за выжыванне. У 1937 годзе на «працадзень» у БССР давалі ў сярэднім усяго па 1,7 кг збожжа і 35 капеек. А свая гаспадарка была жорстка абмежаваная. У выніку сяляне выжывалі як маглі.

У гарадах было ненашмат лепш. Тут стаялі чэргі па 200–500 чалавек: па мяса, малако, сыр, масла, газу, муку, бульбу,




З 1930-х сярод іншага па ўсім Саюзе развіваўся масавы рух скараснікоў — **паслядоўнікаў токараў-перадавікоў Паўла Быкава і Генрыха Станкевіча.** Удзельнікі руху ў найкарацейшыя тэрміны авалодвалі новай тэхнікай і выкарыстоўвалі хуткасныя метады працы.




БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

У савецкай планавай эканоміцы нават **працэнты ўзятых на сябе «сацыялістычных абавязкаў» па перавыкананні працоўных нормаў задаваліся з матэматычнай дакладнасцю.**

рыбу, тканіны, абутак, вопратку. Сяляне станавіліся ў тыя ж чэргі па спецыяльных даведках ад праўлення, што тое адпускае іх на закупку прадуктаў і мануфактуры.

Тады з'явілася шмат злосных прыпевак пра Сталіна, калгасы і стаханаўскі рух. Яны пашыраліся, нягледзячы на смяротную небяспеку. Беларускія калгаснікі ціхенька прыпявалі: «Верабейкі ціў-ціў-ціў, усе хацім у калякціў, а варона не да нас, ёй не хочацца ў калгас» або «Дзякуй Сталіну-грузіну, што абуў нас у рызіну, цілі-цілі-цірлі-лі, нам заплацяць тры рублі».

На гэтым тле ідэолагі мусілі ствараць міф, які б засланяў непрыглядную рэчаіснасць. Да стаханаўскага станка паставілі таксама пісьменнікаў і паэтаў, змушаючы іх пісаць, кажучы словамі Янкі Купалы, «дрындушкі». Дзяржкіно дзясяткамі здымала кіначасопісы пра стаханаўцаў. Шаснаццаць пісьменнікаў Беларусі адправілі ў гарады і вёскі для збору матэрыялаў і стварэння адпаведных тэкстаў. Скульптарам і мастакам загадалі ляпіць герояў працы. І пісалі, і ляпілі. Выказваючы, прынамсі на словах, надзею, што памяць аб тым працоўным подзвігу застанецца навек.

Але сталася зусім не так. Імёнаў калісьці знакамітых на ўсю краіну стаханаўцаў — братоў Скабло, меліяратара Цэйтліна, свінаркі Гендзелевай, даярак Вехцеравай і Цяста, ільнотрапальшчыц Быкоўскай і Дзяжурнай — сёння не памятаюць. Іх называлі «знатнымі», каб падкрэсліць, што гэта яны цяпер «знаць», «дваранства», «эліта» новай савецкай дзяржавы. Былі знатныя лесасплаўшчыкі, свінаркі, цялятніцы, слесары, скотнікі...

**На Стаханава праліўся шчодры дождж даброт, а ягоныя паслядоўнікі мусілі здзяйсняць працоўныя подзвігі задарма**

Толькі якая ж знаць будзе стаяць у чарзе па панчохі і красці галодным дзецям свіную муку? Сапраўднай знаццю былі тыя, хто жыў у «Дамах на набярэжнай», харчаваўся і адзяваўся ў спецкрамах, лячыўся ў спецбальніцах. А шараговым «стаханаўцам» заставалася толькі сядзенне ў прэзідыумах і алюмініевыя медалі. А пасля — гаротная старасць. Зрэшты, не лепшы лёс напаткаў і самога Аляксея Стаханава. ◆

# Як бальшавікі раскрылі нятленныя мошчы

**У студзені 1924 года, пасля смерці бальшавіцкага правадыра Уладзіміра Леніна, паплечнікі вырашылі забальзамаваць ягонае цела і змясціць у маўзалеі на Краснай плошчы. Там яно ляжыць і дагэтуль. Іронія ў тым, што за некалькі гадоў да таго бальшавікі самі апантана змагаліся з рэлігійным культам «нятленных мошчаў», і менавіта Ленін быў галоўным натхняльнікам той кампаніі. Піша Васіль Герасімчык.**




**Ускрыццё мошчаў Сімяона Верхатурскага.** 1920 год.

### Бальшавікі і праваслаўе

Пасля падзей 1917 года ніхто і нішто не магло жыць па-старому. Не выключэнне і Руская праваслаўная царква. У верасні 1918 года яна аднавіла патрыяршаства, якое скасаваў Пётр I, і гэтым засведчыла жаданне стаць незалежнай ад дзяржавы.

## Сярод ускрытых бальшавікамі былі і мошчы Еўфрасінні Полацкай

Аднак у бальшавікоў былі іншыя планы. Успрымаючы Праваслаўную царкву як небяспечнага ідэйнага праціўніка, яны імкнуліся максімальна яе аслабіць і дыскрэдытаваць. Ленін наўпрост казаў: «Трэба ўмець змагацца з рэлігіяй, а для гэтага неабходна матэрыялістычна тлумачыць крыніцу веры і рэлігіі ў масах».

Акрамя ідэйнага, быў у бальшавікоў і матэрыяльны разлік. Дэкрэт ад 20 студзеня (2 лютага) 1918 года «Аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы» абвяшчаў усю царкоўную маёмасць народным набыткам. Пасля гэтага бальшавікі шчыльна заняліся ўлікам і канфіскацыяй царкоўных каштоўнасцяў.

У кастрычніку 1918 года, калі ВЧК актыўна працавала ў гэтым кірунку ў Свята-Троіцкім Аляксандра-Свірскім манастыры ў Аланецкай губерні, увагу чэкістаў прыцягнула літая срэбная ра́ка з «нятленнымі мошчамі» святога Аляксандра Свірскага, якая важыла больш за 20 пудоў. Калі ра́ка была ўскрытая, то замест мошчаў у ёй знайшлі васковую лялльку. Праз некалькі дзён настаяцель Яўгеній быў расстраляны, манастыр зачынены і пераўтвораны ў выпраўленча-працоўны лагер. А гісторыя з васковай лялькай дала старт прапагандысцкай кампаніі, названай «мошчавай эпапеяй».

### «Мошчавая эпапея»

Кампанія мела маштабны характар. У друку з'явіліся лісты «працоўных і сялян», якія быццам бы рашуча патрабавалі агляду ўсіх царкоўных і манастырскіх

**Мошчы** — парэшткі хрысціянскіх святых. Сярод вернікаў існавала перакананасць, што гэта нятленныя целы, якія захавалі выгляд толькі што памерлага чалавека і валодаюць цудадзейнымі здольнасцямі.
**Ра́ка** — каўчэг з мошчамі святых, зроблены звычайна ў форме труны.

каштоўнасцяў. Нібыта ў адказ 16 лютага 1919 года была выдадзена спецыяльная пастанова, якая вызначала парадак ускрыцця мошчаў камісіямі з ліку партыйных і медыцынскіх супрацоўнікаў. «Трэба паказаць, якія менавіта былі святасці ў гэтых багатых ра́ках і да чаго так шмат вякоў з пашанаю ставіўся народ. Гэтага аднаго дастаткова, каб адштурхнуць ад рэлігіі сотні тысяч людзей», — акрэсліў Ленін.

Кіраўніцтва Царквы паспрабавала перахапіць ініцыятыву. 17 лютага патрыярх Ціхан выдаў загад аб аднаўленні права святароў аглядаць мошчы. Аднак было позна. Бальшавікі не збіраліся

**«Фальсіфікацыя рук і ног пры дапамозе ваты і кардону. У пальчатцы прарэз, у які ўкладзены кардон цялеснага колеру, і да яго прыкладаліся вернікі»**

аддаваць праціўніку такую моцную ідэалагічную зброю.

24 лютага 1919 года ў Маскве быў паказаны фільм «Ускрыццё мошчаў Ціхана Завадскага». Бальшавіцкая прэса пісала пра вынікі агляду змесціва ра́кі: «Чэрап. Высахлая частка галёначнай косткі, што пры дотыку ператвараецца ў парашок. Кардон, пафарбаваны пад цялесны колер. Фальсіфікацыя рук і ног пры дапамозе ваты і кардону. У пальчатцы прарэз, у які ўкладзены кардон цялеснага колеру, і да яго прыкладаліся вернікі. Дамскія панчохі, чаравікі, пальчаткі. Замест грудзей — жалезны каркас».

І пасля гэтага панеслася. Цягам двух наступных гадоў бальшавікі ўскрылі 65 рак. Згодна са звесткамі

Кампанія па ліквідацыі «мошчаў святых», якая ставіла на мэце падарваць давер насельніцтва да царквы, падрыхтавала глебу для кампаніі па канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў 1922 года. Яна ж стала прыкрыццём для ліквідацыі манастыроў, 673 з якіх былі зачыненыя на канец 1920 года.

самiх бальшавікоў, у 29 выпадках былі знойдзеныя сатлелыя косткі, у 16 — часткова згнілыя або часткова муміфікаваныя целы, у 18 — лялькі з воску, кардону і ваты. У дзвюх раках не было ўвогуле нічога.

Асабліва ў бальшавіцкай прэсе смакавалі выпадак з ускрыццём мошчаў Юліяніі Наваторжскай, у якой, згодна з паданнем, былі адсечаныя рукі. Пры аглядзе выявіліся не толькі косткі рук, але і суставы пальцаў.

Асабіста Леніна найбольш цікавілі мошчы Сергія Раданежскага — найбольш шанаванага святога на тэрыторыі былой імперыі. Іх ускрыццё зняў рэжысёр Дзіга Вертаў, і бальшавіцкі правадыр запатрабаваў, каб фільм як мага хутчэй паказалі па ўсёй Маскве. Прэса пісала: «Такім чынам, нятленных мошчаў, як і трэба было чакаць, у выніку ўскрыцця не аказалася. Паўразбураны чэрап і косткі, якія расціраюцца ў парашок, вата, пасма валасоў руса-рыжага колеру, старанна загорнутая ў правошчаную паперу, якая апынулася ў чэрапе, маса молі, лічынак і матылёў, кавалкі грубай вясковай паўспарахнелай матэрыі, — вось і ўся "загадка" труны».

Сярод ускрытых бальшавікамі былі і мошчы Еўфрасінні Полацкай. 26 красавіка 1920 года ў Растове-Вялікім, дзе яны ў той час захоўваліся, спецыяльная камісія засведчыла, што ў рацы выяўлена: «Муміфікаваны труп. Грудная клетка разбурана. Чэрап аддзяліўся ад шыі. Валасоў нідзе не знойдзена. Скура, якая пакрывае твар, схаваная пад слоем нейкай шчыльнай карычневай масы».

30 ліпеня 1920 года Савет народных камісараў на чале з Леніным выдаў пастанову «Аб парадку ліквідацыі мошчаў ва ўсерасійскім маштабе», згодна з якой мошчы перадаваліся ў музеі або перахоўваліся. Пастанова патрабавала «цалкам ліквідаваць варварскі перажытак старыны, якім з'яўляецца культ мёртвых целаў».

### Гісторыя пасміхаецца

Здавалася б, кампанія па дыскрэдытацыі царквы была праведзена бліскуча, і праціўнік пасля такога мусіў быць дэмаралізаваны і знішчаны. Але тысячагадовыя традыцыі немагчыма ўвадначас выкараніць, тым больш такімі грубымі метадамі.

1 красавіка 1921 года Наркамат юстыцыі РСФСР мусіў прызнаць, што эфект ад праведзеных мерапрыемстваў не апраўдаў сябе. Гэтыя гвалтоўныя акцыі абуралі насельніцтва. У шэрагу выпадкаў назіраўся эфект адваротны: ускрыццё мошчаў Сергія Раданежскага, напрыклад, выклікала рэлігійны ўздым і толькі ўзмацніла паломніцтва.

Шэраг бальшавіцкіх дзеячаў выступілі супраць працягу кампаніі. Напрыклад, арганізатар медыцыны і адукацыі, будучы дырэктар Музея Рэвалюцыі Сяргей Міцкевіч пісаў Леніну: «Нічога больш недарэчнага і шкоднага для нас... нельга нават уявіць».

Зрэшты, ужо праз некалькі гадоў чалавека, які заклікаў змагацца з муміфікаванымі мошчамі, самога ператварыць у мумію. Паломніцтва да якой будзе ніяк не меншае, чым да святых. «Варварскі перажытак старыны, якім з'яўляецца культ мёртвых целаў», вярнуўся бумерангам. ◆



OLDSTORY.INFO

Падчас ускрыцця мошчаў святога Аляксандра Неўскага ў 1922 годзе.

**Пра генерала піша ваенны гісторык Віталь Чырвінскі.**

Цяпер гэта турыстычная Мекка для прыхільнікаў народнай культуры і самагонкі, якую прапануюць закусваць абмазаным мёдам салёным агуркам. Але калі тут бегаў малы Караль, дух Дудутак, канечне, быў іншы. Пяцёра дзяцей выхоўваў бацька — чалавек «вялікай удачы, спартанскіх звычаяў, выключнага розуму і нязломнай волі». Маці Караль амаль не памятаў: яна памерла, калі яму было сем.

22 студзеня 1787 года Каралю 26, і яго прызначаюць вялікім абозным ВКЛ (сучаснай мовай — намеснікам міністра абароны па тыле). Пасада пажыццёвая. Маладзён мусіць адказваць за расквартараванне войска, выбар месца для лагера і яго ўмацаванне. Паспеўшы пабачыць сына пры пасадзе, памірае ягоны бацька Юзаф. На гадавіну яго смерці Караль замовіць сямейны партрэт.

### «Лячэнне» і «лекары»

24-гадовы Караль выбраў за жонку... дачку сваёй мачыхі! Людвіка Канстанцыя была маладзейшай за мужа на дзесяць гадоў. Бацька Юзаф і яго другая жонка яшчэ паспелі разам пагуляць на вяселлі дзяцей.

Маладыя жылі ў Хойніках. Некалькі гадоў прайшло ў прыемных турботах. Нараджаліся дзеці. Сярод векавых дрэваў быў пабудаваны новы дом.

Атрымаўшы моцны сямейны тыл, Караль Прозар зрабіў палітычную кар’еру, але ніколі не ставіў яе вышэй за свае прынцыпы. Падчас палітычнага крызісу ён без ваганняў стаў на бок праціўнікаў Кацярыны ІІ. А ў знак пратэсту супраць капітулянцкай палітыкі Панятоўскага адрокся ад пасады вялікага абознага.

Хойнікі апынуліся ў складзе Расійскай імперыі пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай. І адразу сталі адным з цэнтраў антырасійскага супраціву. Штабам была Прозарава сядзіба. Ва ўмовах канспірацыі, каб распачаць «лячэнне» (паўстанне), рыхтаваліся «медыкаменты» (зброя) і «лекары»



**Герб «Прозар».** Зацверджаны ў пачатку XVII стагоддзя.

(камандзіры). На патрэбы паўстання збіралі грошы. Згадваюць пра мільён злотых, дзеля якіх Прозар заклаў частку маёнтка.

Але ўзначаліць паўстанцаў Караль адмовіўся. Лічыў, што лідарам павінен быць чалавек з вайсковай адукацыяй і здольнасцямі. Існуе думка, што гэта Прозар пераканаў Касцюшку стаць на чале.

### Жыў на востраве адзін

Прозар мусіў камандаваць узброенымі сіламі на Палессі, Украіне і ва ўсходняй Беларусі. Нават праз паўстагоддзя тыя мясціны памяталі генерала-паўстанца: «Назва вострава Княжа паходзіць, як сцвярджаюць сяляне, з тых часоў, калі Караль Прозар, не могучы злучыцца з лагерам

У сучасных Хойніках памяць пра сям’ю Прозараў захоўваюць толькі рэшткі сядзібнага дома і парку. Але 5 верасня 2010 года Караль і Людвіка Канстанцыя з’явіліся перад жыхарамі Хойнікаў. Іх увасобілі акцёры на сцэне галоўнай плошчы горада, які святкаваў Дзень беларускай пісьменнасці. Вялікую працу па папулярызацыі імя свайго земляка зрабіў Сяргей Валянцінавіч Бельскі — настаўнік гісторыі ў СШ №3 горада Хойнікі.

Касцюшкі, доўгі час хаваўся ў лесе: ён там жыў бы князь». Так казалі пра ўрочышча Прозараў Калодзеж на востраве Княжа, і пра гэта пісаў Чэслаў Пяткевіч у сваёй працы «Рэчыцкае Палессе».

Сапраўды, замест узброенай барацьбы Караль Прозар быў вымушаны хавацца ад аддзелаў расійскіх войскаў. Не застаўшы Прозара ў Хойніках, расійскія афіцэры ўзялі ў закладнікі яго дзесяцімесячнага сына Уладыся, якога трымалі пад наглядам нянек і салдат. Жонка з іншымі дзецьмі здолела ўцячы і схавалася ў аўстрыйскім Львове, дзе жыла пад прозвішчам «мадам Прэво».

У гэты ж час Кацярына ІІ пісала мінскаму генерал-губернатару: «Выкарыстайце ўсе залежныя ад вас сродкі, каб Прозар, шанаваны ў ліку найпершых бунтаўнікоў, не мог схавацца ад вашых пошукаў». Але той пазбег усіх пастак і дабраўся да Вільні.

Нягледзячы на намаганні і ахвяры, паўстанцы сваю вайну прайгралі. Рэч Паспалітая знікла з палітычнай карты свету. ▶



**Сядзіба Прозараў у Хойніках.** Драўляная, аднапавярховая, але прасторная. Малюнак Ігнацыя Урублеўскага. 1891 год.




**Сям'я Прозараў.** Мастак Францішак Смуглевіч (1789).
Карціна напісана з натуры.
У цэнтры — партрэт галавы сям'і, генерал-маёра, віцебскага ваяводы. Старэйшы сын Караль паказвае на вершаваны надпіс, прысвечаны нябожчыку. Медальён з партрэтам свайго свёкра трымае жонка Караля Людвіка Канстанцыя. На другім плане стаяць браты Караля і швагер. На пярэднім плане — дочкі Караля і Людвікі: Марыяна (малодшая) і Юзэфа (старэйшая). Гэты твор з'яўляецца прыкладам самастойнай беларускай партрэтнай традыцыі ў плыні еўрапейскага жывапісу XVIII стагоддзя. Ён захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве.

### Эміграцыя, здымныя кватэры

У 1802 годзе, пасля дзесяцігоддзя эміграцыі, Караль Прозар быў амніставаны і разам з сям'ёй вярнуўся ў Хойнікі. Заняўся гаспадаркай. Лісты падпісваў «граф на Хойніках і Астраглядавічах».

Летам 1812 года жыццё Прозараў зноў змянілася. 50-гадовы Караль радасна вітаў Напалеона з надзеяй на адраджэнне Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства. Гэта ён склаў той самы зварот да імператара французаў, агучаны ў Смаленску ад імя беларускай шляхты. «Зрабіце ласку, Уладар, разгарнуць летапіс нашай Айчыны, і на кожнай старонцы ўбачыце крывавым почыркам нянавісць да нашых драпежнікаў...».

Прозар увайшоў у склад Часовага ўрада ВКЛ і ўзначаліў скарбовы камітэт. Заслужыў ордэн Ганаровага легіёна... Але надзеі хутка разбіліся. Прозар ізноў стаў эмігрантам. Яго родавыя маёнткі былі канфіскаваныя, жонка з дзецьмі пераехала ў здымную кватэру ў Мінск.

### Страта

Новая амністыя — і зноў вяртанне ў Хойнікі. І зноў гаспадарка, якой займаўся ад паўстання да паўстання. У ваколіцах Караль заснаваў некалькі фальваркаў, якія назваў або антычнымі назвамі, або ў гонар знакамітых бітваў: Аркадзія, Маратон (Марафон), Тэрмапілы (Фермапілы), Пальміра, Рацлавіцы... Некаторыя з іх захаваліся да нашых дзён. Дарэчы, ад барацьбы не адмовіўся. Уступіў у нелегальнае Патрыятычнае таварыства, узначаліўшы яго аддзелы ў Валынскай, Кіеўскай і Падольскай губернях.

У 1826 годзе яго абвінавацілі па справе дзекабрыстаў. Дапытвалі ў Мінску, у Варшаве, а потым накіравалі ў Пецярбург пад ахову муроў Петрапаўлаўскай крэпасці.

Выйшаў ён праз тры гады і толькі тады даведаўся пра смерць жонкі, якая, «змучаная лёсам і параненая душой», да апошняга змагалася за мужа, ірвалася ў Варшаву, але была затрымана ў Брэсце, дзе і памерла. З могілак вёскі Вялікі Бор муж перавёз яе парэшткі ў Хойнікі ў сямейную капліцу, зрабіўшы эпітафію: «Турэмны лёс, які трымаў мяне ў цяжкай няволі за справу Айчыны, не дазволіў мне раней аддаць Табе апошнюю пашану. Страціўшы Цябе, я і мае дзеці знаходзімся ў вечнай і бязмернай жалобе».

У лістападзе 1830 года ўспыхнула новае антырасійскае паўстанне. Што мог рабіць у гэты час аўдавелы, састарэлы і змучаны турэмнымі этапамі генерал? Наўрад ці змагацца са зброяй у лясах або кіраваць штабам. Але царскія ўлады перастрахаваліся. Караль Прозар зноў трапіў пад следства: «Угаворваў сваіх сялян да паўстання супраць расійскага ўрада, прыняў кіраўніцтва

над змоўшчыкамі Мазырскага, Рэчыцкага і Оўруцкага паветаў». Віну даказаць не змаглі і справу закрылі.

### Згас, як жыў

«Згас, як жыў, не шукаючы сабе п'едэсталаў, але адно дабра і шчасця Айчыне», — напісаў Марыян Дубецкі, першы біёграф Караля Прозара.

Вечны паўстанец памёр 20 кастрычніка 1841 года ў сваёй хойніцкай сядзібе. Ад старасці. Праз чатыры дні святар Францішак Пазняк у суправаджэнні шматлікага духавенства правёў жалобную імшу ў астраглядаўскім парафіяльным касцёле. Кароль Прозар быў урачыста пахаваны на могілках мястэчка Хойнікі ў сямейным склепе побач з каханай жонкай.

Напрыканцы XIX стагоддзя Прозары назаўсёды пакінулі Хойнікі (праўнук Мечыслаў, які вёў разгульны лад жыцця, прадаў маёнтак расійскім купцам).




У 1960-я ў час земляных работ экскаватар натрапіў на склеп Прозараў. У труне Людвікі Канстанцыі знайшлі залаты дукат і срэбную манету наміналам у два польскія злотыя 1831 года. **Гэта паўстанцкія манеты, якія Кароль паклаў у труну жонкі праз тры гады пасля яе смерці.** Акрамя таго, у труне ляжала бутэлька ўрэцкага шкла з эпітафіяй унутры. Яны захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным музеі ў Мінску, а копія пергаменту з эпітафіяй — у Хойніцкім краязнаўчым музеі.

### Знак з нябёсаў?

Старыя хойніцкія могілкі прыйшлі ў занядбанне. У 1965 годзе падчас земляных работ бульдозер зрэзаў нейкае ўзвышша — і адкрылася магіла. У труне з жаночымі парэшткамі знайшлі празрыстую бутлю са скруткам унутры. Аказалася, што скрутак — гэта той самы пергамент з эпітафіяй Людвіцы Канстанцыі Прозар.

А шкляная бутля — узор знакамітага ўрэцкага шкла радзівілаўскай мануфактуры.

Акрамя гэтага, у труне аказаліся дзве манеты. Іх па народнай традыцыі паклаў жонцы Кароль. Але, акрамя традыцыі, гэта быў і патрыятычны жэст. Бо манеты гэтыя мелі сімволіку Рэчы Паспалітай — Белага Арла і Пагоню. У Расіі іх называлі «мяцежнымі».



У Сігневічах Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці ў 1785 годзе **на сродкі Юзафа Прозара (бацькі Караля) перабудавалі стары драўляны касцёл**. Ён добра захаваўся да нашага часу і відаць з трасы Мінск — Брэст.

**Праз тры гады пасля смерці жонкі Кароль ускрыў яе склеп, каб пакласці туды дзве манеты паўстанцкага ўрада**

Такія манеты выпускаліся толькі ў 1831 годзе ў Варшаве па ініцыятыве паўстанцкага ўрада. Жонка Прозара памерла ў 1828-м, калі такіх манет яшчэ не было. Верагодна, пасля задушэння паўстання Кароль адчыніў склеп і паклаў іх у жончыну труну як сімвал сумеснага змагання за згубленую Айчыну. Значыць, жонка заўжды падзяляла патрыятычныя ідэалы мужа, з-за якіх цярпела такія цяжкасці. ◆

# Горад, якога няма

## І як можна яго пакупова аднавіць



**Прыкладна так выглядаў бы сёння** езуіцкі калегіум з храмам Ісуса і Святога Казіміра. На плане — нумар 8.



**Архітэктар з Пінска Аляксандр Невар займаецца ўнікальнай справай: па гістарычных планах і абмерах ён узнаўляе страчаныя абліччы храмаў і накладае на сучасны краявід. Так мы можам зразумець, якія прывіды нас акружаюць. Кожная работа — вынік карпатлівага збору і інтэрпрэтацыі дадзеных. Архітэктар падзяліўся з «Нашай гісторыяй» сваімі здабыткамі па Берасці.**

Амаль усе пабудовы, пра якія ідзе гаворка, знішчылі ці значна перабудавалі да сярэдзіны XIX стагоддзя, калі на месцы вялізнага сярэднявечнага горада вырашылі будаваць крэпасць. А тое, што захавалася, разабралі пасля Другой сусветнай вайны ў сярэдзіне 1950-х.

Аднавіць стары горад магчыма: існуюць дадзеныя, як што выглядала і дзе што стаяла. Пытанне толькі ў канцэпцыі і мэце.

Савецкі мемарыял «Брэсцкая крэпасць» — каштоўны помнік сваёй эпохі. І ён моцны як цэласнасць. Калі на яго тэрыторыі аднаўляць даўнейшыя слаі палімпсесту, аднаўляць горад, якім ён быў даўней, у свае слаўныя часы, або элементы таго — то дзеля чаго, з якімі функцыямі, як спалучыць гэта? Гэта пытанні, хутчэй, да наступных пакаленняў, іх патрэб і жаданняў.

А мы давайце проста зірнём на тое, якім гэта места было.

Найбольш вядомыя славутасці Старога Берасця пазначаныя на карце горада 1823 года ў спалучэнні з сучасным спадарожнікавым здымкам.

## 1. Берасцейскі замак

Абарончае збудаванне ля сутокаў Буга і Мухаўца вядома з X стагоддзя. Замак меў пяць вежаў, з якіх адна была праязной і вяла ў горад. У сярэдзіне XIII стагоддзя з мэтай узмацнення абароны ў горадзе збудавалі мураваную вежу-стоўп (падобную да Камянецкай). У XIV стагоддзі ▸

▶ замак і горад перайшлі да Вялікага Княства Літоўскага.

Замак неаднаразова захопліваўся, руйнаваўся, адбудоўваўся, мадыфікаваўся, умацоўваўся землянымі бастыёнамі. У 1838 годзе падчас пабудовы крэпасці аплыўшыя замкавыя бастыёны былі зніверліраваныя з пабудовай на гэтым месцы невялікага кавальера, а неўзабаве ў гэтага ўмацавання з'явілася ганаровая функцыя — тут быў усталяваны флагшток.

У 1969–1981 гадах Пятро Лысенка правёў тут археалагічныя раскопкі, у выніку якіх былі выяўленыя драўляныя будынкі XI–XIII стагоддзяў, маставыя, частаколы і шматлікія рэчы сярэднявечных берасцейцаў. Цяпер гэта музей «Берасце».

Вежу, аналаг Белай, можна было б лёгка аднавіць — калі б толькі з дапамогай сучаснай тэхнікі выявіць яе падмуркі. На яе месцы няма ніякай крапасной пабудовы. У ёй мог бы размясціцца музей сярэднявечнага горада — побач з археалагічным музеем «Берасце».

**Графічная рэканструкцыя касцёла Яна Прадвесніка** і Святой Ганны кляштара бернардзінцаў. На планах — нумар 3.

### 2. Кляштар бернардзінак з касцёлам Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі

Мужчынскі і жаночы бернардзінскія кляштары Берасця складалі адзіны ансамбль у паўднёвым прадмесці — Замухавеччы (Валынскае прадмесце). Берасцейскі кляштарны комплекс — адзіны на тэрыторыі Беларусі выпадак арганізацыі прасторы вакол плошчы ў адзін ансамбль.

Кляштар бернардзінак быў заснаваны з фундацыі Алены Копцавай (з Дольскіх), насупраць кляштара бернардзінцаў. Першапачаткова ўсе пабудовы былі драўлянымі. Час закладання мураванага касцёла дакладна невядомы (па стылявых прыкметах можна аднесці да 1720-х).

У 1820-я кляштар быў скасаваны, а пабудовы прыстасаваныя пад патрэбы ваеннага ведамства (кадэцкі корпус, потым вайсковы шпіталь). Барочны кляштарны комплекс быў ператвораны ў будынак казарменнага тыпу з прэтэнзіяй на стыль імперскага класіцызму. Але болей за ўсё кляштар пацярпеў у 1915 годзе пры адступленні царскіх войскаў падчас Першай сусветнай вайны.



**Спадарожнікавы здымак. Лічбамі пазначаны месцы, дзе стаялі самыя значныя будынкі Старога Берасця.**

**Рэшткі бернардзінскага кляштара — адзінае, што засталося ад старажытнага Берасця, зруйнаванага і перанесенага на 2 км на ўсход дзеля пабудовы на гэтым месцы крэпасці…**

Будынак былога касцёла быў цалкам выпалены знутры і ўяўляў сабой толькі голыя каменныя сцены. У часы міжваеннай Польшчы рэшткі сцен былі разабраныя, а рэшткі кляштара прыстасаваныя пад сталовую. У якасці сталовай былы кляштар выкарыстоўваўся і пасля Другой сусветнай вайны. У 1980-х будынкі прыйшлі ў заняпад, хоць і выкарыстоўваліся пад склады. У 1993 годзе археолаг Валянцін Собаль пачаў раскопкі на Шпітальным востраве. Былі праведзеныя абмеры ▸



**Захаваныя рэшткі храма бернардзінак.**

кляштарных пабудоў, але праз год было спынена фінансаванне і кансервацыю аб’екта не правялі. Да нашага часу часткова захаваўся толькі першы паверх са скляпеністымі перакрыццямі ў аварыйным стане. Ад касцёла засталася толькі заходняя сцяна, якая адначасова з’яўляецца сцяной кляштарнага корпуса.

Рэшткі бернардзінскага кляштара — адзінае, што засталося ад старажытнага Берасця, зруйнаванага і перанесенага на 2 км на ўсход дзеля пабудовы на гэтым месцы крэпасці... Сёння пра распрацоўку праекта па захаванні рэшткаў бернардзінскага кляштара ўвогуле не ідзе гаворка. Гарадскія ўлады і радыя дапамагчы, ды сродкаў у бюджэце на гэта быццам бы няма. Аднак валанцёры ўсё ж не губляюць надзеі захаваць гісторыка-культурную спадчыну.

Між тым гэты будынак можна было б аднавіць: на яго месцы няма помнікаў часоў Другой сусветнай. У ім можна было б змясціць, напрыклад, гатэль — самы блізкі да крэпасці.

**3. Кляштар бернардзінцаў з касцёлам Яна Прадвесніка і Святой Ганны**

Першы на тэрыторыі сучаснай Беларусі комплекс бернардзінцаў заснаваў у Горадні Аляксандр Ягелончык. Наступны кляштар паўстаў ужо ў Берасці.Першы, драўляны, быў заснаваны ў 1605 годзе біскупам луцкім, плоцкім і кракаўскім Марцінам Шышкоўскім, а першымі фундатарамі былі Ян Галемскі і Леў Сапега. Драўляны кляштар хутка згарэў, а новы ўжо адбудаваны з цэглы ў 1623 годзе. А з 1624 года побач паўстаў драўляны кляштар бернардзінак, які разам з кляштарам бернардзінцаў складаў адзін ансамбль на паўднёва-ўсходнім




**1. Былы берасцейскі замак** і ўтвораны на яго месцы невялікі кавальер фартэцыі.

**2. Былы кляштар бернардзінак**, перабудаваны ў 1842 годзе ў кадэцкі корпус, а ў 1854 годзе — у вайсковы шпіталь.

**3. Былы кляштар бернардзінцаў** з касцёлам Яна Прадвесніка і Святой Ганны, перабудаваны ў 1842 годзе ў кадэцкі корпус, а ў 1854 годзе — у вайсковы шпіталь.

**5. Былая кафедральная Свята-Мікалаеўская царква.** Так і не была скончана яе перабудова, а ў пачатку 1840-х разабрана на будматэрыялы.

**6. Былы кляштар дамініканцаў** з касцёлам Святой Сафіі быў пакінуты гарадскім парафіяльным

**Сумяшчэнне аэрафотаздымка 1915 года з пазначэннем былых кляштараў,** перабудаваных пад патрэбы ваеннага ведамства фартэцыі, і фрагмент выявы гэтых кляштараў на момант пабудовы фартэцыі ў 1840 годзе з акварэлі Марціна Залескага.




(фарным) касцёлам, але неўзабаве, у сярэдзіне XIX стагоддзя, разабраны на будматэрыялы.

**8. Былая калегія езуітаў** з касцёлам Пана Езуса і Святога Казіміра, перабудаваныя ў 1837 годзе пад апартаменты імператара (асобныя памяшканні выкарыстоўвалі для кватаравання імператарскай сям'і ў час наведвання ёю крэпасці) і камендацкай управы (пазней інжынернай управы, пасля разбору прыстасаванай пад патрэбы апошніх пабудоў былога кляштара аўгусцінцаў).

**10. Былы кляштар аўгусцінцаў** з касцёлам Святой Тройцы, перабудаваны ў 1833 годзе ў камітэт інжынераў фартэцыі, а ў 1865-м разабраны.

Валынскім прадмесці Берасця, у самым пачатку Луцкага гасцінца, праз вулачку.

Калі пачала будавацца крэпасць, кляштар перарабілі ў вайсковы шпіталь на 600 чалавек. Пабудовы на сучасным Шпітальным востраве моцна пацярпелі ад пажару 1915 года, пасля падпалу адступаючымі часткамі расійскай арміі. З-за наступстваў пажару польскія ўлады — рэдкі выпадак! — разабралі тое, што засталося. Пасля вайны рэшткі мужчынскага кляштара мясцовыя жыхары выкарысталі як будаўнічы матэрыял. У 1993 годзе тут былі праведзены археалагічныя даследаванні.

Лёгка аднавіць: на гэтым месцы нічога няма.

## 4. Фара (гарадскі касцёл Святога Крыжа і Узнясення Святой Панны Марыі)

Драўляны касцёл быў заснаваны ў 1412 годзе Вітаўтам. Мураваны Фарны касцёл узвялі ў 1766-м. З прычыны памылкова спраектаваных падмуркаў сцены яго хутка разбурыліся, і ў 1805 годзе фара была пераведзена ў езуіцкі касцёл. У 1808 годзе абодва храмы згарэлі, і функцыі фарнага адышлі да касцёла бернардзінцаў. Магчыма, з прычыны нездавальняючага стану пры будаўніцтве крэпасці касцёл увогуле не сталі выкарыстоўваць і рабіць абмеры. Непадалёк ад яго, на старых могілках, знаходзілася невялікая мураваная капліца з адным алтаром, якая датуецца другой паловай XVIII стагоддзя.

Лёгка аднавіць: на гэтым месцы нічога няма.

## 5. Кафедральная Свята-Мікалаеўская царква

Паданне звязвае яе заснаванне з узнікненнем Берасця. Аднак невядома, калі царква стала ▸



Так бы сёння магла выглядаць **царква Святых Пятра і Паўла** кляштара базыльянаў.

▸ кафедральнай. У ёй адбылося абвяшчэнне уніі 1596 года, якая падпарадкавала Праваслаўную царкву Беларусі папу рымскаму. На месцы гэтай царквы цяпер нічога няма, што дае магчымасць яе ўзнавіць. У ёй мог бы размясціцца музей уніі.

**Выява Берасцейскай фартэцыі пасля баёў у чэрвені–ліпені на аэрафотаздымку 1941 года ў спалучэнні з сучасным аэрафотаздымкам.** Фіксацыя разбурэнняў. Пазней, да 1943 года, былі разабраны другі паверх казармы 333-га стралковага палка і рэшткі вежы над Цярэспальскай брамай.

**Усё астатняе, што знікла да нашых дзён, — вынік разборкі і ўтылізацыі на будматэрыялы руінаваных пабудоў мясцовымі жыхарамі і вайскоўцамі ў пачатку – сярэдзіне 1950-х гадоў,** да таго, як было вырашана з захаванага стварыць мемарыяльны комплекс.

### 6. Кляштар дамініканцаў з касцёлам Святой Сафіі

Кляштар быў заснаваны ў 1635 годзе Зоф'яй Бухавецкай, дачкой каралеўскага сакратара Мар'яна Лакніцкага, на паўночна-ўсходнім Заўгрынецкім прадмесці. Пры кляштары існавалі навіцыят (установа для падрыхтоўкі новых членаў ордэна) і школа філасофіі. Архітэктоніка касцёла падобна да дамініканскіх касцёлаў Дзярэчына, Ружанаў, Горадні.



**Царква Святога Мікалая** на тытульным лісце візітацыйнай кнігі, 1759 год. Яна была падобная да іншых храмаў абарончага тыпу — як у Сынковічах і Мураванцы.

Пасля скасавання ўсіх кляштараў сярэднявечнага Берасця і пачатку будаўніцтва крэпасці былы касцёл Святой Сафіі адзіны быў пакінуты ў некранутым выглядзе. Яго часова зрабілі парафіяльным храмам Берасця. Але неўзабаве ён быў разабраны на будматэрыялы, а на месцы былога кляштара ўзнікла

# Аэрафотаздымак 1941 года, пасля баёў



Так Белы палац выглядаў да вайны.

7. Былы кляштар базыльянаў з царквой Святых Пятра і Паўла з няскончаным завяршэннем вежаў, якая была перабудавана ў афіцэрскае казіно (будынак афіцэрскіх сходаў), атрымаўшы пазней назву «Белы палац». Кляштар з 1833 года прыстасоўваецца пад шпіталь, які згарэў у 1835-м.

артылерыйская «Базыльянская батарэя». Цяпер тут месціцца кафэ «Цытадэль», але функцыю аб'екта грамадскага харчавання артылерыйская батарэя набыла раней, яшчэ ў міжваенны перыяд. Кааператыў забяспечваў прадуктамі сем'і вайскоўцаў і работнікаў гарнізона. Тут былі невялікая крама і буфет.

## 7. Кляштар базыльянаў з царквой Святых Пятра і Паўла

Адным з фундатараў базыльянскага манастыра ў 1629 годзе быў уніяцкі мітрапаліт Іосіф Веньямін Руцкі, і праз два гады драўляныя царква і манастыр паўсталі непадалёк ад кафедральнай царквы Святога Мікалая (дзе ў 1596 годзе абвесцілі Берасцейскую царкоўную унію) на беразе ракі, на вуліцы Базыльянскай. Паміж Мікалаеўскай і Петрапаўлаўскай цэрквамі знаходзілася рэзідэнцыя біскупа. Мураваныя царква і двухпавярховы кляштар з'явіліся ў другой палове XVIII стагоддзя.

Манастырскія карпусы ўключалі трапезную, 14 келляў, бровар, паблізу месцілася пяцікласная вучэльня. Побач з манастыром знаходзілася драўляная багадзельня, аднноўленая пасля пажару 1755 года на сродкі ўніяцкага пінска-тураўскага і ўладзіміра-берасцейскага біскупа Феафіла Гадзебскага.

Калі пачалося будаўніцтва фартэцыі, базыльяне з усёй рухомай маёмасцю перамясціліся ў Кобрынскі манастыр, а Петрапаўлаўская царква была перабудавана ў афіцэрскае казіно (будынак афіцэрскіх сходаў, які пазней атрымае назву «Белы палац»).

У пачатку XX стагоддзя ў трохпавярховым будынку Белага палаца размяшчаліся рэстаран і більярдная, зала з эстрадай і сцэнай, бібліятэка, два класы школы для дзяцей афіцэраў, шмат службовых і бытавых памяшканняў. Будынку пашчасціла ацалець у пажары 1915 года пасля здачы і падпалу расійскім бокам фартэцыі і горада падчас Першай сусветнай вайны. Пазней у Берасцейскай фартэцыі адбываліся мірныя перамовы паміж прадстаўнікамі Савецкай Расіі і дэлегатамі Нямеччыны, Аўстра-Венгрыі, Турцыі і Балгарыі, падчас якіх 9 лютага 1918 года была падпісана мірная дамова з Украінскай Народнай Рэспублікай. Тут жа, у Белым палацы — Петрапаўлаўскай царкве, 3 сакавіка 1918 года падпісалі Берасцейскую мірную

**Веліч архітэктуры Старога Берасця** разумееш, калі параўноўваеш тыя будынкі з помнікамі сённяшняга мемарыяла. Дакладная рэканструкцыя: езуіцкі калегіум быў вышэйшы за манумент «Мужнасць».

дамову, якая завяршыла Першую сусветную вайну ў нашым рэгіёне.

Значныя пашкоджанні будынак атрымаў падчас абароны крэпасці ў 1941 годзе. У першай палове 1950-х былая святыня была разабрана на будматэрыялы амаль да падмуркаў. Да нашага часу захаваліся толькі сутарэнні з падмуркамі і частка сцен, якія паказваюць сакральны характар пабудовы (скругленыя выпукла-ўвагнутыя формы першапачатковага плана храма). Яны выконваюць ролю ілюстрацыі да прыгожага выразу «Руіны страляюць».

Тым не менш захаваныя падмуркі дазваляюць адбудаваць царкву і манастыр такімі, якімі яны былі ад пачатку.

### 8. Калегія езуітаў з касцёлам Ісуса і Святога Казіміра

У Берасці езуіты з'явіліся ў 1609 годзе. Драўляны касцёл фундаваў Леў Сапега, мураваны — яго сын. З нагоды будаўніцтва быў заснаваны цагельны завод.



Архітэктоніка берасцейскага касцёла езуітаў была класічная для «езуіцкага» барока: трохнававая крыжова-купальная базіліка з амаль прамавугольным планам. Падлога была з прывезенага шведскага каменю (магчыма, мармуру).

Пасля пачатку будаўніцтва фартэцыі калегію вырашылі прыстасаваць пад апартаменты імператара і каменданцкую ўправу.

Падчас пажару ў выніку адыходу расійскіх войскаў у 1915 годзе былыя кляштарныя пабудовы значна пацярпелі, але часткова былі адрамантаваныя германскім бокам да перамоў з нагоды падпісання Берасцейскага міру. У міжваенныя часы тут месціўся штаб IX акругі польскага войска. У верасні 1939-га будынак пацярпеў ад артабстрэлу пры штурме фартэцыі часткамі XIX-га армейскага корпуса Гейнца Гудэрыяна, але неўзабаве быў адрамантаваны, і ў 1940–1941 гадах тут месціліся штаб, аўтабранятанкавая рота, майстэрня і спартзала 75-га асобнага разведвальнага батальёна 6-й стралковай дывізіі. Падчас баёў у чэрвені 1941-га будынкі зноў моцна пацярпелі, і ўжо двухпавярховыя парэшткі разабралі на будматэрыял. Усё, што засталося, было закансервавана і рэстаўравана ў 1968–1971, 2006 і 2019 гадах.

Уявіце сабе, што гэта быў будынак, вышэйшы за манумент «Мужнасць».

## 9. Вежа-званіца касцёла езуітаў

Размяшчалася асобна ад касцёла і была пабудавана напрыканцы XVII стагоддзя. Над званіцай была ўсталявана вялікая статуя святога Юзафа.

## 10. Кляштар аўгусцінцаў з касцёлам Святой Тройцы

Асноўнай дзейнасцю аўгусцінцаў першапачаткова было пастырскае служэнне, пропаведзь і заняткі тэалогіяй. Прадстаўнікоў гэтага ордэна запрасіў у Берасце князь Вітаўт, які надаў ордэну зямлю ў прадмесці паміж рэкамі Мухавец і Угрынка. Ён таксама даў кляштару дзве карчмы ў Берасці, загадаў выплачваць манахам па 4 грошы з мыта, па дзесяціне ад берасцейскіх мяшчан і з вёсак Бучэмля і Трасцяніца, а таксама надаў аўгусцінцам вёску Кастамалоты (цяпер у Польшчы, за 15 км на поўдзень ад Берасця). Першыя касцёл і кляштар былі драўляныя і месціліся на вуліцы Прыёрскай.



**Аўгусцінскі храм Святой Тройцы** стаяў побач з цяперашняй гарнізоннай царквой (справа). Выгляд на пачатак XIX стагоддзя.

Падчас вайны 1654–1667 гадоў у выніку рэйду расійскага ваяводы Івана Хаванскага Берасце было «ўсё да апошняга будынка спустошанае і спаленае», а насельніцтва засталася «літаральна вельмі малая жменька». Загінулі ўсе члены магістрата, згарэлі цэхавыя дакументы і магістрацкія кнігі. Пасля гэтай навалы касцёл і кляштар аўгусцінцаў адбудоўваецца на новым месцы — з паўночнага боку гандлёвай плошчы.

На першым паверсе месціліся камора з запасамі, кухня і трапезная, бібліятэка, на другім — келлі. Былі свае агарод і сад. Да агароджы кляштара былі прыбудаваныя крамы пад гонтавым дахам, якія здаваліся ў арэнду.

Новы мураваны касцёл быў зруйнаваны падчас Паўночнай вайны пачатку XVIII стагоддзя. Аднак аўгусцінцам удалося выратаваць ад агню большасць начыння, абрусаў, мэблі і абсталявання. А таксама выяву фундатара — старажытны партрэт вялікага князя Вітаўта (цяпер знаходзіцца ў Літве). У XVIII стагоддзі ў гэтым і іншых кляштарах горада праводзіліся соймы — менавіта кляштарныя будынкі сродкамі ахвярадаўцаў найхутчэй аднаўляліся ад ваенных спусташэнняў.

У 1771 годзе гарадскія ўлады, якія дагэтуль прыязна ставіліся да аўгусцінцаў, пачалі канфіскоўваць іх надзелы. Яшчэ большыя страты кляштар зазнаў пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, калі вёска Кастамалоты, ад якой аўгусцінцы атрымлівалі асноўны ►

дахoд, апынулася па іншы бок мяжы, у Аўстрыі. Пад уладай Расійскай імперыі кляштар праіснаваў 35 гадоў. Ордэн ніяк не мог прадэманстраваць сваю карысць: не ўтрымліваў шпіталь ці прытулак, не займаўся публічным навучаннем (спроба стварыць пачатковую школу скончылася фіяска: візітатары зафіксавалі толькі аднаго вучня). Па загадзе ўрада пры кляштары быў створаны прытулак для чатырох шляхецкіх дзяцей, але і гэтую дзейнасць спыніла катастрофа 1801 года, калі пажарам была знішчана большая частка вялікай бібліятэкі (яна налічвала 1200 кніг, з якіх было выратавана толькі 10 працэнтаў).

Адбудова касцёла за сродкі вернікаў і ўрада скончылася яшчэ адным пажарам 1808 года. Урэшце касцёл адбудавалі, каб хутка ператварыць у штаб камітэта інжынераў фартэцыі. А ў 1850-я на былой кляштарнай тэрыторыі пачалося будаўніцтва Свята-Мікалаеўскага гарнізоннага сабора.




**Так бы мог выглядаць сёння храм кляштара дамініканцаў.** Дакладная рэканструкцыя выгляду на пачатак XIX стагоддзя.

### 11. Ратуша

Берасце — першы горад Беларусі, які атрымаў Магдэбургскае права (у 1390 годзе, усяго на тры гады пазней за Вільню). Але пакуль невядома, дзе месціўся сімвал самакіравання — берасцейская ратуша, як не выяўлена і дакладных звестак пра яе архітэктуру. На гарадскіх пячатках XVI–XVII стагоддзяў намалявана вежа пры зліцці дзвюх рэк. Паводле меркавання польскага даследчыка Томаша Жук-Рыбіцкага, яна была шасцікутнай з невялікім круглым акенцам уверсе, дзе, магчыма, быў усталяваны гадзіннік.

Горад неаднаразова руйнаваўся, ратуша магла (прычым неаднаразова) мяняць месцазнаходжанне. З карты 1740 года нам вядома, што ў той час яна знаходзілася на паўднёвым баку гандлёвай плошчы (на поўдзень ад Свята-Мікалаеўскай гарнізоннай царквы і былога кляштара аўгусцінцаў на месцы газона непадалёк ад казармаў). Дакладней месца магчыма вызначыць толькі пасля правядзення археалагічных раскопак.

### 12. Палац Адама Чартарыйскага

Дакладных звестак пра архітэктуру палаца пакуль не выяўлена. Вядома, што гэта быў мураваны П-падобны, амаль з замкнёным контурам будынак. Пацярпеў падчас пажараў пачатку XIX стагоддзя і падчас пабудовы на месцы горада фартэцыі быў разабраны.

### 13. Вялікая сінагога

Упершыню іўдзеі атрымалі правa на аседласць у Берасці 1 ліпеня 1388 года. Пры старадаўнім гандлёвым пляцы на правым беразе Мухаўца, згодна з прывілеем Вітаўта, за вялікія заслугі перад ВКЛ была пабудавана першая мураваная сінагога. Сінагога зачароўвала сучаснікаў, плошча яе была 1244 м$^2$.

Падчас пабудовы фартэцыі за разбурэнне сінагогі іўдзейская грамада атрымала кампенсацыю 80 000 злотых. Грошы прыдаліся для будаўніцтва новай мураванай сінагогі, якая была ўзведзена ў 1842 годзе на скрыжыванні вуліц Мільённай (сучасная Савецкая) і Збірагоўскай (сучасная Будзённага). У савецкі час яе ператварылі ў кінатэатр «Беларусь».

### 14. Кляштар брыгітак з касцёлам Звеставання Дзевы Марыі

Кляштар жаночага каталіцкага ордэна брыгітак у Берасці быў заснаваны ў 1623 годзе ў прадмесці Пяскі ля дарогі на Падляшша. Яго фундавалі магнаты Ян Пац з жонкай Кацярынай, Аляксандр Гансеўскі і Ігнацій Садоўскі, слонімскі стараста.

Мураваны касцёл узведзены ў першай палове XVIII стагоддзя адначасова з двухпавярховым кляштарам. Галоўны фасад меў багатую познебарочную пластыку з вязкамі пілястраў, дэкаратыўнымі вазамі і статуямі.

Як і ўсе кляштары Берасця, гэты вядомы нам толькі па абмерах. У 1830-я ў былым касцёле размясціліся арсенал, вартавая рота і кузні, а былы




# Слёзы і кроў Брыгітак

Манастыр брыгітак (ордэна святой Брыгіты) у Брэсце быў заснаваны ў 1623 годзе ў месцы, якое на той час лічылася прадмесцем Пяскі, каля дарогі, што вяла на Падляшша.

У 1863 годзе, калі ўспыхнула антырасійскае паўстанне, царскія ўлады прыстасавалі карпусы былога кляштара пад турму. Тут трымалі кіраўніка паўстанцаў Рамана Рагінскага. Тут сядзеў сацыял-дэмакрат Фелікс Дзяржынскі.

Памянялася ўлада, турма зноў спатрэбілася. У 1930 годзе Пілсудскі пасля дзяржаўнага перавароту пасадзіў сюды кіраўніцтва цэнтрысцкіх і левых партый.

Да 1939 года тут сядзеў і Сцяпан Бандэра, кіраўнік Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў. Калі немцы падышлі да крэпасці ў 1939 годзе, турэмшчыкі разбегліся, вязні разышліся, а Бандэра пешкі прайшоў да Львова.

З 1939 да 1941 года так званыя «Брыгіткі» выкарыстоўвае савецкая ўлада. Ніколі раней турма не была такой перапоўненай. Турма ў крэпасці — гэта быў прыёмны і перасыльны пункт для «классово чуждого элемента». Людзей арыштоўвалі, звозілі сюды і адпраўлялі ў канцлагеры ГУЛАГа. Апошні арыштанцкі вагон адправіўся адсюль на ўсход 21 чэрвеня.

Сярод савецкіх падраздзяленняў у крэпасці ў той час знаходзіўся і 132-і батальён канвойных войск НКВД. Слова «канвойны» ў яго назве дагэтуль стараюцца не афішаваць. Чым ён займаўся? 1-я яго рота ахоўвала турмы ў Кобрыне, Пружанах і Пінску. 2-я і 3-я канвойныя роты ахоўвалі гарадскую турму Брэста і ўнутраную турму НКВД у Брэсцкай крэпасці. Батальён размяшчаўся на другім паверсе кальцавой казармы паміж Цярэспальскай і Холмскай брамамі.

Адзінае знамя, якое было захоплена нямецкім войскам у Брэсцкай крэпасці, — сцяг гэтага самага 132-га канвойнага батальёна НКВД.

У турме на 350 месцаў па стане на 20 чэрвеня 1941 года ўтрымлівалася каля 680 чалавек. У асноўным палітычныя актывісты — члены польскіх, украінскіх, беларускіх арганізацый.

22 чэрвеня нямецкія снарады сталі падаць адначасова і на Брэсцкую гарадскую турму (Маркса, 88, у савецкі час — швейная фабрыка «Дынама»), і на турму ў крэпасці — Брыгіткі.

Начальнікам турмаў загадалі трымаць абарону сваімі сіламі і паабяцалі падмацаванне — але яно так і не прыбыло. Калі праз некалькі гадзін нямецкія салдаты сталі набліжацца да гарадской турмы, начальнік уцёк, а вязні паадчынялі камеры і разбегліся. А 10-й гадзіне немцы ўжо занялі горад цалкам.

А вось крэпасць абаранялася, таму ў Брыгітках канвойны батальён паспеў ажыццявіць «убытие по 1-й категории» — гэта быў эўфемізм для слова расстрэл. Пра расстрэлы згадваецца ва ўспамінах ваеннаслужачых стралковага палка, казармы якога размяшчаліся побач з турмой, кажа гісторык Ігар Кузняцоў.

Вермахт, узяўшы Брыгіткі, захапіў толькі 280 вязняў з 680, іх адканваіравалі ў тыл і назаўтра адпусцілі.

Да сёння пошук цел не праводзіўся.

Пасля вайны будынак не аднаўлялі. У 1955 годзе яго канчаткова падарвалі савецкія сапёры.

Сярод тых, хто сядзеў у камеры смяротнікаў у брэсцкай турме і цудам застаўся жывы 22 чэрвеня, быў і 27-гадовы святар з Пружан Казімір Свёнтак. Абвінавачванне было такім жа сфальсіфікаваным, як у большасці зняволеных, — шпіянаж.

Свёнтак стане каталіцкім кардыналам, мітрапалітам Мінскім і Магілёўскім і пражыве доўгае жыццё — 96 гадоў.



**Касцёл брыгітак.** 3D-мадэль, выкананая студэнтамі Брэсцкага тэхнічнага ўніверсітэта.



кляштарны двухпавярховы будынак выкарыстоўваўся як склад недатыкальнага запасу. Пасля паўстання 1863 года брыгіцкія казармы пераабсталёўваюцца ў вайскова-выпраўленчую, а крыху пазней у перасыльную турму. Як турма святыня выкарыстоўвалася і пры Польшчы, і ў СССР у 1939–1941 гадах. З вядомых вязняў дарэвалюцыйнага перыяду тут утрымліваліся адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 года Раман Рагінскі, а таксама Фелікс Дзяржынскі. А з 1938 па 1939 год тут быў зняволены лідар Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў Сцяпан Бандэра. У чэрвені 1941 года будынак атрымаў шэраг пашкоджанняў, болей не аднаўляўся і ў 1955 годзе быў разабраны.

## 15. Кляштар трынітарыяў з касцёлам Святой Барбары

Касцёл закладзены ў 1738 годзе. Яго, відавочна, будаваў той жа архітэктар, які ўзводзіў касцёл брыгітак, ці згаданы касцёл быў узорам для пераймання. Пасля скасавання ўсіх берасцейскіх кляштараў у 1831 годзе мураваныя пабудовы ордэна трынітарыяў таксама чакала прыстасаванне пад патрэбы вайсковага ведамства. Перабудаваныя карпусы атрымалі назву трынітарскай казармы. Праз тры дзесяцігоддзі, згодна з планам першага этапа ўзмацнення фартэцыі, трынітарскія казармы разабралі і насыпалі рэдут — асобна размешчанае земляное ўмацаванне замкнёнага тыпу, з валам і ровам, прызначанае для кальцавой абароны. Хуткае развіццё артылерыі прымусіла інжынераў перагледзець логіку і функцыянальнасць пабудоў фартэцыі, і менавіта з Кобрынскага ўмацавання пачалася мадэрнізацыя крэпасці Брэст-Літоўск усяго праз 20 гадоў пасля афіцыйнага завяршэння будаўніцтва. ◆

Стваральнікі мабільнай праграмы **reBrest** — гіда па страчанай архітэктурнай спадчыне Брэста — збіраюць грошы на фінальны этап распрацоўкі, у выніку якога з'явяцца дадатковыя аб'екты, тэкставыя і аўдыямаршруты і іншыя карысныя функцыі.

Прадзюсар праекта Віктар Клімус хоча, каб гэта быў падарунак гораду да 1000-годдзя.

Даведацца пра праект падрабязней і дапамагчы яму можна праз старонкі ў сацыяльных сетках:
**https://vk.com/rebrest_ar**
**https://www.facebook.com/reBrest.AR**



Усюды на фотакалажах — 3D-мадэлі на аснове арыгінальных фота. Фотамантаж **Аляксандра Невара**.

Гістарычная даведка падрыхтавана на падставе даследаванняў **Тамары Габрусь**, **Інэсы Слюньковай**, **Алены Квітніцкай**, **Ірэны Лаўроўскай**, **Уладзіміра Арлова**, **Тадэвуша Мікалая Трайдаса**.



# БЕЛОРУССКАЯ КУХНЯ
## ГАСТРОНОМИЧЕСКИЙ ПУТЕВОДИТЕЛЬ




**Займальна і смачна — пра багатую гістарычную спадчыну беларускай кухні: стравы і напоі, іх рэцэпты і гістарычныя прыгоды.**

**Наноў адкрыць магію беларускай кухні, адправіцца ў вялікае кулінарнае падарожжа ў часе ад мінулага да сучаснасці і паказаць, што наша гастраномія багатая, шматгранная і не абмяжоўваецца дранікамі і мачанкай. Такая мэта гэтага выдання, якое мае не толькі адукацыйнае, але і прыкладное значэнне. Ідэя ўвасобілася ў жыццё дзякуючы саюзу папулярнага пісьменніка і гісторыка беларускай кухні Алеся Белага з выдавецтвам «РэнесансПаблішынг».**

**Нацыянальныя скарбы — боршч, верашчака, зразы... А яшчэ — мотальскія каўбасы і палескія журавіны, высакародная старка і вострая зуброўка, «аптэчкі прыемныя» і бунтарская кава — тут сабраны самыя смачныя і знакавыя арыенцiры. А для большага гастранамічнага задавальнення выдаўцы прывялі рэкамендацыі па спалучэнні страў з трэндавымі сёння напоямі, якія змогуць ярка адцяніць смак і каларыт беларускіх спецыялітэтаў.**

# АД ГІСТОРЫІ ДА ПАПУЛЯРНАГА!

ТАА «РЭНЕСАНСПАБЛІШЫНГ» МІНСК, ВУЛ. ЦІМІРАЗЕВА, 65А, ОФ. 529 +375 (17) 369-57-42 BESTBELARUS.BY

# Хараство брэсцкага мадэрнізму

**Тысячагадовы Брэст у XIX стагоддзі быў разбураны дазвання і перанесены. У цэнтры тут не знойдзеш ні старадаўніх камяніц, ні сярэднявечных храмаў: новаму Брэсту менш за дзвесце гадоў. Затое нідзе ў Беларусі не захавалася столькі архітэктуры ў стылі канструктывізм. Піша гісторык ініцыятывы «Брэсцкі канструктывізм» Ірына Мароз.**




ФОТА СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Канструктывізм пачаў распаўсюджвацца ў 20-я гады XX стагоддзя разам з ідэямі новага прагрэсу і аптымізацыі. Пасляваенны занапад, сышоў у нябыт перанасычаны дэкорам ар-нуво. Новыя ўмовы дыктавалі: рэчы павінны быць функцыянальнымі, жытло — практычным. Ад формулы «карысць – трываласць – прыгажосць» грамадства перайшло да формулы «канструкцыя – функцыя – форма».

У будаўніцтве запанавалі сталь і жалезабетон. Архітэктары пачалі ствараць будынкі, якія адпавядалі канкрэтным патрэбам карыстальнікаў. Дзейнічала правіла: форму вызначае функцыя. Архітэктары адмовіліся ад былых дэкаратыўных прыёмаў, але не перасталі шукаць хараства. Таму архітэктурны мадэрнізм — гэта эпоха адначасова прыгожых, выразных і функцыянальных будынкаў.

Прайшло сто гадоў, а гэта архітэктура выглядае ўсё такой жа сучаснай. Яна лаканічная і строгая, рацыянальная і функцыянальная. Але ў ёй ёсць і свая экспрэсія, яна ў чыстых геаметрычных формах і дэталях: кругі, вострыя дэталі, гарызантальныя лініі на фасадах, высокія стужачныя вокны, закругленыя рогі, пляскатыя дахі. Адсутнасць дэкору кампенсуе выразная форма.

### Чаму ў Брэсце?

З 1921 года Брэст знаходзіўся ў складзе Польшчы. Пры цару цэнтрам губерні было Гродна, а пры паляках Брэст стаў цэнтрам Палескага ваяводства. Горад моцна пацярпеў у выніку Першай сусветнай і польска-савецкай войнаў. У 1921 годзе магістрат, абследаваўшы жылы фонд, атрымаў несуцяшальныя падлікі: каля 80% яго было разбурана, з 3 670 будынкаў пацярпела каля 2 500. Між тым трэба было размяшчаць адміністрацыю і яе супрацоўнікаў. У красавіку 1925-га польскі ўрад выдаў указ «Аб адраджэнні гарадоў усходніх ваяводстваў», згодна з якім выдзяляліся сродкі для крэдытна-

У навуцы архітэктура першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя атрымала назву «міжнародны стыль» і ўключае ў сябе і функцыяналізм, і канструктывізм, і стрымлайн, і мадэрнізм, і шмат іншых -ізмаў. У розных краінах яна мела свае асаблівасці, адценні, школы і назвы: функцыяналізм, рацыяналізм, канструктывізм, «Новая архітэктура», «Эспры-нуво», «Баўгауз», «Стыль», «Аснова». У міжваеннай Польшчы атрымала назву «Варшаўская школа».

ФОТА А. МАЛЕЙКІ



**Дом для малодшага афіцэрскага складу**, 1929 год. Архітэктар Казімір Талочка з Варшавы.

Адметнай рысай берасцейскага мадэрнізму з'яўляецца яго «пераходнасць», эклектычнасць. Тутэйшыя архітэктары спалучалі міжнародны досвед

**Мікалай Сінкевіч** — карэнны берасцеец. У 1913–1919 гадах — вайсковы інжынер, працаваў на вайсковых аб'ектах: крэпасць Брэст-Літоўск, Львоў, Бярдзічаў, Кіеў, Масква. Адзін з найбольш плённых архітэктараў міжваеннага горада — яму належыць палова праектаў. У гады нямецкай акупацыі выконваў абавязкі галоўнага архітэктара Брэста, ратаваў яўрэйскую дзяўчынку. У 1944 годзе выехаў у Польшчу.



будаўнічай кампаніі. Аснову сумы складаў крэдыт жыхарам гарадоў на аднаўленне, рамонт і будаўніцтва дамоў. Акрамя таго, сродкі вылучаліся на рамонт нерухомасці, рэканструкцыю вуліц, плошчаў, паркаў, мастоў, каналізацыі, на азеляненне. Да 1929 года ў Брэсце было адноўлена 725 дамоў.

Паралельна ажыццяўлялася праграма будаўніцтва дамоў для афіцэраў сіламі спецыяльнага фонда расквартаравання (*Fundusz Kwaterunku Wojskowego*). Афіцэрскія дамы распрацоўваліся вядучымі архітэктарамі. Акрамя афіцэрскіх сядзіб, у той час з'явіліся канструктывісцкія казармы ў Брэсцкай крэпасці і асобны раён для вайскоўцаў — Траўгутава. У савецкі час вакол яго размясціўся Паўднёвы вайсковы гарадок. Да сёння польскія будынкі стаяць там вакол вуліцы — іронія лёсу — Суворава.

У мэтах аптымізацыі будаўніцтва некалькі тыпавых праектаў былі ўніфікаваныя, а вокны, дзверы, памеры бэлек і іншыя элементы праектаваліся ўзаемазаменнымі, каб пры патрэбе ім лёгка было знайсці замену. Усяго Фонд вайсковага расквартаравання рэалізаваў у Брэсце 22 праекты.

### Брэсцкі стыль, палескі стыль

Архітэктура мадэрнізму ў Брэсце мела асаблівыя рысы. Па-першае, брэсцкі мадэрнізм — мадэрнізм правінцыйны. Гэта значыць, што найчасцей будаваліся малапавярховыя прыватныя будынкі, акуратныя гарадскія сядзібы — такія дамкі «для жыцця», з кветнікамі і невялічкімі агародчыкамі.



ФОТА З КАЛЕКЦЫІ Я. МАРОЗАВА

**Дом Трачука**, 1938 год. Архітэктар Мікалай Сінкевіч з Брэста.

з традыцыйнымі мясцовымі формамі. Так і ўзнік «брэсцкі канструктывізм», ён жа «класіцыруючы канструктывізм», ён жа «палескі мадэрнізм».

Таксама для берасцейскай архітэктуры характэрная імітацыя ці стылізаванне пад пляскаты дах. Насамрэч, у большасці мадэрнісцкіх сядзіб горада дах скатны, хоць з фасада дамкі выглядаюць «чыста па-мадэрнісцку». Звычайна невысокія схільныя дахі хаваюцца за парапетамі і атыкамі ды заўважныя толькі збоку. ◆


ФОТА З КАЛЕКЦЫІ АНДРЭЯ ДАЛГОЎСКАГА

**Будынак падатковай інспекцыі**, 1928 год. Архітэктар Вітольд Малкоўскі з Вільні.

## А хто будаваў?

Мадэрнісцкі Брэст праектавалі як варшаўскія, віленскія, так і мясцовыя архітэктары. Часта за будаўніцтвам па праектах вядучых архітэктараў назіралі мясцовыя будаўнічыя кампаніі.






**Юзаф Баранскі** нарадзіўся ў польскім горадзе Яраслаў, навучаўся ў Львоўскай палітэхніцы, з сярэдзіны 1920-х працаваў у Брэсце настаўнікам начартальнай геаметрыі ў Тэхнічнай школе (сучасны каледж чыгуначнікаў). Быў амбідэкстрам — умеў аднолькава лёгка ўпраўляцца абедзвюма рукамі, і прыводзіў у захапленне навучэнцаў, малюючы геаметрычныя фігуры адначасова правай і левай. Юзаф Баранскі меў асабістую гербавую пячатку, гэта значыць быў упаўнаважаным праектаваць будынкі любой складанасці.



**У лютэранскім храме пасля вайны быў кінатэатр, а цяпер офісы.** Год пабудовы — 1938-ы. Архітэктар Юзаф Баранскі.

ФОТА Я. МАРОЗАВА


ФОТА А. МАЛЕЙКІ

**Дом Юзафа Баранскага**, спраектаваны ім самім у 1938 годзе.



**Казімір Талочка (1886–1960)**
Выпускнік Львоўскай палітэхнікі, выкладчык Варшаўскай палітэхнікі, які, імаверна, паходзіў з мясцовага берасцейскага роду Талочкаў. Аўтар праектаў дамоў для афіцэраў у Брэсце і Варшаве.

**Сямён Сідарчук** нарадзіўся ў Кобрыне, скончыў Пецярбургскі інстытут грамадзянскіх інжынераў. Працаваў у Царскім Сяле, праектаваў прыватныя сядзібы, медыцынскія ўстановы, масты, дарогі, школы. Пасля няўдалага шлюбу вярнуўся на Брэстчыну, стаў галоўным архітэктарам Брэста, потым Роўна і Ковеля. У Брэсце стварыў праект «Новага раёна» для дзяржслужбоўцаў.







ФОТА Р. ЧМЕЛЬ

**Дом доктара Звежа** на плошчы Свабоды.

**Віктар Гарныш** распрацаваў праект будынка для паліцэйскіх сем'яў — цяпер частка Абласнога грамадска-культурнага цэнтра па вуліцы Энгельса, 1. Прыстасоўваў для мясцовых умоў праекты драўляных школьных каркасных будынкаў. З'яўляецца аўтарам праектаў некалькіх прыватных сядзіб, сярод іх — вілы доктара Звежа на плошчы Свабоды, 12.




**Віла Ладанчукоў**, пабудаваная ў 1938-м, архітэктар Уладзіслаў Камінскі (сучасная вуліца Камуністычная, 14).

**Уладзіслаў Камінскі** — аўтар шэрагу маляўнічых прыватных вілаў. На жаль, дом Фурса па вуліцы Будзённага, 3 выключаны з дзяржаўнага спісу гісторыка-культурных каштоўнасцей, бо «не ўпісваецца ў ландшафт горада» пасля значнай перабудовы гістарычнага цэнтра.




**Дом Фурса,** пабудаваны ў 1937 годзе, архітэктар Уладзіслаў Камінскі (цяпер вуліца Будзёнага, 3).




Дом Відэльскага аўтарства архітэктара Барталамея Новака **мог называцца «чорнай камяніцай» Берасця**, бо да капітальнага рамонту 2009 года быў аздоблены цёмна-шэрай, «шляхетнай» тынкоўкай з дамешкам дробленых перламутравых мінералаў, якія пераліваліся на сонечным святле. На жаль, цяпер будынак звычайнага светлага колеру, а рэшткі «шляхетнага тынку» можна пабачыць толькі на падвальных вокнах дваравога фасада.




**Будынак Касы хворых (цяпер гарадская бальніца),** 1936 год. Архітэктар Шымон Сыркус з Варшавы.




**Дом доктара Мілевіча**, пабудаваны ў 1938 годзе (цяпер дом 30 на вуліцы Карбышава).




**Будынак Інгбера, 1939 год.** Архітэктар Яўгеніуш Пісьменскі, які трымаў у Брэсце сваё праектнае бюро «Enterp», у 1930-х бюро «Odbudowa». Аўтар праектаў шматкватэрных будынкаў на скрыжаванні сучасных вуліц Леніна і Міцкевіча і шэрагу прыватных сядзіб.







ФОТЫ СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

Такая розная гісторыя

# Прадмесці Берасця






**Горад — гэта не толькі цэнтральныя праспекты, але і ўскраінныя мікраараёны. Якія часта маюць не менш цікавае і насычанае мінулае і авеяныя не меншай колькасцю легендаў, чым уласна «мегаполіс». Пра гісторыю і сучаснасць берасцейскіх прадмесцяў піша Антон Дацкевіч.** ▸



## ▸ Трышын

Уздоўж вуліцы Маскоўскай, каля мікрараёна Усход, стаяць тыповыя для Берасцейшчыны абшаляваныя хаты. Гэта колішняе сяло Трышын, якое ў 1968 годзе ўвайшло ў склад горада. Зямельныя ўгоддзі былой вёскі сталі хутка забудоўвацца шматпавярховікамі. На жаль, новы мікрараён не атрымаў назву Трышын. Сёння існуе толькі вуліца Трышынская, якая ўзнікла ў раёне колішняга аднайменнага фальварка, што месціўся на паўночны захад ад вёскі. Прыватны сектар, размешчаны па гэтай вуліцы, мясцовае насельніцтва называе Новым Трышынам. Яго актыўная забудова пачалася толькі ў пасляваенныя гады. Само сяло месцілася абапал гасцінца, які вёў на Кобрын і Мінск. Цяпер гэта галоўная вуліца горада — Маскоўская. Даўней жа вёска стаяла бліжэй да ракі і была выцягнута ўздоўж надпоплаўнай тэрасы Мухаўца, пра што сведчаць карты XIX стагоддзя.



**Сям'я з Трышына** на прагулцы ў горадзе.

Першыя пісьмовыя звесткі пра паселішча сягаюць XV стагоддзя. У 1496-м вялікі князь літоўскі Аляксандр выдаў у Горадні пацвярджальную грамату свайму сакратару Федзьку Янушковічу на зямельнае ўладанне Трышын у сувязі з цяжбай апошняга з дваранінам Грымаловічам. А ў сярэдзіне XVI стагоддзя ўладальнікам Трышына і суседніх вёсак стаў Станіслаў Пякарскі.

Аднак гісторыя Трышына яшчэ больш старажытная. Дзякуючы археалагічным даследаванням мы ведаем, што на тэрыторыі былой вёскі знаходзіцца бескурганны могільнік, які адносіцца да вельбарскай археалагічнай культуры і датуецца ў межах канца II – сярэдзіны III стагоддзя н. э. Носьбіты дадзенай культуры звязваюцца з гістарычнымі германскімі народамі — готамі і гепідамі. Гэты могільнік быў адкрыты ў 1959 годзе маскоўскім археолагам Юрыем Кухарэнкам. Падчас раскопак археолаг выявіў 75 пахаванняў па абрадзе трупаспалення і 8 ахвярных ямаў. А ў пачатку 1960-х побач з могільнікам адкрылі шматслойнае паселішча, на якім, акрамя матэрыялаў жалезнага веку, выяўлена кераміка канца X–XII стагоддзяў.

Такім чынам, Трышын быў даўнім-даўнім паселішчам.

У візітацыйным вопісе берасцейскіх цэркваў 1726 года мы



**Трышынская царква.** Пахаванне. Пасляваенныя гады. Пазней саветы яе спаляць.

### Як гаварылі ў Старым Берасці?

Напэўна, таксама, як да XX стагоддзя гаварылі ў навакольных сёлах і прадмесцях. Напрыклад, на поўнач ад Берасця ішла паласа гаворак, у якіх вымаўлялі [у] на месцы этымалагічнага ***о**: *кунь* (конь), *муст* (мост), *двур* (двор), *кут* (кот), *вуз* (воз), *плут* (плот), *вун* (ён), *бульш* (больш), *муй* (мой) і інш. Акрамя таго, каля Берасця словы кшталту «карова», «каза», «малако» вымаўлялі праз [у]: *курова*, *куза*, *мулуко*, *худыты*, *рубыты*, *нусыты*. Цікава, што ў Гершонах і на Вульцы старыя людзі на «ён» казалі: «вынь» — гук у гэтай пазіцыі быў сярэдні між ы, ю ды і.

знаходзім звесткі пра драўляную царкву Святой Тройцы, якая месцілася на Завугрынецкім прадмесці па вуліцы Вайтовай (зараз раён вуліцы Герояў Абароны, непадалёк ад Паўночнай брамы крэпасці). Акрамя жыхароў прадмесця, да парафіі адносіліся вёскі Лозкі, Тапалёва, Шпановічы і Трышын.

Паміж апошнімі знаходзіцца вядомы берасцейскі некропаль — Трышынскія могілкі. Першапачаткова яны былі звычайнымі вясковымі могілкамі, на якіх хавалі сваіх памерлых жыхары вёсак Шпановічы, Трышын і Гузні. Да 1960-х гадоў на могілках стаяла драўляная царква Святой Тройцы, узведзеная ў канцы XIX стагоддзя. Аднойчы ноччу яна згарэла, і хадзілі чуткі, што за падпал улады паабяцалі некаму кватэру. Вядома, што гэтаму будынку папярэднічала старая могілкавая царква, якая стаяла ў іншым месцы, прыблізна пасярэдзіне могілак. А сёння там знаходзіцца невялікі памятны знак.

Трышынцаў здаўна многае звязвала з горадам. Гэта не толькі прыходскі храм і кірмашы. На Раство яшчэ ў міжваенны час яны хадзілі калядаваць у горад. Напэўна, так было і ў больш аддаленым мінулым, на што ўказвае тэкст каляднай песні, дзе згадваюцца мураваныя дамы, якіх раней у вёсках, зразумела, быць не магло:

*Ой, скочы, коза, з сіны до хаты,*
*Стань на порозі на однуй нозі,*
*Заглянь на грады, чы ныма рады.*
*А тая рада — старая баба,*
*Солому сычэ, пырогі пычэ,*
*А сіно смажэ, пырогі мажэ.*
*На горы вовчок з вовчынятамы,*
*В долыні коза з козынятамы,*
*Вовчык схопывся, за козу схватывся,*
*А вовчынята — за козынята.*
*Наша козунька догадалася,*
*В сухую лозу тай сховалася.*
*Іхалы стрыльцы, всі каштановці,*
*Нашу козуньку тай застрылылы.*
*Бух!*



**Трышын.** Май 1931 года.



**Вольга Дабралюбава (справа)** захавала цёплыя ўспаміны пра колішні Трышын.

Каза падае. Калядоўшчыкі і гаспадары спрабуюць яе ажывіць салам і каўбасамі. Ад гэтых падарункаў каза ажывае.

*Ой, хвалю тыбэ, наш моцный Божэ,*
*Шо наша куза гуляты можэ!*
*Гуляла вона по полям, лугам,*
*Тыпэр гуляе по сітым* домам,*
*По сітым домам, по мурованым,*
*По сітым дворам, по* [брукованым?].

Гэтую песню мы запісалі ад Вольгі Дабралюбавай (у дзявоцтве Лісоцкай) з Трышына.

Сярод трышынцаў бытавала і паданне пра заснаванне Берасця: «*Плылі манахі. І от яны знайшлі астравок. І от ім панравіўся, яны асноваліся...*»

Мы яго запісалі ад той жа Вольгі Дабралюбавай. Ёй паданне расказваў яе дзед Лывінь (Лявонцій) Ярашчук.

### Шпановічы

Першыя пісьмовыя звесткі пра Шпановічы сягаюць у XVI стагоддзе. Паселішча было ўладаннем уладзіміра-берасцейскіх праваслаўных епіскапаў. Вялікі князь літоўскі Аляксандр у 1502 годзе дазволіў Федзьку Янушковічу памяняць свой фальварак на «зямлю Ушпанаўскую», якая належала Мікалаеўскай царкве.

У выніку пераносу горада на новае месца значная частка зямельных угоддзяў вёскі трапіла пад гарадскую забудову. Пазней праз Шпановічы была збудавана чыгунка, побач з якой паўстала новае прадмесце — Кіеўская слабодка (Кіеўка). Пры Польшчы, у 1929 годзе, сяло Шпановічы было далучана да горада, стала прадмесцем. З-за недахопу сенажацяў тут складана было гадаваць кароў, і гэта паступова прывяло да пераарыентацыі класічнай сялянскай гаспадаркі на патрэбы гарадскога рынку. ▶

* Сітым = гэтым на мясцовай гаворцы.

Адпаведна, узрастала роля агародніцтва і садаводства.

Мясцовыя *кубаснікі* браты Швядовічы і Сладзінскія куплялі мяса і выраблялі каўбасы на продаж, трымаючы ў горадзе ўласныя лаўкі.

Прадукты, вырашчаныя на прысядзібных участках, жыхары прадмесця неслі прадаваць на гарадскі рынак, пасярод якога стаялі вялікія мураваныя гандлёвыя рады, збудаваныя яшчэ ў пачатку 1840-х гадоў. Там знаходзіліся лаўкі (*яткі*), якія трымалі габрэі. Яны кантралявалі гарадскі гандаль і складалі пераважную частку насельніцтва горада. Нездарма ў міжваенны час казалі, што ў Берасці *«польскі гульыці, жыдівські камыныці»* — вуліцы польскія, а камяніцы жыдоўскія.

Важнай падзеяй у жыцці горада і навакольных сёлаў былі кірмашы, якія ладзіліся два разы на месяц. На *я́рмарок* прыязджалі ці прыходзілі сяляне і з аддаленых вёсак, у тым ліку так званыя *пульшукі*. Гэтак берасцюкі і жыхары падгародскіх сёлаў называлі людзей, якія жылі на поўдзень і паўднёвы ўсход ад Берасця. Найперш гэта цяперашнія Маларыцкі раён і поўдзень Кобрынскага, а таксама паўднёвыя часткі Берасцейскага і Жабінкаўскага раёнаў. «Палешукі», у адрозненне ад падгародцаў, былі вельмі традыцыйнымі людзьмі, вылучаліся сваімі архаічнымі звычаямі і вопраткай. Яны яшчэ хадзілі ў *постолах* (лапцях), насілі даматканае і стрыгліся «пад гаршчок». Такія адрозненні былі абумоўленыя вельмі слабым гарадскім уплывам, дзякуючы чаму гэтая частка Берасцейскага Пабужжа лепш за іншыя захавала старажытны фальклор.

Мясцовыя *кубаснікі* браты Швядовічы куплялі мяса і выраблялі каўбасы на продаж, трымаючы ў горадзе ўласныя лаўкі. Цікава, што іх праўнук Уладзь Швядовіч цяпер працуе на партале «Наша Ніва» і друкуецца ў «Нашай гісторыі». Мы нечакана даведаліся пра гэта, калі рыхтавалі артыкул.

## Соя

Урочышча Соя размешчана на поплаве левага нізкага берага Мухаўца. Соя згадваецца яшчэ ў рэвізіі Берасцейскага староства 1566 года як угоддзі берасцейскіх мяшчан. У міжваенны перыяд на тэрыторыі ўрочышча паўстаў аднайменны пасёлак. Гэта былі свайго роду фавэлы. Пасёлак заснавала гарадская бедната, няздольная набыць зямельны ўчастак.

Было тады такое правіла: калі ты паставіў хату і вывеў комін, то разбураць яе было ўжо забаронена, такую нерухомасць легалізоўвалі. *«Пудбырае момент, матеріал — і гоп-гоп за одну ноч злыпыв якусь будочку. Там жылы рыбакі, бызработны...»,* — расказваў нам Сцяпан Сідарук з Вулькі.

Размешчаны ў нізкай мясцовасці, пасёлак затапляўся падчас веснавых паводак, што значна ўскладняла жыццё яго жыхароў. Нарэшце, у 1974-м здарылася вялікая паводка, пасля якой насельніцтва Соі цалкам выселілі. Людзі атрымалі кватэры ў новых мікрараёнах, а будынкі пакінутага паселішча знеслі. Потым на тэрыторыі ўрочышча былі выкапаныя два невялікія вадасховішчы, якія атрымалі назвы Вялікая і Малая Соя.

## Валынка

Магчыма, камусьці пачуецца нешта старажытнае ў назве гэтага прадмесця. Аднак не. Валынка ўзнікла толькі ў 1830-я гады ў сувязі з будаўніцтвам Берасцейскай крэпасці і пераносам горада на новае месца. Так былі заснаваныя два фарштаты — Кобрынскі і Валынскі. Першы, самы буйны — гэта сучасны цэнтр горада. А вось Валынскі, параўнальна невялікі, размяшчаўся паміж былымі вёскамі Аркадзія і Кацельня Падмеская.

Карэннае насельніцтва Валынкі — нашчадкі жыхароў старога Берасця, якія жылі ў горадзе яшчэ за часамі Вялікага Княства Літоўскага і перасяліліся са знесенага горада.

Сваю назву прадмесце атрымала ад таго, што ўзнікла на старадаўнім Луцкім гасцінцы, які




**Соя на карце сярэдзіны 1950-х гадоў** «Праект змены межаў паміж горадам Брэстам і Брэсцкім раёнам».



**Берасцейскія брукары.** Фота з сямейнага архіва жыхаркі Вулькі Аляксандры Яцкевіч.

вёў на Валынь. Ад самага пачатку ў планіроўцы прадмесця быў закладзены падзел на дзве часткі — габрэйскую і хрысціянскую. *«Жидівська»* палова знаходзілася на захад ад сучаснай вуліцы Ковельскай, а хрысціянская, ці *«мышчанська»,* — на ўсход.

Габрэйскія кварталы Валынкі былі ўшчэнт зруйнаваныя ў першыя ж дні пасля нападу Нямеччыны на Савецкі Саюз. Насельніцтва трапіла ў гета, а пасля было пагалоўна расстралянае. На месцы знішчаных сядзіб пасля вайны сталі сяліцца сяляне з блізкіх вёсак, адселеных з-пад Буга, — найперш з Прылук.

Колішніх «мяшчан» можна падзяліць на дзве групы — каталіцкую і праваслаўную (былыя ўніяты). Рыма-католікі самаідэнтыфікаваліся як палякі. Большая іх частка пасля Другой сусветнай вайны з'ехала ў Польшчу. Мяшчане размаўлялі на гаворцы, якая была дзіўнай сумессю польскай і рускай моў з дамешкам мясцовых заходнепалескіх гаворак. Тутэйшыя старажылы, якія мелі з імі дачыненні, зазначаюць, што іх мова *«ны руска і ны польска»*.

## Гершоны

На паўднёвай ускраіне Берасця, паміж Бугам і вуліцай Ковельскай, знаходзяцца Гершоны. Тут цалкам адсутнічае шматпавярховая забудова, мікраён застаецца вялікім сялом. Амаль у самым яго цэнтры можна пабачыць, як на лузе пасвяцца каровы. І гэта не дзіўна, бо Гершоны былі ўключаныя ў склад горада толькі ў 2007 годзе. Адначасова часткамі горада сталі суседнія вёскі Аркадзія, Міцькі, Бернады і Кацельня Баярская, якія адносіліся да Гершонскага сельсавета.

Новы мікраён імкліва пашыраецца за кошт катэджнай забудовы. Гістарычныя Гершоны — гэта вуліца Гершонская і паўднёвая частка Свята-Афанасьеўскай, адпаведна, яны з'яўляюцца самымі старымі вуліцамі мікраёна. Раней вёска складалася з дзвюх асобных частак, раздзеленых Холмскай чыгункай (цяпер вуліца Уладаўская). Усходняя частка сяла (цяпер вуліца Гершонская) насіла неафіцыйную назву *Кучя́ны*. На паўднёвы ўсход ад іх існавалі старыя гершонскія могілкі.

Вядома, што жыхары адной вёскі маглі «ўзнагароджваць» людзей суседняга паселішча характэрнымі мянушкамі. Напрыклад, з-за таго, што насельніцтва Кацельні Баярскай было больш заможным і акрамя іншых культур вырошчвала пшаніцу, гершонаўцы празывалі іх *пшанычныкамы*. А вось жыхары Кацельні Падгародскай насілі мянушку *рэйнікі*. Што значыць «весці рэй», «быць завадатарам».

З вядомых на сёння крыніц упершыню паселішча згадваецца ў 1548 годзе пад назвай Гершановічы. Гэты айконім, верагодна, паходзіць ад імя Ге́рыш, што магчыма, скарачэнне ад Герасіма.

Сяло фігуруе таксама ў рэвізіі Берасцейскага староства 1566 года. У гэтым дакуменце мы знаходзім пералік сялян-гаспадароў сяла Гершановічы, якое належала да дзяржаўных (гаспадарскіх) уладанняў і ўваходзіла ў склад Прылуцкага войтаўства. Рэвізія зафіксавала таксама некалькі мікратапонімаў: Крывы Брод, Кашыцы, Глінішча, Нядовіна. Вёска была шчыльна звязаная з горадам: у яе ваколіцах месціліся фальваркі, якія належалі заможным берасцейскім мяшчанам. Праз пэўны час яны разрастуцца ў невялікія вёскі.

У 1659–1661 гадах у Гершановічах была збудавана царква. Фундуш на заснаванне храма выдаў кароль Рэчы Паспалітай Ян Казімір. Апісанне будынка царквы і яе начыння мы знаходзім у візітацыі берасцейскіх цэркваў 1726-га. Побач са старой царквой Раства Багародзіцы стаяў будынак новай драўлянай царквы. Паводле гэтай крыніцы, гершонская парафія аб'ядноўвала вёскі Аркадзія, Бернады, Дубіннікі, Міцькі, Кацельня Падмеская, Кацельня Баярская і іншыя. У 1869-м замест драўлянай царквы ў псеўдарускім стылі ▸

▸ была збудавана мураваная, так званая «мураўёўка».

У XIX стагоддзі каля Гершон паўстала цагельня, якая пазней разраслася ў цэлы пасёлак (цяпер вуліца Цагляная). З-за здабычы гліны ўтварылася вялікая колькасць штучных азёраў.

Насупраць былой вёскі Аркадзія знаходзіцца мужчынскі Свята-Афанасьеўскі манастыр. Ён заснаваны ў 1996 годзе побач з драўлянай капліцай, збудаванай на мяжы XIX і XX стагоддзяў, як лічыцца, на месцы гібелі Афанасія Філіповіча (каля 1597–1648) — вядомага пісьменніка-публіцыста, палітычнага і царкоўнага дзеяча. Ад мясцовага насельніцтва можна пачуць паданне, што некалі зімой там вырасла кветка, якая засведчыла месца смерці манаха. Іншыя ж кажуць, што пастухі бачылі запаленую свечку.



**Вулька. Паводка.** Пасляваенныя гады.

*«З Вулькі був цэрковный староста. Звалы его Місій* [Масей] *Котік. І вынь шов туды* [з царквы], *а була зыма, і в болоті русцвыла лілія. Ну вынь пубачыв, шо цвытэ лілія. І вырнувся назад, русказав пуповы. Прышлы. Правда. В болоті цвытэ лілія. Чудо. І з'іхалыся пупы. І сталы рышаты, шо тут могло случытыся. І прышлы к выводу, шо тутыка був вбытый Афанасій».*

## Вулька Падгародская

У паўднёвай частцы Берасця, на левым беразе Мухаўца, знаходзіцца мікраараён Вулька. Гэта колішняя вёска Вулька Падмеская (мясцовае *Вулька Пудміська*), якая была ўключана ў склад горада ў 1968 годзе. Яна месцілася зусім блізка ад горада — «места», як казалі даўней, таму і стала звацца Падмескай або Падгародскай. Паселішчы з падобнымі назвамі (Воля, Волька, Слабодка) узнікалі ў XVII–XVIII стагоддзях, калі феадал-землеўласнік сяліў на сваіх землях сялян і вызваляў іх на пэўны тэрмін ад падаткаў, даваў «волю» — адсюль і назва. Таму зусім невыпадкова існуе народнае паданне пра заснаванне вёскі панам.

Першыя пісьмовыя звесткі пра гэтую мясцовасць мы знаходзім у рэвізіі Берасцейскага староства 1566 года, дзе згадваецца фальварак Жукоўскі, што належаў Крыштофу Краеўскаму, які жыў у Берасці, у доме, з вокнаў якога адкрываўся від на рынкавую плошчу і ратушу. Паводле крыніцы, фальварак месціўся паміж сёламі Гершановічы і Жыровічы, а побач знаходзіліся ўрочышчы Любошча Гара




**Любошча Гара на расійскай карце пачатку XX стагоддзя.**




**Дзяўчаты-сяброўкі Фядосія Дарашук і Прузына Коцік з вёскі Вулька Падгародская, пачатак XX стагоддзя.** У той час праваслаўная царква забараняла фатаграфавацца, таму ў фотасалон дзяўчаты выправіліся так, каб ніхто пра гэта не здагадаўся.

і Ракітава, якія дагэтуль добра вядомыя мясцовым старажылам і дакладна лакалізуюцца непадалёк ад былой вёскі.

Любошча Гара знаходзілася ў раёне цяперашняга гандлёвага цэнтра «Варшаўскі» (вуліца Махновіча), яна фіксуецца на старых картах.

У сямейным архіве карэннага жыхара Вулькі Падгародскай Сцяпана Сідарука захоўваецца цікавы фотаздымак пачатку XX стагоддзя. На ім мы бачым дзвюх дзяўчат-сябровак у традыцыйных святочных строях. Дзяўчына злева — будучая маці Сцяпана. Фота было зроблена ў адным з берасцейскіх фотасалонаў. Сцяпан Эмануілавіч расказаў, што ў той час праваслаўная царква забараняла фатаграфавацца, таму ў фотасалон дзяўчаты выправіліся так, каб ніхто пра гэта не здагадаўся. Гэта, бадай што, самы ранні фотаздымак, зроблены сялянамі. Неўзабаве пачнецца Першая сусветная вайна, якая зменіць гісторыю краіны і зламае многія чалавечыя лёсы.

### Пугачова

У 1979 годзе Пугачова было ўключана ў склад горада. Колішняя вёска багатая на мікратапонімы: *Бырэзовэць*, *Тоня*, *Куповаха*, *Волосяное*, *Слыпэтыска*, *Цьманово*, *Камэліс*, *Чароліс*, *Нагомукова Гора*, *Навіз*, *Сахарскій Брід*, *Козлывській Брід*, *Шуткывській Брід*, *Попова Шыя*, *Гычово*, *Гычовскій Рів* і шмат іншых. Частка гэтых мясцовасцяў была пахаваная пад тонамі пяску пры будаўніцтве ў 1980-х гадах новага мікраараёна Кавалёва, які «заглушыў» назву былой вёскі.

Для Пугачова характэрны падзел на канцы. Заходняя частка колішняга сяла мае назву Піскуры (мясц. *Пыскурі*, назва, відаць, матываваная пясчанымі глебамі, таксама неафіцыйная назва вёскі Малыя Косічы), а ўсходняя — Канчаны (мясц. *Кунчаны*, гэта значыць «жыхары канца»). Цікава, што паміж гэтымі часткамі існавала дакладна вызначаная граніца. Яна праходзіла там, дзе цяпер вуліца Валгаградская перакрыжоўваецца з вуліцай Цэнтральнай. Паводле сведчання мясцовага старажыла Паўла Караля, у міжваенны час існавала нават шыльда-паказальнік з назвамі гэтых канцоў. Як успамінае Аляксандра Шабуня, моладзь з усходняй часткі вось так дражніла сваіх заходніх суседзяў:

*Пыскурі, пыскурі,*
*Спыклы жабу на пычі,*
*Сілы ў куточку,*
*З'ілы по кусочку!*

А жыхары Піскуроў крычалі ў адказ: *«Кунчаны сучку звынчалы!»*

У пісьмовых крыніцах XVI стагоддзя мы не знойдзем вёскі з назвай Пугачова. З тэксту рэвізіі 1566 года вынікае, што на ўсход ад сучаснай Вулькі, дзе месціцца мікраараён Кавалёва, пачыналіся зямельныя ўгоддзі сяла Жыровічы. Падобна на тое, што гэтае паселішча пазней ▸



**Дзяўчаты з Пугачова**, міжваенныя гады.



**Ціхан з Пугачова і Федзька з Гузнёў** у міжваенныя гады (верагодна, 1920-я).

змяніла назву на Пугачова. Упершыню «Жыровічы із Каменкаю подле Берасця» згадваюцца пад 1511 годам, як уладанне Яна Літавора Храбтовіча.

У Пугачове да 1940-х існавала калядная традыцыя хаджэння *максымянув*. Так у навакольных з Берасцем сёлах называлі ўдзельнікаў пастаноўкі народнай драмы «Цар Максімільян», якая была вядомая ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. Максімяны хадзілі на *Руздво*, на першы дзень. Галоўнымі персанажамі драмы былі цар Максімян, царэвіч Адольф, маладая казачка, скараход-«федзьмаршал», жыд.

## Рэчыца

У паўночна-заходняй частцы Берасця размешчаны мікраараён Рэчыца (мясцовае *Рычы́ця*). У мінулым Рэчыца — тыповая падгародская вёска, шчыльна звязаная з Берасцем. У 1968-м яна была далучана да горада. Цяпер гэта вуліца Рэчыцкая



**Канчанскі крыж (Пугачова)**, канец 1920-х гадоў.



Пугачова. Максімяны, 7 студзеня 1946 года. **Традыцыя захоўвалася, нават калі прыйшлі саветы.**





**Канчанская моладзь.** Пугачова, 1950-я.

і прылеглая частка вуліцы Смірнова. Найбольш ранія вядомыя нам звесткі пра паселішча датуюцца пачаткам XVI стагоддзя. У Метрыцы ВКЛ пад 1508 годам мы знаходзім запіс пра пацвярджэнне



**Сям'я з вёскі Пугачова,** 1930-я.

Міцьку Дзяку на два «пустоўскія» жэрабі* ў Рэчыцы, якія раней трымаў берасцейскі мешчанін Фен. ▶

* Жэрабем называлі зямлю, якая была асноўнай адзінкай абкладання цяглавых людзей павіннасцямі да аграрнай рэформы сярэдзіны XVI стагоддзя.



**Калядаванне ў Пугачове, 2000-я.** На пярэднім плане Аляксандра Шабуня і Уладзімір Жмянько.



**Сяброўкі з вёскі Пугачова.** Міжваенныя гады.

▶ У 1511 годзе, відаць, той самы Міцька набыў у Сака і Андрэя Чарнаковічаў дзве рэчыцкія «зямліцы»: Цітоўскую і Масалеўскую. У тым жа годзе дваранін Міцька Дзянісавіч прадаў Івану Сямёнавічу Сапегу сяло Рэчыца з пяццю жэрабямі. Прыводзяцца назвы трох: Цітоўскі, Масалеўскі і Сапылёўшчына. На жаль, гэтыя тапонімы сёння не фіксуюцца.

Аднак некалькі іншых рэчыцкіх мікратапонімаў мы змаглі занатаваць і лакалізаваць. Так, на паўночны захад ад колішняй вёскі знаходзіцца ўрочышча *Уструвкі*. Гэта нізкая мясцовасць, парослая альховымі дрэвамі, дзе шматлікія пратокі ўтвараюць невялічкія астраўкі. На ўскрайку ўрочышча, каля вуліцы Ключавая, з-пад гары б'е крыніца.

*Пудмісте* — так называлася адно з рэчыцкіх палёў, якое прылягала да гарадскіх (мескіх) зямель, ад чаго і атрымала сваю назву. Цяпер там знаходзіцца вуліца Прыгарадная, і падаецца, што не выпадкова.

Зусім нядаўна на Рэчыцы была збудавана новая праваслаўная царква Святой Тройцы. У колішняй вёсцы царквы ніколі не было. Рэчыцкія людзі наведвалі берасцейскую царкву Святога Мікалая (брацкую), якая месціцца на цяперашняй вуліцы Савецкай. Аднак і раней, яшчэ да пераносу горада і будаўніцтва цытадэлі, жыхары Рэчыцы адносіліся да гарадской царквы. Паводле візітацыйнага вопісу берасцейскіх цэркваў 1726 года, царкву Святога Міхаіла, акрамя мяшчан, наведвалі сяляне з вёсак Рэчыца, Казловічы і Плоска. Гэтая царква была драўляная, знаходзілася на прадмесці Пяскі, непадалёк ад кляштара брыгітак, які царскія ўлады ператварылі ў вязніцу (цяпер паўднёва-заходняя частка Кобрынскага ўмацавання Берасцейскай крэпасці). ◆



**Хлопцы з Рэчыцы.** Міжваенны здымак.



**Рэчыцкія дзяўчаты ў святочных строях.** Міжваенныя гады.



**Гурток вясковай моладзі.** Рэчыца, міжваенны час.

# Што хавае ў сабе найстарэйшы гадзіннік Нясвіжа

**Пра сімволіку выяваў 300-гадовага гадзінніка з калекцыі музея-запаведніка «Нясвіж» піша супрацоўніца музея Людміла Жук.**

Гэты гадзіннік экспануецца ў Зорнай зале Нясвіжскага палаца. Выраблены ён быў у першай палове XVIII стагоддзя англійскімі майстрамі, якія ўпрыгожылі корпус гадзінніка традыцыйнымі кітайскімі сюжэтамі ў стылі шынуазры.

Корпус нясвіжскага гадзінніка выкананы ў складанай шматслаёвай кітайскай тэхніцы лакавання і разьбы. Элементы дэкору паўтараюць класічныя кітайскія знакі. Пейзажы гор і вады — «шань-шуй» — перадаюць адчуванне велічы і гармоніі свету.

На дзверцах гадзінніка мы бачым водную роўнядзь, над якой узвышаецца гара з квітнеючымі магноліямі — сімвалам жаночай прыгажосці.



У цэнтральнай частцы панэлі паказаны невялікі човен, на беразе — фігура рыбака. Тэма рыбнай лоўлі ў Кітаі сімвалізуе працавітасць, урадлівасць і працяг роду. А каля гары выяўленыя дзве качкі — прадвеснікі шчаслівага шлюбу. Іх часта малявалі з лотасамі — сімвалам спакойнага шчасця.





Раслінныя арнаменты і пышныя кветкі ўпрыгожваюць амаль увесь корпус гадзінніка. Архідэя — гэта пабожнасць або дасканаласць, хрызантэма — адпачынак, сліва — жыццёвая сіла і надзейнасць. На бакавой панэлі ўнізе — вялікая фігура жураўля, знак шчасця і ўдачы.

Ёсць сярод сімвалаў і выявы людзей, але выглядаюць яны на фоне прыродных элементаў другасна. У кутах над аркай цыферблата знаходзяцца фігуры мужчын. Адзін з іх мае шаблю, што можна вытлумачыць як ахову, абарону. Другі трымае ў руках кітайскую вынаходку — парасон: сімвал сілы і шляхетнасці.

Цэнтральная частка цыферблата гравіраваная фігурамі птушак і парасткамі. Рымскія лічбы паказваюць гадзіны, арабскія — хвіліны. Над стрэлкамі невялікі секундамер з арабскімі лічбамі, а пад стрэлкамі — каляндар, які паказвае дзень тыдня. У цэнтры аркі — медальён, апраўлены лаўровым вянком з гравіроўкай: *William / Bawou / London*. Ахоўваюць медальён амфіптэры — паводле сярэднявечнай міфалогіі, крылатыя змеі, якія валодалі мудрасцю, звышнатуральнай сілай і ахоўвалі скарбніцы. Тут змеі ўвасабляюць каштоўнасць і незваротнасць часу, пра якую варта памятаць кожнаму. ◆




**Шынуазры**
(ад французскага *chinoiserie* — «кітайшчына») — стыль у еўрапейскім мастацтве і інтэр'ерах, стылізаваны пад сярэднявечнае кітайскае мастацтва. У XVIII ст. было модна абстаўляць пакоі як сапраўднымі кітайскімі рэчамі, так і еўрапейскімі карцінамі, шпалерамі, каміннымі экранамі, мэбляй і гадзіннікамі з кітайскімі матывамі.

**Гэтае слова не сустрэнеш у крамах ды рэстаранах. Але шмат якія сем'і гатуюць яе і цяпер, хіба што называюць інакш. Пра традыцыйную кішку піша доктар гісторыі Алесь Белы.**



У старажытным Супраслі, калісьці цытадэлі беларускай культуры, штогод праводзіцца **чэмпіянат свету па прыгатаванні бульбяной кішкі і бабкі.**

### Крывянка, налівайка, вантрабянка...

Хто не ведае традыцыйнай *крывянкі*? У адвараныя або сырыя крупы (як правіла, грэцкія, радзей ячныя або рысавыя) дадаюць тлушч, скваркі, прыправы і свежую свіную кроў, а часам малако. Часам замест круп кладуць муку. Усё гэта перамешваюць і наліваюць у тоўстыя свіныя кішкі. Адсюль яшчэ адна назва гэтай стравы — *налівайка*, пашыраная, напрыклад, па поўначы Налібоцкай пушчы. Начыненую кішку пякуць на бляхах або абварваюць, а потым падсмажваюць.

Калісьці любая каўбаса па-беларуску называлася *кішка*. Часцей за ўсё гэта была менавіта крывяная каўбаса з крупамі або мукой, тым больш што малоць мяса на фарш пачалі не раней за XIX стагоддзе.

Нават прозвішча магнацкага роду Кішак, у сярэдзіне XVI стагоддзя другога па заможнасці пасля Радзівілаў, згодна з легендай, паходзіць ад таго, што пачынальнік роду вельмі любіў гэтую страву. (Хоць больш верагодная падаецца версія паходжання прозвішча ад літоўскага слова *kiškis* — заяц.) Літоўцы называюць гэтую страву *vėdarai*, што перакладаецца як «кішкі» або «вантробы» — зрэшты, множны лік як варыянт назвы нярэдкі і ў Беларусі. Вядомы варыянт *кішкі* з грэцкімі крупамі, але без крыві — з варанай свінінай. І, вядома, з пячонкай — *печанёўка*, або *вантрабянка*.

### Сучасная кішка — бульбяная

Але сёння слова *кішка* стасуецца найперш да каўбасы з таркаванай бульбы са свінымі скваркамі. Такі тып кішкі з'явіўся ў XIX стагоддзі, калі пашырэнне бульбы выклікала сапраўдную рэвалюцыю ў харчаванні беларусаў. Словам кішка пачалі называць пераважна каўбасу бульбяную, а традыцыйную з крыві і грэчкі — крывянкай, хоць нельга сказаць, што такі падзел быў паслядоўны.

Дарэчы, на Гродзеншчыне і Падляшшы яшчэ і цяпер бульбяную кішку робяць з крывёй: магчыма, калісьці бульбу пачалі патроху дадаваць у крывянку, а потым даўмеліся зрабіць яе асноўным інгрэдыентам.

Новы тып кішкі пашырыўся ў Беларусі і Літве, а ад нас трапіў і ў Польшчу. Назва яе — карэнная беларуская, бо па-польску гэтая частка органаў стрававання называецца *jelita*, а *kiszka* ўжываецца толькі ў дачыненні да стравы.

**Калісьці любая каўбаса па-беларуску называлася кішкай. Часцей за ўсё — крывяная з крупамі або мукой: малоць мяса на фарш пачалі не раней за XIX стагоддзе**

У Польшчы бульбяная кішка асацыюецца найперш з Падляшшам. Магчыма, гэта сведчыць пра колішнюю адносную беднасць падляшскага (і беларускага) традыцыйнага ▸

стала ў параўнанні з польскім, на якім мясныя каўбасы гасцявалі часцей. Але ўсё адно хвала і гонар падляшанам, якія здолелі з гэтай няхітрай стравы зрабіць «фішку», брэнд. Ужо хутка дваццаць гадоў, як у старажытным Супраслі, калісьці цытадэлі беларускай культуры, штогод у траўні–чэрвені праводзіцца — ні больш ні менш — чэмпіянат свету па прыгатаванні бульбяной кішкі і бульбяной бабкі. Дарэчы, кішка з бабкай — блізкія сваякі. Па сутнасці, кішка — гэта тая самая бабка, толькі не ў гаршку, а налітая ў свіныя кішкі.

Здаецца, каманды з Беларусі на гэты чэмпіянат пакуль не выстаўляюцца. Больш за тое, на беларускім кулінарным фэсце «Мотальскія прысмакі» саромеюцца нават самога слова «кішка»: у каляровым буклеце фэсту страва называецца *«картофельная колбаса»*.

Але ў апошнія гады і ў нас пазначылася ажыўленне цікавасці да амаль страчанай у масавым ужытку стравы. Бульбяную кішку ўжо гатуюць у некалькіх мінскіх і гарадзенскіх рэстаранах, і нават у недарагіх кафетэрыях. Напрыклад, у гарадзенскім гастраноме «Кастрычніцкі» можна хутка пад'есці смажанай бульбяной каўбаскі, нарэзанай невялікімі «цыліндрыкамі».

## Кішка і бабка — блізкія родзічы

### І татарская, і габрэйская

Добра вядомая кішка і іншым народам Беларусі. Нашы татары дагэтуль часам гатуюць *трыбушок*: сумессю таркаванай бульбы са смажанай цыбуляй і кавалачкамі бараніны або ялавічыны начыняюць барановы,

Гатавала бабулю кішку да суботы. Цялячыя кішкі, памытыя і разрэзаныя на кавалачкі даўжынёй з дзве далоні, у бабулі захоўваліся ў спецыяльным рондальчыку ў склепе. У пятніцу раніцай я выцягваў рондальчык з кішкамі са склепа, бабуля адбірала адну кішку, а астатнія я цягнуў назад у склеп... Яна доўга глядзела іх на прасвет, выварочвала, пакуль спынялася на адзінай, якая ёй спадабалася. Хоць, у рэшце рэшт, выкарыстоўваліся ўсе кішкі з рондальчыку.

*Марат Баскін, «Кулінарны раман ў рэцэптах»*

радзей ялавічны, страўнік. Такі вось далёкі сваяк славутага шатландскага «хагіса». І тут выгадна вылучаецца Падляшша. Рэстараны і аграсядзібы Крушынянаў, «татарскай сталіцы» Польшчы, з гонарам прапануюць «трыбушок» шматлікім гасцям.

Рэгіянальны віленскі варыянт кішкі, які сустракаецца і ў беларускай частцы Віленшчыны, гатуецца з сумесі таркаванай бульбы, смажанай цыбулі і тварагу.

А ў беларускіх габрэяў *кішке* гатавалася з незвычайнай сумесі: курынага ці гусінага шмальцу, меленай мацы, смажанай цыбулі, пасераванай морквы, добра паперчанай, — якой начынялі ялавічныя кішкі. У фальклоры на мове ідыш такой каўбасе адводзілася месца аднаго з галоўных ласункаў. Ды нават у пасляваенны час такое значэнне стравы захоўвалася. Вось як апісвае свае дзіцячыя ўражанні пра яе ў «Кулінарным рамане ў рэцэптах» нью-ёркскі пісьменнік, выхадзец з усходнебеларускага Краснаполля Марат Баскін:

«Што можа быць смачнейшым за кішке? — пытаўся ў мяне дзядуля і, не чакаючы майго адказу, сам адказваў: — Яшчэ адна кішке!



SHUTTERSTOCK, BY FFOLAS

**Крывянка была сезоннай, зімовай стравай**: свежая кроў у хатніх умовах даступная толькі падчас забіцця свінні, пад Каляды. Цяпер праблема іншая: дзе ўвогуле набыць якасную свежую кроў?


Амерыканскі варыянт беларуска-габрэйскай кішке

KCRW.COM

А што можа быць смачнейшае за дзве кішкес? — працягваў задаваць пытанні дзядуля. І я крычаў, імкнучыся апярэдзіць дзядулеў адказ: — Яшчэ адна кішке! — Не, — спыняў мой парыў дзядуля. — Пасля дзвюх кішкес ужо нічога не смачна! Бо ты ўжо сыты!»

### Кішкі і рок-н-рол

Як і многія іншыя традыцыйныя тутэйшыя стравы, кішке пераехала разам з габрэямі за акіян і здабыла пэўную вядомасць і там. У 1950-я ў ЗША была шалёна папулярнай полька «Хто скраў маю кішку?» (*Who Stole the Keeshka?*) Росквіт полек папярэднічаў рэвалюцыі рок-н-рола, але і пасля яе перамогі гэтая полька застаецца ў памяці амерыканцаў старэйшага пакалення адным з сімвалаў паваенных часоў

і дагэтуль перапяваецца ў шматлікіх каверах.

У амерыканскі варыянт беларуска-габрэйскай кішкі шчодра дадаюць папрыку, таму страва мае колер ад шараватага да бура-чырвонага. Апроч морквы, у яе дадаюць сельдэрэй, іншую гародніну. Кішке часта кладуць у *чолнт* — складаную тушанку з мяса, фасолі, крупаў, якую гатуюць на шабат, доўга тушачы ў печцы. Гатуюць кішке і ў Ізраілі: і дома, і прадаюць у гіпермаркетах. Меленую мацу часта замяняюць рысам, дадаюць курыную пячонку або страўнік. Ёсць і цалкам веганскія версіі, у штучнай абалонцы...




### Традыцыйная бульбяная кішка

Інгрэдыенты (на 4–5 порцый):

- *1 кг бульбы,*
- *1 сталовая лыжка алею,*
- *200 г шынкі,*
- *2 цыбуліны,*
- *1 яйка (як варыянт),*
- *тоўстыя свіныя кішкі (каля 150–200 г),*
- *соль, перац — на смак,*
- *4 зубкі часнаку.*

Бульбу пачысціць, патаркаваць, дадаць алею, каб не чарнела. Шынку нарэзаць дробнымі кубікамі, цыбулю абабраць і пашаткаваць, разам прыпусціць на патэльні. Дадаць да таркаванай бульбы соль і спецыі, пасля яйка (як варыянт), добра перамяшаць. Старанна памыць кішкі і нацерці соллю з цёртым часнаком. Нарэзаць кавалкамі каля 25–30 см даўжынёй. Перавязаць матузком з аднаго боку і напоўніць фаршам пры дапамозе варонкі (прыкладна на 2/3 аб'ёму), перавязаць з другога боку. Разагрэць духоўку да 180˚. Асцярожна накалоць кожны кавалак відэльцам у некалькіх месцах (прыкладна праз 5–6 см) і запякаць у духоўцы на блясе каля гадзіны або трохі болей, пераварочваючы з боку на бок некалькі разоў. Бляху трэба добра змазаць алеем або растопленым тлушчам. Пры патрэбе — дадаткова наколваць кішку ў працэсе запякання ў месцах, якія пачынаюць успучвацца, і паліваць тлушчам. Калі хочаце мець румяную скарынку, можна дадаткова падсмажыць кішку на патэльні. Падаваць са смятанай або сыраквашай, з халодным малаком.

Татарскія і габрэйскія варыянты кішкі — канечне, экзотыка для Беларусі, але хаця б традыцыйнай беларускай бульбяной кішцы пара вярнуць годнасць і славу. ◆




Старая вежа для аптычнага тэлеграфа ў Францыі.

# Аптычны тэлеграф: як гэта працавала

**Калі разглядаеш старыя здымкі Вільні — ад першых, сярэдзіны XIX стагоддзя, і да класічных фота Яна Булгака 1910-х, — кідаецца ў вочы дзіўная канструкцыя на гары Гедыміна. На сярэднявечнай мураванай вежы надбудаваная драўляная спаруда з вышкай-шпілем. Гэта вежа аптычнага тэлеграфа — папярэдніка сучасных сродкаў сакрэтнай урадавай сувязі. Піша Андрэй Вашкевіч.**

Сёння мы разумеем пад словам «тэлеграф» сродак перадачы сігналаў пры дапамозе правадоў, радыё або прыбораў электрасувязі. Адразу ўяўляюцца драты на слупах уздоўж дарог, азбука Морзэ... Але ў электрычнага тэлеграфа быў папярэднік — тэлеграф аптычны.

Ён перадаваў паведамленні з дапамогай сімвалаў, бачных на адлегласці. Уявіце драўляныя вежы вышынёй у 15–17 метраў з антэнай-мачтай у форме літары «Т». Мачта рухаецца. За ёй сочаць з такой самай вежы за восем–дзесяць кіламетраў. Паколькі на антэне ёсць ліхтары, то сігналіць можна і ноччу, і ў невялікі туман. Ад вежы да вежы зашыфраваныя паведамленні ідуць на сотні кіламетраў...

Так выглядаў аптычны тэлеграф, прыдуманы французскім інжынерам Жакам Шато для расійскага імператара Мікалая I. Пачынаючы з 1837 года сігналы са спецыяльнай вежы Зімовага палаца перадавалі на караблі флоту ў Кранштат, а таксама ў Гатчыну і Генеральны штаб. Паколькі вопыт аказаўся ўдалым, у 1839-м аптычны тэлеграф злучыў Пецярбург і Варшаву.

**Першы ў свеце аптычны тэлеграф** быў распрацаваны французам Клодам Шапам і выпрабаваны ў 1794 годзе. Лінія злучыла Парыж і Ліль — 225 км. І першым паведамленнем, перададзеным усяго за 10 хвілін, была дэпеша пра перамогу французскага войска над аўстрыйцамі. Пасля сістэму вежаў-семафораў шырока выкарыстоўваў для хуткай перадачы інфармацыі Напалеон.
Такі тэлеграф мог быць не толькі стацыянарным, але і паходным: яго мачты можна было разгарнуць і ў часовым вайсковым лагеры.

Уладзімір Караткевіч згадаў аптычны тэлеграф у рамане «Каласы пад сярпом тваім»:

«А потым зноў прыйшла вясна. Асеў наздраваты снег. Дзівосна сінела над горадам чысценькае, з рэдкімі імклівымі аблокамі неба. Аблокі імчаліся з-за гары, з-за кароткай, нібы назнарок абсечанай зверху, Гедымінавай вежы: два паверхі, на якіх прымасціўся і недарэчна, як жук-плывунец, махаў у паветры лапкамі аптычны тэлеграф. Перадаваў дрэнныя весткі. Увесь сакавік і ўвесь май цягнулася ўраганная бамбардзіроўка Севастопаля, не хапала зброі, гарнізон абяссілеў і трымаўся ледзь толькі не на цвёрдых людскіх душах — без дапамогі, без умацаванняў, без правіянту, без абозаў. І яшчэ аб тым, што загінулі Істомін і Нахімаў, што ўлада над людзьмі ў руках тых, якія няздольны кіраваць нават сабой».

### 22 хвіліны замест трох дзён

Гэта быў самы працяглы ў свеце вежавы тэлеграф — даўжынёй 1200 кіламетраў. Было пабудавана 149 прамежкавых станцый-вежаў. У сістэме выкарыстоўваліся люстэркі для адбівання сонечнага святла і свяцільнікі. Перадача 45-ці ўмоўных сігналаў з Пецярбурга ў Варшаву праз Пскоў, Дынабург, Вільню і Гродна ў пагодны дзень займала 22 хвіліны. Выдатна для эпохі без электрычнасці і тэлефонаў! Праўда, карыстацца гэтым «інтэрнэтам» маглі толькі цар і вайскоўцы.

Лёгка ўявіць, наколькі змяніў аптычны тэлеграф інфармацыйную прастору ў заходняй частцы Расійскай імперыі. Калі ў лістападзе 1830-га пачалося паўстанне ў Варшаве, Пецярбург даведаўся пра яго толькі праз тры дні. Звесткі ж пра падзеі 1848 года ў Еўропе з дапамогай аптычнага тэлеграфа даходзілі ў сталіцу Расіі з Варшавы менш чым за гадзіну!

Тэлеграф быў арганізаваны па-вайсковаму. Яго абслугоўвала 1 908 чалавек, падзеленых на шэсць рот — па колькасці ліній. Лінія ад Вільні да Гродна мела нумар «5» і абслугоўвалася дырэкцыяй, кіраваў якой Платон Зуеў.

### На памяць — толькі магіла

Дарэчы, магіла Платона Зуева ў Гродне — адзіны артэфакт, які застаўся ў Беларусі на памяць пра аптычны тэлеграф. Пакрыты мохам велізарны камень



**Вежа на Гары Гедыміна ў Вільні з надбудовай для аптычнага тэлеграфа.** Канец XIX стагоддзя.

ляжыць недалёка ад новага моста, дзе Літоўскі ручай упадае ў Нёман. Калі ў сонечны дзень прыгледзецца да яго паверхні, то ўбачыш надпіс: «Тут спачывае Дырэктар 5 Телеграфічнай лініі Платон Аляксеевіч Зуеў, пакінуў гэты свет 22 ліпеня 1847 года».

Зуеў знаходзіўся ў чыне маёра, меў ордэн Святой Ганны і знак за дваццаць гадоў бездакорнай службы. А пасля быў звінавачаны ў растраце казённых грошай. Платон Зуеў напісаў запіску, прыйшоў на бераг Нёмана і застрэліўся. Няшчаснага самагубцу пахавалі на ўскрайку старых могілак, якія там знаходзіліся.

Аптычны тэлеграф перажыў свайго дырэктара ненадоўга: з'явіліся больш перадавыя сродкі сувязі. Першы ў Беларусі электрычны тэлеграф з'явіўся ў 1859 годзе і злучаў Мінск з Бабруйскам. А ў Гродне электрычны тэлеграфны апарат паставілі ў 1861 годзе. Пасля чаго пачалася ўжо іншая гісторыя. ◆



**Вежа аптычнага тэлеграфа на даху Зімовага палаца ў Санкт-Пецярбургу.** Менавіта адсюль пачыналі высылацца сігналы расійскаму войску.

ALEX FLORSTEIN FEDOROV, WIKIMEDIA COMMONS




У выдавецтве **«Лімарыус»** нядаўна выйшла кніга ўспамінаў Барыса Клейна «Недасказанае».

Сябар Васіля Быкава і Аляксея Карпюка Барыс Клейн заснаваў у Гродне паўлегальны клуб вальнадумных інтэлектуалаў. Яны слухалі замежнае радыё, адкрыта асуджалі акупацыю Чэхаславаччыны.

Справа дайшла да самога Андропава. Улады выбралі Клейна, каб ударыць «в назидание остальным». У 1971 годзе Клейна звольнілі з універсітэта, пазбавілі вучонай ступені і звання дацэнта.

Навуковец быў вымушаны перабівацца рознымі заробкамі і ў снежні 1992 года выехаў на Захад, жыве ў ЗША.

Кніга ўспамінаў Барыса Клейна напісаная вельмі яскрава. На яе старонках — жывыя партрэты тагачаснай наменклатуры, у тым ліку кіраўніцтва Гродзенскай вобласці, а таксама калег па ўніверсітэце. Але галоўнае — гісторыя супрацьстаяння так званага «гродзенскага трохкутніка» Быкаў — Карпюк — Клейн сістэме.

Адзін з фрагментаў гэтых цікавых мемуараў, дзе ідзе гаворка акурат пра складаныя ўзаемаадносіны аўтара з савецкімі ўладамі, прапануем тут вашай увазе.

Да восені дзесьці наверсе, у Мінску ці ў Маскве, палічылі, што я занадта лёгка адбіўся. Запрацаваў новы механізм заціскання асобы. Цалкам сервільны Савет мединстытута, дзе я ўжо і не лічыўся, правёў пасяджэнне без майго ўдзелу і пераважнай большасцю галасоў пастанавіў пазбавіць мяне вучонай ступені і звання. Адпаведнае прадстаўленне неадкладна пайшло ў Маскву, і 14 красавіка 1972 года там па гэтым пытанні сабралі Пленум ВАК (Вышэйшай атэстацыйнай камісіі), якi аднадушна вырашыў: пазбавiць. У Гродна паступіла міністэрскае прадпісанне як з вышукной паліцыі: «забраць» у былога кандыдата навук і дацэнта Клейна ануляваныя атэстаты. Нічога я ім не аддаў, а замест таго напісаў у Маскву ліст, які паказаў Карпюку, і сябар даў мне кароткі наказ на дарогу: «Сунь ім у морду». [...]

З адказам яны не вельмі прамарудзілі, і 10 чэрвеня 1972 года мне прыйшоў афіцыйны ліст ВАК, падпісаны намеснікам вучонага сакратара: «Вучонай ступені кандыдата навук і вучонага звання дацэнта Вы пазбаўленыя па рашэнні пленума ВАК ад 14.IV.72 (прат. 23) за дзеянні, несумяшчальныя з высокім званнем савецкага навукоўца.

Асобы, якія пазбаўляюцца вучоных ступеняў і званняў, на пасяджэнне пленума ВАК не выклікаюцца». [...]

Беззаконнікі, якія скляпалі гэтую беспрэцэдэнтную справу, пазбягалі прадметнай палемікі са мной. Яе, амаль упэўнены, не было і на тым маскоўскім пленуме, дзе я стаў аб'ектам астракізму. Пра што спрачацца, калі і так усё зразумела: ім сказалі — яны выканалі. Заглыбляцца не варта было. А раптам падалося б камусьці, што мае дзеянні якраз і адпавядаюць званню навукоўца, няхай нават савецкага?

Не адпавядае ж гэтаму званню амаль усеагульнае маўчанне ягнят...

Пацешна, што той, хто падпісаў мне пагардлівую цыдулю, быў, як распавядалі пазней, зняты з працы і аддадзены пад суд разам з іншымі функцыянерамі ВАК за хабар у буйных памерах. Але гэта сутнасці маёй справы не тычылася.

Я ўсё думаў: няўжо сіла самадурства такая неабсяжная? У Мінску мяне, хутчэй за ўсё, не прымуць і не зразумеюць. А як з Масквой? Трэба было б асабіста звярнуцца.

У груваcткім будынку на Старой плошчы месцілася прыёмная ЦК КПСС. Туды дазвалялася ўвайсці, каб стаць у чаргу просьбітаў. Без дазволу нейкага начальніка далей не пускалі. Я зняў трубку ў тэлефоннай будцы.

— Інспектар ЦК КПСС Мардасаў слухае, — адазваўся голас.

Назваў сваё прозвішча, сказаў, адкуль прыехаў, і папрасіў:

— Мне трэба пагаварыць.

— Па якім пытанні?

Раптам я здагадаўся, як выклікаць цікавасць да сябе:

— Пытанне маё палітычнае.

Адказ не замарудзіў:

— Я скажу, каб вас прапусцілі.

У кабінеце Мардасава я ўбачыў за вялікім сталом каржакаватага ўважлівага чалавека. Ён вылучаўся, як цяпер бы выказаліся, паважнай «мордой лица», то-бок яго знешнасць цалкам гарманіравала з прозвішчам.

Даведаўшыся пра сутнасць справы, інспектар ЦК дастаў нейкую анкету і падрыхтаваўся запісваць. Заўважыў, праўда, што пытанне ў мяне няпростае. І перад тым, як вырашаць, ці трэба яму ўмешвацца, ён хацеў бы даведацца сякія-такія падрабязнасці:

— З Салжаніцыным не звязваліся? Не. А мясцовыя пісьменнікі там у вас моцна актыўнічаюць? Напэўна, чытаюць нядобрыя кніжкі, абменьваюцца з іншымі. Вось вы і назавіце імёны тых, ад каго атрымлівалі і каму перадавалі самвыдат. З кім вялі антысавецкія размовы. Так мы пераканаемся ў вашай шчырасці.

Стала зразумелая цана яго падтрымкі — поўнае раскаянне і выдача канкрэтных людзей. Быкава, Карпюка — каго яшчэ?

Я нагадаў:

— Мяне не абвінавачвалі ў распаўсюдзе самвыдату.

— Гэта няважна, яны маглі прапусціць, а мы тут з вамі адновім ісціну. Вы ж хочаце нам дапамагчы?

Я сказаў, што ніякіх імёнаў называць не буду.

— Вось гэта шкада, — скрывіўся Мардасаў, — не хочаце, значыць, разззброіцца перад партыяй. Тады

вяртайцеся, вамі зоймуцца мясцовыя органы. А мы ўмешвацца ў гэтую справу не будзем. Падстаў не бачу.

Здалося мне ўсё ж, што не варта было падаць духам. Трэба было б прыгледзецца да маскоўскіх раскладаў, даведацца, ці былі выпадкі падобнага роду і якія меры людзі прымалі ў адказ. Калі выбрацца ненадоўга ў Маскву, то змагу пабачыць Грыгулевіча. Папярэдне я паслаў яму ліст і атрымаў згоду на сустрэчу.

Яна была не першай. Я пазнаёміўся з ім раней, калі рыхтаваў да выпуску ў Вільні зборнік успамінаў былых членаў КПЗБ, а яго мне рэкамендавалі як падпольшчыка, які прайшоў вялікі шлях. Іосіф Рамуальдавіч Грыгулевіч паходзіў з літоўскіх караімаў. Навучаючыся ў Віленскай гімназіі, у пачатку 1930-х гадоў звязаўся з камсамольскім падполлем. Адседзеў невялікі тэрмін за гэта ў польскай турме (мне сустрэлася ў архіве яго справа). А затым, як ён мне распавядаў і як пісаў ва ўспамінах, адправіўся добраахвотнікам на вайну ў Іспанію, адтуль перабраўся ў Лацінскую Амерыку. Там удзельнічаў у левых рухах. Пасля вайны выехаў у СССР і ажыццявіў нарэшце сваю запаветную мару — стаў навукоўцам-гісторыкам, доктарам навук. Веданне іспанскай вызначыла выбар тэм яго шматлікіх публікацый. Кнігі ён публікаваў пад псеўданімам Лаўрэцкі, яны выходзілі ў серыі «Жизнь замечательных людей».

Іншых яго псеўданімаў, а дакладней шпіёнскіх мянушак, я ў той час, вядома, не ведаў. І нават не мог сабе ўявіць, што збіраюся ў Маскву, каб атрымаць параду ад аднаго з забойцаў Троцкага.

Толькі праз шмат гадоў быў падняты з маскоўскага архіва і апублікаваны сакрэтны ліст Берыі, адпраўлены Сталіну 6 чэрвеня 1941 года. У ім прасілася згода на ўзнагароджанне ордэнамі шасцёх таварышаў, якія паспяхова выканалі спецзаданне НКВД. Адным з іх быў названы І. Р. Грыгулевіч. На дакуменце рэзалюцыя Сталіна: «За (без публікацыі)».

Пасля выхаду з віленскай турмы нелегал «Юзік» быў высланы з Польшчы. Ён стаў супрацоўнікам замежнай сеткі Камінтэрна, затым агентам знешняй выведкі НКУС. У студзені 1940 года прыбыў у Мексіку, дзе арганізаваў замах на Троцкага. Тэрарысты літаральна зрашэцілі кулямі пакой сталінскага ворага, але той застаўся жывы (забілі толькі ягонага ахоўніка). Справу давяла да канца група Меркадэра. А ўганараваны таемнай узнагародай Іосіф Рамуальдавіч не толькі праводзіў тэрарыстычныя акты, але і ўліўся ў шэрагі лацінаамерыканскіх дыпламатаў. Тое было раней.

Перада мною ж з'явіўся будучы член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР. Жыццярадасны таўстун з тонкімі чорнымі вусікамі прыняў мяне ў сваёй новай прасторнай кватэры на Кутузаўскім праспекце. «Недалёка ад Брэжнева», — не прамінуў заўважыць гаспадар. Апранаўся ён бездакорна, па-руску гаварыў без акцэнту. Пакоі былі застаўленыя добрай мэбляй, на сценах вісела мноства масак, амулетаў, сувеніраў. Амаль незаўважна туды-сюды хадзіла мексіканка, якую мне прадставілі як жонку.

Мой невясёлы аповед Грыгулевіч выслухаў спакойна і спачувальна паківаў галавой: «Па чэхаславацкім пытанні не вы ж адны пацярпелі». Што можна, абяцаў даведацца, пацікавіцца ў знаёмых.

Дарэчы, панаракаў: вельмі, маўляў, заняты, проста рвуць на часткі. Праўда, плацяць прыстойна. «А калі атрымліваеш такія грошы, — дадаў ён з хітрай усмешкай, — то трэба мець і адпаведныя перакананні». Гэтую фразу я запомніў.

Прыкладна праз месяц я пазваніў з Гродна Іосіфу Рамуальдавічу. Якая змена! Я проста не мог паверыць, што са мной размаўляе той самы вальяжны навуковец. Ды ён і не гаварыў, а злосна, віскліва крычаў, абвінавачваючы: чаму я так падвёў яго, чаму адразу не сказаў, якая падкладка справы?

— Але ж там у іх чорт ведае што сабрана! Я не магу нічога зрабіць, не буду ўмешвацца. Больш не званіце!

Што канкрэтна выклікала такі яго спалох, я не меў уяўлення. Думаю, што сітуацыя ў цэлым. Яму раз і назаўсёды ўклалі ў галаву, што разведчык мусіць быць чысты. Лішнія кантакты неслі пагрозу. А выйшла, што дасведчаны чэкіст замешаны ў сувязі з антысаветчыкам, нават заступаецца за яго. Страта пільнасці ці перараджэнне? «А калі атрымліваеш такія грошы, то...» — успомнілася мне.

Падумаць толькі: сам Сталін лічыў Грыгулевіча адважным. Інакш не прызначаў бы яго выканаўцам архіважнага спецзадання. І не ўзяў бы правадыр у рукі такі, перададзены яму восенню 1951 года дакумент: «МГБ СССР просіць дазволу на арганізацыю тэракту супраць Ціта, з выкарыстаннем агента-нелегала "Макса" — тав. Грыгулевіча І. Р., грамадзяніна СССР, члена КПСС з 1950 г.». Далей там было напісана, што падчас аўдыенцыі ў Ціта «Макс» павінен будзе «з замаскіраванага ў адзенні бясшумна дзейнага механізма выпусціць дозу бактэрый лёгачнай чумы, што гарантуе заражэнне і смерць Ціта і прысутных у памяшканні асоб...» (самому тэрарысту паабяцалі ўкалоць супрацьчумную вакцыну).

Няважна, чаму сарвалася добра спланаваная аперацыя, галоўнае — не ліквідавалі самога «Макса» (ён жа «Юзік» і г. д.) і нават падарылі яму салодкае жыццё. Гэта называецца — пашанцавала. Дасягнуўшы «ступеняў вядомых», Грыгулевіч, зразумела, не захацеў спакушаць лёс. Вядома, я больш не званіў яму. І за далейшай яго кар'ерай не сачыў: шчыра кажучы, не да таго было.

Ішоў час. Аднойчы я ўбачыў газетнае паведамленне, што ў Маскве памёр буйны савецкі вучоны... аўтар шырока вядомых работ... які карыстаўся заслужаным аўтарытэтам у навуковых колах... уганараваны высокімі званнямі і ўзнагародамі... наёмны забойца.

Апошняе, зразумела, мая выдумка. Такога не маглі напісаць — нават уявіць немагчыма — у некралогу І. Р. Грыгулевіча.

# АПОШНІ ВАМПІР

ЧАСТКА 6






















У ДЭКАНАЦЕ...
ТАВАРЫШ СЦЯПАНАЎ, ПРОЙДЗЕМЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, З НАМІ...

...
ТРЭБА ЎДАКЛАДНІЦЬ ВАШЫЯ АНКЕТНЫЯ ЗВЕСТКІ!

І БЕЗ ЖАРТАЎ МНЕ ТУТ, НЕ ДЗЕРГАЦЦА...!

І ВОСЬ ЛЮДВІКА ЗНОЎ ПАВЕЗЛІ НА ПРАСПЕКТ СТАЛІНА ...

НУ, ЛЮДВІК РУДЗІЦКІ, ПРЫМУСІЎ ТЫ НАС ПАБЕГАЦЬ! БУДЗЕМ ЗНАЁМЫЯ - ЦАНАВА!

ЭММ... ТАВАРЫШ ГЕНЕРАЛ... ЛАЎРЭНЦІЙ ФАМІЧ... ПЭЎНА,ГЭТА НЕЙКАЯ ПАМЫЛКА, Я НЕ РУДЗІЦКІ...
ЦІ МАГУ Я ВЯРНУЦЦА ДА ВУЧОБЫ?

ХА-ХА, НЕ РУДЗІЦКІ, ЗНАЧЫЦЬ? А ВОСЬ У СНЕ ТЫ ГАВОРЫШ ЗУСІМ ІНШАЕ!.. ШМАТ ЧАГО ЦІКАВАГА ГАВОРЫШ, ЛЮДВІК РУДЗІЦКІ!
А СУСЕДЗІ ТВАЕ ПА ІНТЭРНАЦЕ ЎСЁ ЧУЮЦЬ І ДАКЛАДАЮЦЬ, КУДЫ СЛЕД, ХА-ХА!

ДЫ НЕ БОЙСЯ ТЫ МЯНЕ, Я ЦЯБЕ НЕ ПАКРЫЎДЖУ. НААДВАРОТ, ХАЧУ ВЫБАЧЫЦЦА. ПАЛКОЎНІК ТОЙ, ШТО ЗА ТАБОЙ ГАНЯЎСЯ, ПЕРАГНУЎ ПАЛКУ.
ЗА ШТО І АТРЫМАЎ ПА ЗАСЛУГАХ! БОЛЬШ ТЫ ПРА ЯГО НЕ ПАЧУЕШ!

А Я ТАБЕ ХАЧУ ПРОСТА ПАКАЗАЦЬ, ШТО ТЫ ГУБЛЯЕШ, КАЛІ АД НАС БЕГАЕШ. ХАДЗЕМ!

ЦАНАВА ПРЫВЁЎ ЛЮДВІКА Ў «СВАЮ» ВЕЖУ...
УВЕСЬ МІНСК ЯК НА ДАЛОНІ, А? ЛЮБІШ ФУТБОЛ? ГЛЯДЗІ, «ДЫНАМА» СЁННЯ ГУЛЯЕ!
УВЕСЬ ГЭТЫ ГОРАД, УСЯ ГЭТА РЭСПУБЛІКА – МАЕ! МАГУ ЗРАБІЦЬ УСЁ, ШТО ЗАХАЧУ! ПРАДУЕ СЁННЯ "ДЫНАМА" – ПАРАС-СТРЭЛЬВАЮ! А ЗАХАЧУ – УЗНАГАРОДЖУ! І ГЭТА ТОЛЬКІ Я,ЗВЫЧАЙНЫ ВАМПІР...
А ТЫ – ПАТОМНЫ, ПРЫРОДЖАНЫ – ТЫ МОЖАШ ВАЛОДАЦЬ ПАРЫЖАМ, ЛОНДАНАМ, НЬЮ-ЁРКАМ, УСІМІ ЦАРСТВАМІ СВЕТУ! ТОЛЬКІ БУДЗЬ З НАМІ! УЛАДУ ЛЮБІШ? ГРОШЫ, ЖАНЧЫН ЛЮБІШ? УСЁ БУДЗЕ ТВАЁ!
А ЦЯПЕР АДЧУЙ, ЯКУЮ МОЦ ДАЕ ЧАЛАВЕЧАЯ КРОЎ!..
ПІ!
СЯМЁН... ЛІННІК, ЖЫЦЦЯ... 33 ГАДЫ... НАРАДЗІЎСЯ Ў... МІНСКУ, ІНЖЫНЕР, ЖОНКА... СТЭФАНІЯ, СЫН ПЯТРО... РАССТРАЛЯНЫ...
СКУЛЬ Я ГЭТА ЎСЕ ВЕДАЮ?.. ШТО АДБЫВАЕЦЦА??? СІЛЫ РАСТУЦЬ... ГЭТА КРОЎ ТАК УЗДЕЙНІЧАЕ?! А НУ, ПАГЛЯДЗІМ...
ЦЯПЕР Я... МАГУ... ЧЫТАЦЬ ДУМКІ!.. ТАК...
ТАК, УСЁ ІДЗЕ ПА ПЛАНЕ... БУДЫНАК ТРАСЕ, ГЭТА НІЧОГА... АДРОБІМ ПАСЛЯ... ХАЙ П'Е, ТАДЫ Й САСО ПАВЕДАМІМ... І ЛАЎРЭНЦІЮ, КАБ ЯГО ХАЛЕРА... ГЭТА Ж ЁН ПРЫДУМАЎ – ЦАНАВА! МАЎЛЯЎ, У БЕЛАРУСІІ НЕ ВЫМАВЯЦЬ "ДЖАНДЖГАВА!"
НУ, ЧАГО МАРУДЗІШ, ПІ ДАВАЙ!..
НУ ЯК, АДЧУВАЕШ?! І ГЭТА ТЫ ЯШЧЭ НЕ ПІЎ!
У СТАРАЖЫТНАСЦІ ТАКІ, ЯК ТЫ, МОГ ВЫЙСЦІ АДЗІН СУПРАЦЬ ЦЭЛАГА ВОЙСКА!
УХ, ЯКАЯ МОЦ!!!
ТОЛЬКІ НЕ ПІ КРОЎ, ЧУЕШ? НІ Ў ЯКІМ РАЗЕ НЕ ПІ КРОЎ!
ЧАМУ ДЗЯДЗЬКА ВАСІЛЬ ТАК КАЗАЎ? У ПАПЕРАХ НЕ БЫЛО АДКАЗУ. ПАШУКАЕМ АДКАЗ У ГАЛАВЕ ЦАНАВЫ...ТАЛОЎНАЕ-СТРЫМАЦЦА І НЕ ПІЦЬ!


НУ, ЧАГО МАРУДЗІШ? ПІ ДАВАЙ, І БУДЗЕМ СТАЛІНУ ЗВАНІЦЬ!
ЧАКАЙЦЕ, ЛАЎРЭНЦІЙ ПАВЛАВІЧ, ТРЭБА ПРЫВЫКНУЦЬ... ДАЙЦЕ ЯШЧЭ РАЗ ПАНЮХАЦЬ...
НУ ПРЫВЫКАЙ, ПРЫВЫКАЙ...


ТАК... А ГЭТА... ШТО...?! ...
ТАТА!!!...
ВЫ НЕ РАЗУМЕЕЦЕ...ПРЫРОДЖАНЫ ВАМПІР, ВЫПІЎШЫ КРЫВІ, РАСЦВІТАЕ ЯК КВЕТКА. ЁН НАПАЎНЯЕЦЦА СІЛАЙ. ПАСЛЯ, КАБ ЗАХОЎВАЦЬ МАГУТНАСЦЬ , ЁН МУСІЦЬ ЗАБІВАЦЬ ЛЮДЗЕЙ. ЧЫМ ДАЛЕЙ – ТЫМ БОЛЬШ. Я ПЕРАТВАРУСЯ ПРОСТА Ў МАШЫНУ ЗАБОЙСТВА!..
СІЛКОМ ЯГО НАПАІЦЬ ТРЭ, ЧАГО З ІМ...
НЕ ПАДЗЕЙНІЧАЕ: ТРЭБА ТОЛЬКІ ДОБРААХВОТНА!
ТАКАЯ МАШЫНА НАМ І ТРЭБА. СТАЛІНУ ТРЭБА! САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ АЙЧЫНЕ ТРЭБА!!!


АХ ТЫ...!!!
НЕ ПАГАДЖАЕШСЯ, ЗНАЧЫЦЬ, КОНТРА? НУ НІЧОГА, ШЧАНЮКА ТВАЙГО ЗЛОВІМ, НЕ СХАВАЕЦЦА АД НАС! ЁН СТАНЕ НАШАЙ МАШЫНАЙ ЗАБОЙСТВА!


КУЛЯ СРЭБНАЯ?
ТАК...
ВІНАВАТЫ...
ДУРАЛОМ! МАГЛІ Ж ЯШЧЭ З ІМ ПАПРАЦАВАЦЬ!
НУ, ХОЦЬ ПАДСІЛКУЕМСЯ ТРОХІ...


ЛЮДВІК АПРЫТОМНЕЎ. ЦЯПЕР ЁН ВЕДАЎ УСЁ...
ДЫ Я ЦЯБЕ ЗНІШЧУ, ПОГАНЬ!!!
ПАЧАКАЙ, НЕ ТАК ХУТКА!...
КЛІК!
АХ ТЫ...




МЫ ЯШЧЭ НЕ СКОНЧЫЛІ!
ПАСЯДЗІ ТУТ ПАКУЛЬ, ПАДУМАЙ... ЧАСУ Ў ЦЯБЕ БУДЗЕ ШМАТ! ХА-ХА!

Аднойчы раніцай Танаку пабудзіў гук сякеры.

Тата, а што ты робіш?

Я вырашыў пабудаваць мост цераз раку.

Цюк!

Шкада, сякера слабаватая. Вось каб мне Перунову сякеру – я б тады ўмомант мост зладзіў.

Якую-якую сякеру? Новую?

Ды не, Перунову. Кажуць, была калісьці такая вельмі магутная сякера.

Сынок, а ты мне хіба не дапаможаш?

Потым! Спачатку адшукаю гэтую загадкавую сякеру.








Не дуры хлопцу
галавы сваімі казкамі!




Як толькі
Танака
сышоў,
з’явілася
Зорачка.











**Танака зноў паляцеў у мінулае праз чароўную ракавінку часу.**







Вазьміце мяне з сабой!

Дык вось што ты задумаў, Танака...

Працяг будзе...




Вашыя дзеці могуць даслаць ліст Танаку, Зорачцы ці іншым героям Пластыляндыі.
Пішыце на адрас: Алесю Кудрыцкаму (для Танакі) а/с 9, г. Мінск 220034 —
ці на электронную пошту tanakaletters@gmail.com Таксама можаце шукаць нас
у сацыяльных сетках: https://www.facebook.com/kapitantanaka https://vk.com/plastylandia


ФОТА З АРХІВА ШКОЛЫ № 107 ГОРАДА ЧЭЛЯБІНСКА

## «Лазілі па трупах, шукалі сваіх дзяцей»

30 гадоў таму ў Расіі пад Уфой адбылася найбуйнейшая ў гісторыі чыгуначная катастрофа. У ноч на 4 чэрвеня 1989 года ў выніку магутнага аб'ёмнага выбуху газу згарэлі два сустрэчныя пасажырскія цягнікі. Трагедыя адбылася на 1710-м кіламетры Транссібірскай магістралі.

Нафтагазаправод праходзіў за 900 метраў ад Транссіба. Яго будавалі як нафтаправод, а выкарыстоўвалі для транспартавання нафтагазавай сумесі. За чатыры гады да трагедыі сістэму рамантавалі, і экскаватарам зачапілі трубу. Рабочыя павінны былі пра тое паведаміць начальству, а яны проста засыпалі трубу і пакінулі. Праз 4 гады там утварыўся свішч, а пасля і трэшчына.

Газ сцякаўся ў нізіну, пра яго пах паведамлялі жыхары навакольных вёсак і машыністы цягнікоў. Аднак ніхто не наважыўся спыніць рух на стратэгічным кірунку. Да моманту выбуху, выявіць следства, даўжыня трэшчыны дасягне 1,5 метра. За тры гадзіны да бяды хуткасць уцечкі стала такая, што ў трубе знізіўся ціск, але ніхто і не падумаў спыніць падачу паліва. Краіне патрэбная валюта! І ціск, наадварот, паднялі.

І тут два супадзенні. Першае: дзень. Роўна за год да таго, 4 чэрвеня 1988-га, у Арзамасе Горкаўскай вобласці ўзарваліся вагоны з гексагенам, тады загінулі 93 чалавекі і паўгорада пашманала. Другое: у даліне адначасова ехалі два цягнікі. І ці то нехта закурыў у акне, ці то пантограф іскрануў.

Газу да таго моманту сцяклося столькі, што прагрымеў выбух магутнасцю як дзве трэці хірасімскага. Сотні людзей у эпіцэнтры, у хваставых вагонах, згарэлі зажыва. На паўтара кіламетра вакол лес ператварыўся ў абгарэлыя старчакі. З пярэдніх вагонаў людзі беглі ў свет, у тайгу, гарэлі і беглі. У суседнім гарадку Аша пабачылі «грыб», падумалі: атамная вайна. Ратавалі людзей хто як мог.

Згарэла юнацкая хакейная каманда з Чэлябінска, згарэлі школьнікі, якія ехалі пад Краснадар у працоўны лагер збіраць чарэшні...

А некалькіх прарабаў і экскаватаршчыкаў пасля шасці гадоў следства пасадзяць на хімію.

## Як мянушкі ўтвараліся

Партал **«Што было»** (shtobylo.by) піша пра гісторыю Паазер'я, Глыбокага, Пастаў. Алесь Гарбуль туды запісаў ад старога чалавека, адкуль пайшлі якія мянушкі ў Лынтупах (Пастаўскі раён Віцебскай вобласці).

«Ігнацішскіх Шымкавічаў Карасямі абзываюць. Ворнай зямлі ў іх было небагата. Усё болей балоты ды нізіны. Але ў сваіх балотах і нізінах панакапалі яны сажалак, стаўкоў невялікіх ды рыбу разводзілі ў іх на продаж. Усе Лынтупы і Свянцяны тады ў іх рыбу куплялі. Яны і ў Вільню рыбу сваю вазамі вазілі. Там у іх тры свае крамы для гэтага былі. Як прыйдзе пара сенакосу, дык яны, як мурашы, усім сваім родам незлічоным высыпалі на свае балоты. Ды амаль усю працу рабілі па калена ў вадзе! Вось іх і абазвалі "карасямі". Так гэта мянушка і прыліпла да іхняга роду.

Праўда, з тых даўнейшых часоў з іхняга вялікага роду мала хто і застаўся. Старыя казалі, што ў час паўстання Касцюшкі ці то самі яны паўстанцамі былі, ці то паўстанцаў у сябе хавалі — рознае казалі. Толькі адно людзі ведаюць, што неяк тады на іх казацкі атрад наляцеў і ўсіх пасеклі. Казалі, што казакі не пашкадавалі ні жанчын, ні малых дзяцей. Толькі два малыя хлопчыкі з іхняга роду паспелі ўцячы і схавацца неяк у дрыгве. Там людзі іх і знайшлі апасля. Вось толькі з-за гэтых двух хлопчыкаў і ацалеў у нас іхні род.

А можа, помніш, у 60-х быў такі Алік Якубовіч, вельмі добра на скрыпцы граў! Ніводнае вяселле ці якая гулянка без яго не абыходзіліся! Таму да яго і прыліпла мянушка Скрыпка. Як скажаш "Алік Якубовіч", дык рэдка хто такога і ведае, а як скажаш "Скрыпка" — дык усе ведаюць!

Як гэтага Якубовіча Скрыпкай абзывалі з-за таго, што добра граў на скрыпцы, так і ўсіх Шапеляў абзывалі Гайды. Казалі, з-за таго, што іх продак на гайдзе калісьці граў. Гайда — гэта такая дуда з мяхамі, падобнымі на кавальскія, толькі меншымі. А Шапелі то, казалі, французскага паходжання, аднекуль з Францыі пераехалі, былі музыкамі ў пана.

А ў Юравінах была зямля твайго дзеда, Ягора Гарбуля. Твайго дзеда абзывалі Юрачкам. Вось і ўсё

ўрочышча так назвалі, Юравінамі. Чаму дзеда твайго абзывалі Юрачкам? Ды таму, што ён быў такі маленькі, прыгожанькі.

Яшчэ дзед твайго дзеда, Мацеем яго звалі, як быў падлеткам, быў няпісанай прыгажосці, нібыта святы Юр'я, сышоўшы з нябёсаў. З-за гэтай яго прыгажосці моладзь на ўсіх вясновых святах толькі яго бесспрэчна выбірала Юр'ем. Вось і прыліпла да яго мянушка Юрка на ўсё жыццё. Пазней і сыноў яго, Марціна, Аўгустына і прадзеда твайго Усціна, так абзывалі. А з унукаў чамусьці гэта мянушка прыліпла толькі да твайго дзеда Ягора. Можа, ён на свайго дзеда, Мацея, быў вельмі падобны, ці што яшчэ? Не ведаю.

Пра гэтага твайго прапрадзеда Мацея старыя калісьці шмат чаго цікавага казалі. Вельмі паважаны ў людзей быў чалавек! З царом за нашу волю біўся, за гэта на катарзе ў Сібіры пакутаваў. Казалі, што адразу, калі ён вярнуўся з катаргі, за Цагельняй, у канцы Прыдаткаў, паставіў вялікі дубовы крыж па ўсіх паўстанцах, што не вярнуліся дахаты.

Шмат гадоў той крыж прастаяў у тым месцы, бо "маскалі" так і не даведаліся, з-за чаго і па кім гэты крыж стаіць. Здаецца, што толькі недзе пад канец шасцідзясятых паваліўся гэты крыж ад старасці. Што ж зробіш! Так ёсць. Нічога вечным не бывае...»

**Ад рэдакцыі.** Дарагія чытачы, а якія родавыя і асабістыя мянушкі бытуюць у вашай мясцовасці? Ад чаго яны ўтварыліся? Падзяліцеся з намі цікавымі гісторыямі!


Злачыннае скарыстаньне замежнага спэцыялістага

Мы патрабуем прыцягнуць вінаватых да суровай адказнасьці

## Ільф і Пятроў чыталі «Звязду»?

«Сюжэт з ільфа-пятроўскага "Залатога цяляці" адбываўся і ў БССР. Нямецкі спецыяліст-будаўнік інжынер Эберт на старонках газеты "Звязда" № 182 1930 года скардзіцца, што кантора Белбудаб'яднання, у якую ён прыехаў, зусім не дае яму працы, але грошы плаціць.

"У выніку інжынер Эберт падае дакладную запіску з просьбай звольніць яго, матывуючы тым, што ён прыехаў працаваць, а не сядзець і, нічога не робячы, атрымліваць грошы", — гэта амаль даслоўная цытата з "Залатога цяляці", якое было завершана ў 1931 годзе:

"Через месяц очень взволнованный Заузе поймал Скумбриевича в буфете и принялся кричать:

— Я не желаю получать деньги даром! Дайте мне работу! Если так будет продолжаться, я буду жаловаться вашему патрону!"» — знаходкай у старой газеце падзяліўся ў фэйсбуку гісторык **Уладзімір Садоўскі**.

## Археалагічны музей у Камянюках

«У Белавежскай пушчы адкрыўся археалагічны музей пад адкрытым небам "Камянюкі" (**на фота — злева**). Яго першая частка — гарадзішча позняга бронзавага — ранняга жалезнага вякоў!» — з гонарам напісаў у сваім фэйсбуку **Вадзім Лакіза** — археолаг, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі Акадэміі навук. Ён таксама падзяліўся фотаздымкамі з адкрыцця.

Пасля правядзення раскопак на тэрыторыі старажытнай стаянкі ўзвялі гарадзішча, якое паказвае жыццё чалавека VII стагоддзя да н. э. — V стагоддзя н. э.

Плануецца, што гэта толькі першы з сямі скансэнаў, якія будуць паказваць жыццё ад каменнага веку, калі чалавек толькі з'явіўся на нашых землях, да Сярэднявечча.

На тэрыторыі пушчы выяўлена каля 200 стаянак першабытнага чалавека, адзначыў на адкрыцці дырэктар запаведніка.◆



Пляцоўка
для абмену
ведамі

# ВУЧЫЦЕ ІНШЫХ І ВУЧЫЦЕСЯ САМІ

ад хакея з мячом
да праграмавання

info@mentor.by
vk.com/mentorby
facebook.com/mentorbypage
instagram.com/mentorby_

ІП АНОХІН КІРЫЛА АНАТОЛЬЕВІЧ, УНП 193203461